Працы, што выдае Інстытут, зьяўляюцца вольным выражэньнем аўтарскіх паглядаў і вывадаў, якія не абавязкава маюць супадаць з паглядамі й вывадамі Выдавецкай Калегіі.

---------



Рэдагуе Выдавецкая Калегія Навуковай Рады Інстытуту

Herausgeber: Institut zur Erforschung der UdSSR, e.V. München 37, Schliessfach 5, Germany. - Verantwortlicher Redakteur: Dr. Stanisłaŭ Stankievic, München 2, Augustenstrasse 46/III.

Institute for the Study of the USSR

Prof.Dr. Jan Stankievič

# THE SOVIET FALSIFICATION OF BELORUSSIAN HISTORY

---

Institut zur Erforschung der UdSSR

Prof.Dr. Jan Stankievič

# DIE SOVJETISCHE VERFÄLSCHUNG DER GESCHICHTE WEISSRUTHENIENS

---

Institut d'études sur l'URSS

Prof.Dr. Jan Stankievič

# LA FALSIFICATION SOVIETIQUE DE L'HISTOIRE BIELORUSSIENNE

---

M ü n c h e n

1 9 5 6

Інстытут Гісторыі Акадэміі Навук Беларускай ССР выдаў у 1954 г. "Историю Белорусской ССР" /парасейску/[I]. Праца гэта зборная. Здавалася-б, што калі Акадэмія Навук Беларусі выдае працу зь гісторыі Беларусі, дык найадпавяднейшымі аўтарамі да апрацаваньня яе былі-б беларускія гісторыкі. Але спаміж аўтараў менаванае кнігі мы не знаходзім ніводнага ведамага беларускага гісторыка. А зь ведамых іншых беларускіх вучоных аўтарам толькі часткі першага разьдзелу /першабытна-грамадзкі лад, матрыярхат, патрыярхат/ археалёг К.Палікарповіч. Але ўжо аўтар чацьвертага падразьдзелу гэтага разьдзелу, дзе кажацца пра "Ўтварэньне стараруская народнасьці", Расеец Пьянков. Паводля прозьвішча можна думаць, што аўтары беларускага паходжаньня К.Шабуня і, магчыма, Э.Карнейчык. Яны аўтары трох малаважных разьдзелаў ХУІІ, ХХ, і ХХІ.

Колькі прозьвішчаў ёсьць нямецкага паходжаньня, гэта відавочна абруселыя Немцы або Жыды. Да іх належаць разьдзелы пераважна культурнага характару - ІХ /Культура Беларусі ХУІІ-ХУІІІ стг., аўтар Грынблят/, ХУ /Грынблят із Карнейчыкам/ і ХУІ /Мэльцар і Шабуня/.

Засталыя І5 разьдзелаў, у тым ліку ўсе палітычнага характару, апрацаваныя чыстымі Расейцамі /Пьянков, Никольский, Абецедарский, Баранова, Дудков, Перцев, Воронова/, аднымі або пры некаторым удзеле ў разьдзеле І, як было сказана, Палікарповіча, у разьдзеле У Грынблята /народнае творства/, у разьдзеле ХІІ Фрыдмана і ў ХІУ Карнейчыка.

Такім парадкам, можна сказаць, што ў вапрацаваньні "гісторыі БССР" Беларусы /навет толькі паводля паходжаньня/ блізу ня бралі ўдзелу, і галоўная, калі ня блізу вылучная, роля ў вапрацаваньні яе належыць Расейцам. Можна яшчэ зацеміць, што як паведамляла савецкая прэса, рукапіс кнігі перад адданьнем яго да друку быў доўга перагляданы й папраўляны адказнымі дзейнікамі

СССР. Дзеля таго можна быць пэўным, што "История БССР" у поўнай меры адбівае тэндэнцыі цяперашняга палітычнага курсу СССР. Кніга напісаная папулярна і, відаць, разьлічаная на шырокую прапаганду.

Аўтары кнігі ня цытуюць ніякіх жаролаў, і ў канцы яе не паданая літаратура, якой яны карысталіся. З гэтае прычыны разгляд кнігі вымагае шмат болей месца, чымся калі-б жаролы былі паданыя /у такім выпадку часта даволі было-б прыраўнаваць цьверджаньні да жаролаў/, і каб зьмясьціць яго ў вадным артыкуле, я мушу абмежыцца толькі галоўнымі цьверджаньнямі аўтараў.

## Тэрыторыя Беларусі

Кніга мае назоў "История БССР". Супраць такога назову ня можна было-б нічога мець, калі-б праца абыймала час быцьця БССР, значыцца, пачынаючы ад 1919 г., калі БССР паўстала. Тымчасам аказваецца, што пад "Историей БССР" маем разумець гісторыю Беларусі ў ейных этнаграфічных межах, пачынаючы ад найдаўнейшага часу. Навет і такая замена адпаведнага назову неадпаведным ня была-б такой шкоднай, калі-б за ёй не стаяла абрэзаньне гістарычнай і этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, уціськненьне яе ў штучныя межы цяперашняй БССР.

4 беларускія паветы /Аўгустоўскі, Беластоцкі, Сакольскі й Бельскі/, якія па 2-й сусьветнай вайне Саветы аддалі Польшчы, названыя ў кнізе паветамі зь пераважна польскім жыхарствам, дарма што ў зборнай польскай граматыцы тры апошнія паветы й блізу ўвесь Аўгустоўскі застаецца на ўсходзе ад польскай этнаграфічнай мяжы[2].

Пра адступленую бальшавікамі Вільню з ваколіцамі аўтары кнігі не ўспамінаюць, як-бы яе ня было. Беларускія землі на ўсход і поўнач ад БССР, роўныя прыблізна цяперашняй тэрыторыі яе, у кнізе залічаныя да расейскіх з гледзішча гістарычнага й этнаграфічнага. Гэта на толькі відавочнае грубое хвальшаваньне заправаднага стану, што, здаецца, не патрабуе ніякіх довадаў супраць, і хоць крыху азнаёмленыя зь гісторыяй і этнаграфіяй Беларусі прызнаюць, што гэткае цьверджаньне "Истории БССР" чыста разьмінаецца з праўдаю. Тым ня менш, я прыводжу довады, хоць даво-



дзіцца абмежыцца адно некаторымі.

Даль у сваім слоўніку кажа:

> "/Падмова/ заходняя, беларуская або смаленская, цягнецца ад Масквы на захад і няўпрыцям пераходзіць у чыста беларускую, на якую ўжо ладна намінае /"намекает"/ навет гаворка ў Валакаламску, Рузе й Мажайску. Бязь ніякага нацягненьня можна ўлучыць сюды ўсе нашыя заходнія губэрні, і тады да гэтае падмовы будуць належаць губэрні: Смаленская, Віцебская, Магілеўская, Віленская, Горадзенская, Менская: адны толькі паны гавораць там папольску".[3]

Даль гэтак канчае разгляд "заходняе падмовы":

> "У суседніх губэрнях Ржэў, Зубцоў, Валакаламск, Мажайск, Медынь, Масальск, носяць на сабе болей або меней пазнакаў беларускае або смаленскае гаворкі... Вялікі ўдзел беларускага чуваць у Чарнігаўскай, Арлоўскай, Калускай, Цьверскай і асабліва Пскоўскай /губэрнях/".

Пыпін піша:

> "... На этнаграфічнай мапе, выданай у 1875 г. "Географическим Обществом" /"Этнографическая карта белорусского племени"/ мы знойдзем беларускае племя раськівенае па вялізманай прасторы ўсяго заходняга краю, болей або меней суцэльнымі масамі; паводля гэтае мапы й іншых жаролаў - яно пашыранае, апрача губэрняў Віцебскай і Магілеўскай, таксама ў губэрнях Віленскай, Горадзенскай, Менскай, Сувальскай, Смаленскай, Чарнігаўскай, Пскоўскай, наапошку невялікімі часткамі, навет у Ковенскай, Цьверскай, Маскоўскай і іншых"[4].

Паводля Маскоўскае дыялекталягічнае камісіі Расейскай Акадэміі Навук, моўная беларуска-расейская мяжа на ўсходзе праходзіць усходнім берагам р. Гжаці ў Гжацкім павеце Смаленшчыны, адразае да Беларусі заходнюю, большую частку б.Калускай губэрні, ад утоку Вугры ў Аку йдзе ўздоўж Акі да м.Белева, тады паварочае на паўдзённы захад да м.Болхава, праходзіць крыху на ўсход ад м.Карачэва й Дзьмітраўска б.Арлоўскае губ. і 25 км. ад м.Дзьмітраўска б.Курскае губ.[5]

Дасьледваньні Карскага, Растаргуева, Курылы й іншых сьцьвердзілі бяссумлеўную беларускасьць мовы нашчадкаў племя Севяран /паўночная частка б.Чарнігаўскай губ. зь местамі Навазыбкаў, Старадуб, Клінцы, Мглін, Сураж і інш./[6].

У працах Р.Аванесава, П.Кузьнецова і П.Чэрных[7] беларускарасейская моўная мяжа на ўсходзе наагул тая самая, што і ў Маскоўскай Дыялекталягічнай Камісіі.

Беларускасьць паўночных паветаў /Себескага, Невельскага й Вяліскага/ Віцебшчыны, што засталіся вонках БССР, сьцьвердзілі Карскі, Бузук, Кузьмін і інш.[8].

Таксама Карскі сьцьвярджае беларускасьць паўдзённых частак павету Апочацкага, Вялікалуцкага й Тарапецкага, б.Пскоўскай губ. ды большай часткі Ржэўскага, часткі павету Зубцоўскага й некаторых іншых мясцовасьцяў б.Цьверскай губ.[9] Што да Цьверскай губ., дык цяперашнюю беларускасьць мовы заходняй часткі павету Ржэўскага сьцьверджаюць Голанаў[10] і Грынкова[11].

З выняткам адзначанай паўдзённай часткі, у якой чыстая беларуская мова, у засталай Пскоўшчыне беларуская мова вельмі зрусыфікаваная; расейскія аўтары ў бальшыні прызнаюць яе пераходнай на расейскай аснове і беларускім напластаваньні, але з гэтым нельга згадзіцца. Да XVII ст. улучна ў Пскове й Пскоўшчыне была чыстая беларуская мова, пра што сьветчаць пскоўскія памяткі. У Тульшчыне, Разаншчыне, усходняй частцы Калужчыны, Арлоўшчыны й Куршчыны, прынамся да пачатку XVIII ст. была беларуская мова, пасьлей зрусыфікаваная, і дзеля таго й гэтыя прасторы трэба ўлучаць у гісторыю Беларусі, прынамся да 1520 г., значыцца, пакуль існавала Разанскае княства.[12]

З усяго гэтага відаць, што разгляданую "Историю БССР" трэба назваць вівісэкцыйнай гісторыяй Беларусі, гісторыяй штучна адрэзанае палавіны Беларусі.

## Паходжаньне Беларускага народу

Аўтары "Истории БССР" бязь ніякіх довадаў, á priori ўважаюць, што Беларусы славянскага паходжаньня. Тымчасам дадзеныя археалёгіі, топанімікі й мовы пацьвярджаюць гэта толькі часткава, наймя, што Славяне былі аднэй із дзьвюх складовых частак беларускага народу. Другой складовай часткаю былі Балты. Археалёгія сьветча, што да прыходу Славян на цяперашнюю беларускую тэрыторыю яна ўся была занятая Балтамі.

Каб была добра відаць балцкасьць дагістарычнае Беларусі, я адзначу некаторыя дасьледаваныя археалягічныя балцкія памяткі на розных беларускіх прасторах.



### Гарадзішчы[13]

У вартыкулах "Городища" і "Новые сведения" Сьпіцын разглядзеў балцкія гарадзішчы ля вышняе Акі ў б. паветах Жыздрынскім /Жыздра/, Болхаўскім /Болхаў/, Белеўскім /Белеў/, Ліхвінскім /Ліхвін/, Адоеўскім /Адоеў/, Тульскім /Тула/, Перамышльскім /Перамышль/, Мяшчоўскім /Мяшчоўск/, Масальскім /Масальск/, Турускім /Туруса/, Зарайскім /Зарайск/, Карачэўскім /Карачэў/. Як бачым, гэтая прастора спачатнага гістарычнага пасяляньня плямя Вяцічаў, пра што добра ведама зь летапісаў.

Адылі, адно такое гарадзішча дасьледаванае "близка сяла Лопазна Мглінскага пав. паміж Мглінам і Суражам ля ракі Іпуці, значыцца, ужо на северскай прасторы". Сьпіцын добра адзначае тут-жа, што "апошняе гарадзішча надта важнае, бо дае надзею знайсьці ці мала гарадзішчаў дадзенага тыпу ля Сожу /зн. на прасторы Радзімічаў - Я.С./ і Дзясьне /на прасторы Северан/[14].

Новазыбраныя ведамкі дазволілі Сьпіцыну сьцьвердзіць, што раён балцкіх гарадзішчаў павінен быць пашыраны на вышнявіны Дняпра, на р.Вазузу і "само собою назначаецца група цьверскіх і смаленскіх гарадзішчаў, што выразьліва характарызуецца сваім знадворным уладжаньнем: гарадзішчы гэтыя маюць адзін, два, або навет тры валы"[15].

Зь цьверска-смаленскае групы гэтых гарадзішчаў Сьпіцын называе 4 гарадзішчы ля Дарагабужу, тры ў Гжацкім павеце, тады ў м.Асташкаве, Ржэве, ля сутокаў Вазузы й Асугі, у Зубцоўскім пав. і інш., ды на Дзьвіне ля сяла Юпіна Гарадоцкага пав., паміж вышнявінамі Лаваці й Дзьвіны[16].

У 1951 г. савецкі гістарычны музэй зрабіў археалягічнае дасьледваньне ў б. Тульскай губ. уздоўж Упы, правае прытокі Акі. Вывучылі сем гарадзішчаў і адно селішча. Пра вынікі дасьледваньня паведаміла Ізюмава ўварт. "Археологическая разведка". Агульны аўтарчын выснаў пра дасьледваныя аб'екты гэткі:

> "Усе вышапісаныя гарадзішчы Тульскае вобласьці належаць да І-ае палавіны І тысячагодзьдзя нашае эры. Ад дзяковых яны розьняцца азнакамі, характарыстычнымі для ўсіх вышнявокаўскіх /"верхнеокских"/ гарадзішчаў /А.Спицын. Новые сведения о городищах Дьякова типа. ЗОРСА, т.VII, 1905-1907, б. 92/: сувязяй із стараславянскімі мясцовымі курганамі, знаходжань-

> нем чорнапаліванае керамікі й чорнапаліваных цяжарцаў /да вярцёнаў/ із шырокай адтулінаю, незнаходжаньнем "сеткавае" тэкстыльнае керамікі, незнаходжаньнем "грузікаў" дзяковага тыпу. "Тым-жа самым часам кераміка тульскіх гарадзішчаў блізкая да роменскае /зн. северскае - Я.С./ керамікі. Значыцца, гэтыя гарадзішчы можна ўважаць за старавечна-славянскія".I7

Высная неспадзяваны.

Сьпіцын у варт. "Верхнеокские городища" /I903 г./ і "Новые сведения" /I905/ яшчэ ня быў пэўны ў балцкасьці вышнявокаўскіх гарадзішчаў. У першым артыкуле ён толькі зацеміў:

> "Калі з часам давядзецца вышнявокаўскія гарадзішчы вылучыць у вапрычоную групу, дык найбліжэйшым кандыдатам на іх будзе Літва".I8

Адылі, далейшыя дасьледаваньні й знаёмства з гарадзішчамі цяперашняе тэрыторыі этнаграфічных Балтаў пераканалі Сьпіцына ў бязумоўнай балцкасьці вышнявокаўскіх ды іншых вышназваных гарадзішчаў.

У I926 г., ацэньваючы дасьледаваньня Ляўданскім гарадзішчы Смаленшчыны /гл. ніжэй/, Сьпіцын прызнаў іх за балцкія, і раён балцкіх гарадзішчаў вызначыў ад ракі Сьвента ў цэнтру Лятувы /у б. Ковенскай губ./ да р. Вугры, прытокі Акі, улучаючы сюды й вышнявокаўскія гарадзішчы.I9 У тым-жа I926 г., у сваім рэфэраце на зьезьдзе дасьледаваньнікаў беларускае археалёгіі й археаграфіі ён сьцьвердзіў, што "вялікі сьцяг балцкіх гарадзішчаў ідзець праз усю Беларусь да Балтыцкага мора". На тым-жа зьезьдзе, па рэфэраце Ляўданскага пра дасьледаваньня ім гарадзішчы Смаленшчыны, Сьпіцын прызнаў іх за літоўскія, прызнаўшы таксама, што гэная зямля "ў УII-УIII стг. была занятая Літоўцамі" ды што "такія гарадзішчы, дзе-б яны ня былі, трэба ўважаць за літоўскія. Яны й да ракі Арэдзежа /у паўдзённай частцы б. Пецярбурскае губ. - Я.С./. У Цьвершчыне поўна літоўскіх гарадзішчаў. Літоўскія гарадзішчы пашыраныя на ўсю Ковенскую губэрню". "Такім парадкам, - казаў ён, - дасьледаваньнікі гісторыі Беларусі павінны лічыцца зь літоўскім элемэнтам".20

Дасьледаваньні Лаўданскім гарадзішчаў Смаленшчыны, у якіх азначалася прызнаньне іх ды іншых падобных аўтарам і Сьпіцынам за балцкія, былі надрукаваныя ў I926 г. у працах Смаленскага ўнівэрсытэту, а працы першага зьезду дасьледаваньнікаў беларускае



археалёгіі й археаграфіі былі выданыя Інстытутам Беларускае Культуры ў I926 г. у Менску; значыцца, як адныя, так і другія былі прыступныя Ізюмавай, і калі яна ня прыводзе ніякіх аргумэнтаў супроць, адно іх ігнаруе, і тульскія, як і вышнявокаўскія, гарадзішчы прызнае за славянскія, дык значыцца, а/такіх аргумэнтаў яна ня мела і б/славянскасьць гэных гарадзішчаў была падыктаваная ёй тэорыяй аўтахтоннасьці, якая цяпер палітычна абавязвае ў археалёгіі СССР. Зацемлю, што, апрача прыведзеных аўтаркаю асаблівасьцяў тульскіх гарадзішчаў, із гарадзішчамі вышнявокаўскімі й наагул балцкімі іх лучча яшчэ тое, што іхная кераміка арнамэнтаваная рознымі ўціскненьнямі /"вдавливаниями"/ і што яны былі насыпаныя з паленай гліны /бб. 68,70,72,74,76 арт. Ізюмавае/. Прастора Тульшчыны ўходзе ў спачатную /і пасьлейшую/ прастору племя Вяцічаў. У згодзе з археалягічнымі дадзенымі пра раён р. Упы і лінгвістычныя дадзеныя пра тое, што ўперад у раёне Упы моваю жыхарства была мова беларуская.2I

Галоўныя дасьледаваньні гарадзішчаў Смаленшчыны зробленыя Ляўданскім. Даведваемся пра іх із ягонае працы "Некоторые данные о городищах Смоленской губ.". Смаленскія гарадзішчы дзеляцца на 4 групы. Да першае групы належаць найстарэйшыя гарадзішчы, якіх у Смаленшчыне налічаюць 70% усіх у ёй гарадзішчаў. Наколькі вялікі гэты лік, відаць із таго, што ў б.Смаленскай губэрні "зарэгістравана каля 2 тысячаў селішчаў, ля якіх ёсьць тыя або іншыя археалягічныя памяткі"; вялізарная бальшыня іх, паводля ўсяго, належа да гарадзішчаў. Сам Ляўданскі ў названай працы даець сьпісаньне больш за 400 гарадзішчаў Смаленскае зямлі. Яны ляжаць па ўсёй прасторы Смаленшчыны, ня вылучаючы ўсходніх паветаў - Вяземскага, Сычаўскага /Сычаўка/ і Гжацкага /Гжацак/.

Апрача гарадзішчаў Смаленшчыны, што належаць да першае групы, Ляўданскі называе ў сваёй працы некаторыя такога-ж тыпу дасьледаваныя гарадзішчы зь іншых мясцовасьцяў Беларусі: колькі гарадзішчаў у Калінінскай акрузе; тры ў Любавіцкай воласьці Аршанскага пав.; адно ў Чэчавіцкім раёне Магілеўскае акругі; сем у Гарэцкім пав. б. Магілеўскае губ., адно ў Гомельскім пав. на правым беразе Сожу блізка сяла Любні; адно блізка сяла Дзевічкі Полацкага раёну; два ля ракі Сьвіслачы ў Асіпавіцкім раёне Бабруйскае акругі. Тут-жа можна адзначыць Банцараўскае га-

радзішча ля Менску, дасьледаванае Дубінскім у I926 г.[22]

Смаленскія гарадзішчы, паводле Ляўданскага, першае групы, і таго-ж тыпу гарадзішчы іншых прастораў Беларусі аднолькавыя з вышразгледжанымі вышнявокаўскімі гарадзішчамі, і ўсе яны аднолькавыя, нат таесамыя, з гарадзішчамі, што на прасторы цяперашніх этнаграфічных Балтаў, увасобку, як зазначае Ляўданскі, дасьледаваныя Крывіцкім жмудзкія гарадзішчы ў бальшыні таесамыя /формаю й памерам/ із гарадзішчамі Беларусі, улучаючы сюды й Смаленшчыну. Як было зазначана крыху вышэй, з гэтым цьверджаньнем зусім чыста згадзіўся Сьпіцын.

Зацемлю, што смаленскія гарадзішчы, залічаныя Ляўданскім да III групы, на ягоны погляд, відавочна, таксама балцкія.

З найстарэйшага кіеўскага летапісу даведваемся, што ля рэкаў Вугры й Протвы /прытока Акі ў б. Маскоўскай губ./ жыло плямя Голядзь, наймя, што ў I058 г. "побѣди /ѣ = яць/ Изяславъ Голядь", а ў II47 г. "шедъ Святославъ и взя люди Голядь верхъ Протве".[23]

З тым, што гэтая Голядзь была балцкім плямём згаджаюцца гісторыкі й філялёгі.[24] Справа ў тым, што прускі хранікар XIII стг. П.Дусбург адзначае плямя Galinditae, зямлю якога завець Galindia, як частку прускіх Балтаў.[25] На месцы будзе зацеміць, што раён ракі Протвы належаў да Вялікага Княства Смаленскага[26], у гэтым ліку берагі ракі Ісмы, левае прытокі Протвы, і Пахры, што ўцякае ў Маскву, уваходзілі ў склад Мажайскага ўдзелу Вял. Княства Смаленскага.[27] З другога боку, Коласаў адзначае Беларусаў у павеце Рускім /Руза/, Валакаламскім /Волак Ламскі/, Мажайскім Маскоўскае губ.[28] Падобны стан сьцьвярджае й Даль у сваім слоўніку /гл. вышэй, б.3/. Значыцца, усходнія межы смаленскіх Крывічоў зыходзіліся зь межамі Балтаў там.

Што Балты жылі на тэрыторыі беларускага народу да найдалейшых усходніх ягоных межаў, відаць із моцных уплываў мовы Балтаў на мову Мардвы, пазьнейшых суседзяў Вяцічаў Вялікага Княства Разанскага.[29]

Станкевіч /Исследования/, паведамляе пра дасьледаваньні ў I949-I95I гг. археалягічных памяткаў вышнявінаў Дзьвіны, ад ейных вытокаў да ўтоку ў яе Таропы. Гэтая прастора ў пару асобных беларускіх гаспадарстваў /да пал. XIII стг./ была ведамая пад назовам Тарапецкае зямлі - удзелу Вялікага Княства Смаленскага;



цяпер яна становіць паўночна-ўсходнюю частку Вялікалуцкае вобласьці. Пра кераміку гарадзішчаў гэтае прасторы ізь сярэдзіны I тысячагодзьдзя па Хрысту аўтар кажа, што "падобны комплекс гарадзішчаў даволі тыпічны балцкім пасяленьням дольнае Дзьвіны /Лацьвія/ ды Ліцьве й цэнтральнай часткі Беларусі". Я магу адзначыць, што гэтыя гарадзішчы адзіночна з балцкімі, між іншага, слоікавая форма судзьдзя, кераміка із загінамі па вянку, брукаваньне з каменьня ды наземныя зрубныя хаты. Усе гэтыя асаблівасьці ў гарадзішчы Грачаўка Ўзморскага раёну Кенігсбэрскае вобласьці.[30]

Адылі, аўтар устрымаўся ад азначэньня этнічнае прыналежнасьці названых гарадзішчаў, хіба з тае-ж прычыны, што і ў выпадку Ізюмавае што да гарадзішчаў Тульшчыны, значыцца, дзеля вымаганьня аўтахтоннасьці цяперашнім курсам палітыкі СССР. Аўтар зазначаў, што гэтае пытаньне "можа быць разьвязанае на аснове далейшых паглыбленых дасьледаваньняў" /б.66/.

Курганы

Даўгаватыя курганы з крывіцкае тэрыторыі ды часткова зь Віленшчыны /Вялейскі павет, усходняя часьць Ашмянскага/ і часткі Калужчыны /паміж р. Вуграй і Акой/ Сьпіцын прызнае за балцкія.[3I] Даўгія крывіцкія курганы, пашыраныя па ўсёй тэрыторыі плямя Крывічоў /Полаччына зь Віцебшчынаю, Смаленшчына, Пскоўшчына, часьць Цьвершчыны/, Сьпіцын уважае за "барджэй за ўсё літоўскай народнасьці"[32]. Даўгія й круглыя крывіцкія курганы аднолькавыя з такімі-ж курганамі Балтаў. /Рысы падобнасьці/ "ня толькі ў будоўлі помніка, але й у падобнасьці абраду спаленьня трупа й спаленьня, як правіла, на баку /зн. вонках кургана - Я.С./; у знаходжаньні ў вадным кургане колькіх трупаспаленьняў і ў знаходжаньні ў даўгіх славянскіх курганох рэчаў літоўскага тыпу. Датаваньне даўгіх курганоў Славян часта робіцца паводле знаходжаных у іх літоўскіх рэчаў".[33] У кажным выпадку можна быць пэўным, што ўзьнікненьне ў Беларусі даўгіх ды круглых крывіцкіх курганоў не абыйшлося бяз удзелу Балтаў.

## Балцкая культура ў Беларусі

Рэчы, знаходжаныя ў гарадзішчах, курганох і дагістарычных скарбах Беларусі, сьветчаць пра ейную балцкую культуру. Найстарэйшая балцкая культура ў Беларусі - Рагінянская, названая так ад вялікае групы курганоў із гэтай культураю блізка Рагінян Панявескага пав. у Ковеншчыне. Гэта была культура рэчаў зь медзі й бронзы, з прарэзам із колернай /чырвонай ды зялёнай/ эмаляй. "У Ліцьве выступае найарыгінальнейшая, дасканальная, казаў той, захоплюючая культура IУ-УIII стг., што становіць запраўдную, бяссумлеўную гордасьць Літвы. У гэтай культуры найлепшым спосабам разьвязанае заданьне апрацаваньня гладкіх зьверхаў у мядзяных вырабах ды тэхніка мядзянага дроту. Першае заданьне разьвязанае гэтак: ладныя роўнядзі павінны быць падзеленыя прарэзам і прыбраныя колернай эмаляй. У філіграні ўзноўлены клясычны спосаб нарашчэньня драцяных ніцей у гладкі зьверх із зерняю па беражкох або із зерневымі фігурамі. Формы вырабаў размавітыя й пазаркія, што выказваюць выборны й нат дабрародны густ майстроў".[34]

"У Нямеччыне, ані ў Даніі ці Швэдыі гэтае культуры няма. Затое яна багата пакрывае ўсё ўсходняе ўзьбярэжжа Балтыцкага мора".[35] Уздоўж Прыпяці й Нёмну рэчы гэтае культуры пашыраліся "ў добрай колькасьці".[36] Між іншага, магільнікі з гэтымі рэчамі знойдзеныя ля сяла Цішкавічы блізка ўтоку Прыпяці.[37] Даўгаватыя курганы, пашыраныя ля Дзьвіны /Полаччына, Віцебшчына/, у Смаленшчыне, Пскоўшчыне, у тым ліку на ўсходнім беразе Чудзкага возера /Peipus/, і ў Цьвершчыне, маюць толькі гэтую культуру.[38] Таксама з гэтай культураю даўгаватыя курганы ў Віленшчыне /мястэчка Хаценчыцы Вялейскага пав.[39], Бейніца, Дубічы Ашмянскага пав./[40]

Апрача таго, рэчы з эмаляй гэтага тыпу блізу аднолькава пашыраныя ў раёне Панямонскім /паміж Нёмнам і Дзьвіною/, Дняпроўскім і ў раёне вышняе Акі.

Рэчы з колернай эмаляй у Панёманскім раёне пашыраныя як на цяперашняй этнаграфічна-балцкай прасторы, так і на цяперашняй беларускай этнаграфічнай прасторы, між іншага вельмі шмат такіх рэчаў знайшлі ў двары Красны Бор Барысаўскага пав.[41]



"У шырокім Вокаўскім /"Окском"/ раёне рэчы з колернай эмаляй знойдзеныя часткава ў могільніках, галоўна-ж у вялікім ліку мясцовых гарадзішчаў". Між іншага, на Мошчынскім /Мошчын/ гарадзішчы ў Масальскім павеце Калужчыны знойдзены слаўны скарб гэтае культуры. Гэтымі эмалямі "Вокаўскі раён адзін із найбагацейшых... Тыпы вырабаў зусім тыя самыя, што ў Дняпроўскім і Панямонскім раёнах".[42]

Рэчы з колернай эмаляй, што паходзяць з Вокаўскага раёну, із супоўнай пэўнасьцяй даводзяць, што ля Акі ў УIII стг. было месца вырабу іх.[43]

Да вокаўскіх эмаляў Сьпіцын далучае эмалі вышнявінаў Волгі й басэйну Камы, "бо першы з гэтых раёнаў быў у культурнай залежнасьці ад вокаўскага раёну, а другі меў зь ім гандлёвыя дачыненьні".[44]

Трэйцім раёнам вялікага пашырэньня рэчаў з колернай эмаляй - гэта прастора Ўзднянпроўя. Сьпіцын не паказаў дакладна паўдзённых межаў гэтае прасторы, але гэта зрабіў Рыбакоў у працы "Древние русы". Рыбакоў паказаў, што ў IУ-УII стагодзьдзях прастора сярэдняга Ўзднянпроўя дзялілася на дзьве рэзка розныя зоны, мяжа паміж якіх праходзіла на правым баку Дняпра па вададзелу Краснай і Росі, а на левым беразе Дняпра мяжа была ля Пераяслаўя. На поўнач ад гэтае мяжы была "краіна з выімчастай эмаляй, із сваім чыста апрычоным стылем, апрычоным падборам аздобаў", там знойдзена "шмат бранзовых зашпілкаў із колернай эмаляй". Рыбакоў добра адзначае, што гэтыя-ж рэчы "сустракаюцца ў даўгіх курганох Крывічоў" і што носьбіты эмалевых зашпілкаў былі зьвязаныя із землямі Радзімічаў, Вяцічаў, Крывічоў і Літоўцаў".[45] Такім парадкам, уся беларуская тэрыторыя была абнятая гэтай культураю.

Рыбакоў дапушчае, што Паляне таксама былі ў сфэры гэтае культуры, але з гэтым нельга згадзіцца. У басэйне Росі й Цясьміна /Тясмін/ із Славян магло быць толькі ўкраінскае племя Паляне. Калі так, дык нельга дапусьціць, каб паўночная й паўдзённая часткі Палян геаграфічна нічым не разлучаныя, мелі гэтулькі розныя культуры. З другога боку, сам назоў "Паляне" сьветчыць пра іхную "польскую", як выясьняе летапісец, сьцепавую бацькаўшчыну, тым-жа часам за гістарычнай парой яны займалі лесавую

прастору. Дзеля таго ня будзе памылкаю ўважаць, што ў IУ-УII стг. Паляне займалі басэйн Росі, Цясьміна й прастору на паўдня ад іх, а пасьлей пасунуліся на поўнач, занялі басэйн Краснай і Кіеўскую зямлю, выціснуўшы адтуль Дзярвян.[46]

Што да басэйну Сулы, дык хоць летапісец і кажа, што там таксама сядзелі Севяране, і хіба ў УIII-X стг. там былі некаторыя іхныя сялібы, але як сьветча археалёгія, у IУ-УII стагодзьдзях там была зусім іншая культура, і можна з пэўнасьцяй дапушчаць, што там былі пасяленьні Іранцаў. За княскай парою Валадзімер Сьвятаславіч сяліў тут прадстаўнікоў розных племяў. Пасьлей тут былі паселеныя некаторыя з турцкіх племяў. Вось чаму - з чаго дзівіцца Грушэўскі - северскія князі не рабілі прэтэнзіяў на Пераяслаў.

Беспасярэднім жаралом Рагінянскае культуры хіба была пруская культура /значыцца, ізноў такі культура Балтаў, але заходніх/ папярэдняга пэрыяду.

> "Із найзьвярхнейшага прыраўнаньня Рагінянскае культуры да рэчаў прускіх магільнікаў III-IУ стг. робіцца зусім ясна, што літоўскія старавечнасьці УI-УIII стг. - гэта перапрацаваньне прускіх і, значыцца, наагул заходніх гэтага часу, але гэтае перапрацаваньне ў найвышэйшай меры зробленае з талентам, які паказвае высокі мастацкі густ майстроў..."47.

Што да часу балцкіх гарадзішчаў зь беларускае тэрыторыі, як і рэчаў з колернай эмаляй, дык выглядае, што іх трэба аднесьці да ранейшага пэрыяду, чымся УI-УIII стг. Сам Сьпіцын пасьлей уважаў, што вышнявокаўскія гарадзішчы адныя маюць быць адсуненыя да ранейшых, другія да пасьлейшых стагодзьдзяў.[48] Ён таксама дапушчаў магчымасьць зьяўленьня Рагінянскае культуры ў пэрыядзе ранейшым, чымся УI стг.[49] Рыбакоў /Русы, б.92/ для гэтае культуры ўстанаўляе час IУ-У стагодзьдзі. Ляўданскі /Городища, б. I84/ дапушчае магчымасьць узьнікненьня некаторых балцкіх гарадзішчаў на тэрыторыі Беларусі ў пэрыядзе ранейшым, чымся IУ-УI стагодзьдзі. Чатыры із сямёх дасьледаваных апошнім часам тульскіх гарадзішчаў дасьледаваньнікі аднесьлі да III-IУ стг., адно да II-III стг, адно да першых вякоў па Хрысту або нат да канца I-га тысячагодзьдзя да Хрыста, і толькі адно да У-УIII стг. па Хрысту. Найпраўдападабнейшым, здаецца, часам узьнікненьня балцкіх гарадзішчаў у Беларусі, а таксама пашырэньня Рагінянскае культуры, былі-б першыя стагодзьдзі й сярэдзіна I-га тысячаго-



дзьдзя, і адно некаторыя гарадзішчы ўзьніклі пасьлей.

Наколькі магутнай была балцкая Рагінянская культуру на тэрыторыі Беларусі, відаць таксама зь ейнага працягу ў наступных культурах, таксама балцкіх - Мэмэльскай, інакш Кляйпэдзкай, IX стг. /эмаль у яе заменена срэбрам/[50] і ў пазаркой Люцынскай культуры /X стг./, што ў васлабленым стане пашыраная яшчэ ў XI і XII стагодзьдзях, а некаторымі сваймі формамі нат у XIII стг. Да іх "могуць быць аднощаныя вялізарныя шыйныя грыўні, вітыя ў колькі столак /да 9-х/, ведамыя ад Прусаў да Дняпра".[51]

> "Нэоліт у Беларусі, - кажа Сьпіцын, - займае шырокую паласу: ад Дзьвіны да места Лепля. Ля ракі Бярозы шмат усялякіх снадзіваў із крэмня: шліфаваныя, сьвідраваныя рэчы, стрэлы, скрабкі і іншыя... Найлепшыя Шукевічавы калекцыі з дасьледваньняў у Віленскай губэрні. Гэта культура літоўская."52
>
> "Апошнія Палікарповічавы знаходкі ля дольнага Сожу сьветчаць, што гэтая культура была пашыраная ля Сожу. Рэчы гэтае культуры пазнаць ня цяжка: малаткі, прыкладам, маюць дзірку бліжэй да тульлі... Іх можна бачыць у ладным ліку ў Менскім Дзяржаўным музэі, дзе іх больш за I00 штук... Раманаў набраў гэтых малаткоў, зубілаў і г.д. у Лепельскім пав. колькі сотняў. У Барысаўскім павеце іх зьбіраў Авэнарыус. Шмат рэчаў гэтае культуры зь Беларусі ёсьць у Румянцаўскім музэі. Багацьце гэтых вырабаў на тэрыторыі Беларусі бязумоўнае".53

Узьмежная ля Польшчы паўдзённа-заходняя беларуская прастора, званая Падляшшам, яшчэ ў гістарычным часе была занятая балцкім плямём Яцьвягамі.

Што да прыходу беларускіх Славян тэрыторыя Беларусі была бацькаўшчынаю бальшыні Балтаў, за археалёгамі прызнаюць таксама гісторыкі. Гэтак, прыкл., Любавский кажа:

> "З пэўнасьцяй можна толькі ўважаць, што Літоўцы найстарэйшых часоў былі ня толькі ў басэйне Нёмна й дольнае Дзьвіны, але й далёка на ўсход, даходзячы да сярэдняе Акі".54

Погодин піша:

> "Няма сумлеўку, што ў паўночных частках Менскае губэрні, на поўнач ад Прыпяці, у Смаленскай, Магілеўскай, часткава Чарнігаўскай і далей на ўсход у Калускую губэрню, ды на захад у Горадзенскую, Віленскую й Ковенскую губ. ішлі пасяленьні Літоўцаў!"55

Гэткім парадкам, ад сучаснае заходняе этнаграфічнае беларускае мяжы да р. Протвы й сярэдняе Акі ўлучна ды ад возера Чудзкага /Peipus/ і ракі Арэдзежы /у паўдзённай частцы б.Пецярбур-

скай губ./, да паўдзённых межаў Дзярвян ды Северан уся тэрыторыя беларускага народу ў дагістарычным, часткава ў раньнім гістарычным часе была занятая Балтамі. На ўсёй гэтай тэрыторыі цяперака ёсьць або нармальная беларуская мова, або болей-меней папсаваная чужымі ўплывамі, або ёсьць даволі сьлядоў былога быцьця яе.

З прыходам беларускіх Славян, Балты засталіся на месцы, бо аселае й ралейнае жыхарства, якім былі Балты[56], застаецца на месцы й па прыходзе іншага народу. Значыцца, мусіла стацца зьмяшаньне, а потым зьліцьцё беларускіх Балтаў зь беларускімі Славянамі. Такую сынтэзу знаходзім і ў пасьлейшых археалягічных памятках у Беларусі.[57] Бывае, што сынтэзу знаходзім у тым самым прыборы.

Другі довад балцкага субстрату беларускага народу - балцкая топаніміка Беларусі. Тэрыторыя гэтае топанімікі пакрываецца з тэрыторыяй беларускае мовы.[58]

Наапошку, найважнейшы довад балцкага субстрату беларускага народу - адбіцьцё ў беларускай мове балцкае фанэтыкі. Беларуская мова заўдзячвае балцкаму моцнаму субстрату: а/мену Ч і Ц, замену Ж праз З, Ш праз С і вымову S, Z, зблізаную да мяккіх Ш,Ж у паўночнай падмове; б/ паліфтонгі ў паўдзённай /званай яшчэ паўдзённа-заходняй/ падмове; в/ аканьне ў цэлай беларускай мове.[59]

Відавочна, у палавіне першага тысячагодзьдзя па Хрысту маем дачыненьне зь беларускім народам, як із балцка-славянскай сынтэзай. З прычыны такога свайго ўтварэньня беларускі народ спрадвеку вельмі розьніцца ад суседніх народаў славянскае й балцкае мовы. Тое, што й гэтыя народы мелі свае субстраты, не наблізіла іх да беларускага народу, але яшчэ болей адсунула, бо, прыкл., Ільменскія Славяне /Ноўгарадцы/ утварыліся на субстраце фінскім, а Украінцы - найпраўдападабней на іранскім. Моваю Беларусаў сталася мова беларускіх Славян, што, як сьветчаць ейныя старыя важныя асаблівасьці да УІ стг.[60], беспасярэдня апрычылася з праславянскае мовы. Балцкі моўны субстрат унёс у беларускую мову некаторыя балцкія рысы, зь іх найважнейшае аканьне, што далей адсунула беларускую мову ад усіх іншых славянскіх моваў, бо зь іх ніводная гэтае асаблівасьці ня мае.



## Пра некаторыя плямі

Аўтары "Истории БССР" праз усю кнігу праводзяць пагляд, што старавечныя плямі - Северане, Вяцічы й Крывічы - належалі да расейскага народу, а не беларускага; дзеля таго я мушу выясьніць этнічную прыналежнасьць гэтых племяў. Трэба гэта таксама й дзеля таго, каб у далейшым разглядзе "Истории БССР" льга было заўсёды прывесьці ясныя довады.

### Северане

У IУ-УII стг. Северане мелі культуру, аднолькавую з культураю Радзімічаў, Вяцічаў, Крывічоў і Балтаў - Рагінянскую /культуру рэчаў із колернай эмаляй/. Відаць гэта ясна з таго, што гэтая культура ў гэным пэрыядзе была пашыраная на левым баку Дняпра на поўнач ад Пераяслава; на паўдня-ж ад Пераяслава была зусім інакшая культура - культура паўдзённага краю леса-сьцепу, якая адно сваймі двусьпіральнымі галаўнымі колцамі й няменьнем паясных тамгаў выдзялялася з агульнае культуры паўдзённага краю леса-сьцепу - сьцепу - Ушчарнамор'я. Дык-жа сьпіральных галаўных колцаў ня было ў Северан. Гэтыя колцы ім някрытычна прыпісвае Рыбакоў, а за ім паўтарае Шэрах.[61] Нельга дапусьціць, каб часткі аднаго й таго-ж плямя, зн. Северан, нічым геаграфічна не разлучаныя, мелі такія супрацьлежныя культуры - балцкую на поўнач ад Пераяслава й сьцяпова-Ушчарнаморскую на паўдня ад яго. А што Северане жылі ў басэйне Дзясны, пра гэта сьветча археалёгія й гісторыя, але няма ніякіх дадзеных, каб яны жылі ніжэй за Пераяслава ў такім раньнім часе, як IУ-УII стагодзьдзі.

І для пасьлейшага пэрыяду археалягічныя дадзеныя сьцьвярджаюць, што "культура Северан вельмі прыпамінала вяціцкую. Ім была, відаць, блізкая таксама й культура Радзімічаў"[62]. Северане, Радзімічы й Вяцічы жылі ў паўзямлянках із глінабітнымі печамі[63].

Аўтар "Повести временных лет" лучыа Северан із Радзімічамі, Вяцічамі й Крывічамі, аднолькава характарызуючы іх[64]. А што Радзімічы былі беларускім плямём, у гэтым ня можа быць ніякага

сумлеўку: усю радзіміцкую прастору цяпер займаюць Беларусы, тымжа часам Радзімічы не высяляліся зь яе ані да іх не ўсяляліся іншыя племі.

Тэрыторыя старавечных Севяран[65] цяпер гэтак дзеліцца паводля мовы: прастора галоўна на поўнач ад р. Дзясны /паветы: Стардубскі, Новазыбкаўскі, Сураскі, Мглінскі, Почапскі, бальшыня Ноўгарад-Северскага ды некаторыя часткі суседніх паветаў/ занятыя нармальнай беларускай мовай /гл. вышэй, б.4-5/[66]. Паветы: Сеўскі, Трубчэўскі, Рыльскі, заходняя частка Дзьмітраўскага, паўночна-ўсходняя частка Пуцівельскага /на поўнач ад р. Сейму/ і ладная частка Льгоўскага занятыя беларускай мовай, папсаванай расейскім уплывам. Северская прастора, што на ўсход ад гэтае /павет Курскі й часткі іншых/ занятая цяпер расейскай мовай, паўсталай дарогай русыфікацыі ранейшае там мовы беларускае, пра што сьветчаць засталыя яшчэ ў тамашнай мове шмат якія беларускія рысы.

На частцы старое северскае тэрыторыі, што на паўдня ад прасторы з чыстай беларускай мовай, цяперака мова ўкраінская. Северскае жыхарства ў гэтай апошняй прасторы часткава было зьнішчанае ў часе находу Татараў у пал. XIII стг., а часткава ад іх уцякло ў паўночныя мясцовасьці Севершчыны[67]. Іхнае месца занялі, масава перасяліўшыся ў XVII і XVIII стагодзьдзях із правага боку Дняпра, Украінцы[68]. Важныя беларускія асаблівасьці, што адбіліся ў мове гэтых Украінцаў[69], сьветчаць, што на гэтай прасторы, па татарскім находзе, некаторае прарэджанае северскае жыхарства захавалася. Жыхарства мясцовасьці, абмежанай з аднаго боку лініяй, што йдзе ад Дняпра ў паўночна-ўсходнім кірунку да бодкі, што ляжыць на паўдня ад м. Глухава, а з другога боку, беларуска-ўкраінскай моўнай мяжою, належа да беларускага антрапалягічна-этнаграфічнага тыпу. Пра гэта сьветчаць антрапалягічныя й этнаграфічныя дадзеныя[70]. Значыцца, на гэтай мясцовасьці засталося суцэльнае северскае жыхарства, якое было асыміляванае Украінцамі.

Яшчэ ў 60-ых гадох XIX стагодзьдзя Украінцы левага берагу Дняпра звалі Беларусаў паўночных паветаў Чарнігаўшчыны /гэных із чыстай мовою беларускай/ "Сіверцамі"[71].

Усё гэта даволі сьветча пра тое, што Севяране былі беларус-



кім плямём. Пра гэта сьветча й гісторыя Севершчыны X-XIII стагодзьдзяў.

Зацемлю яшчэ, што мова северскіх Беларусаў належа да паўдзённае падмовы беларускае мовы й становіць беспасярэдні працяг беларускага сярэдняга дыялекту. Што северска-беларуская гаворка да познага часу свайго быцьця не межавала зь ніякай іншай славянскай моваю, сьветча тое, што яна войстра адсякаецца ад сумежнае ўкраінскае гаворкі, што асабліва выяўляецца ў характары северскага аканьня, якое ня розьніцца ад аканьня іншых мясцовасьцяў сярэдняга беларускага дыялекту, у тым ліку ад аканьня спад лятувіскае мяжы.

Вяцічы[72]

Лінія раскопаных яшчэ ў XIX стг. вяціцкіх курганоў XII стг. абыймае прастору вышнявінаў р. Жыздры, р. Вугры ад с.Гарадзішча, утоку р. Масквы ў Аку, частку Разаншчыны між Расьціславам, Пронскам і Сьмедаўкай, плынь Акі да ўтоку Вугры, скуль да Чэрні й адсюль паўзь Ліхвіна йзноў на вышнявіны Жыздры[73]. З пасьлейшых раскопаў гарадзішчаў і курганоў ведама, што ў IX-X стг. Вяцічы жылі ля вышняе й сярэдняе Акі, у тым ліку, у Старой Разані[74].

Сьпіцын кажа: "...толькі Вяцічам можна цяпер прыпісаць цікавыя апрычоныя курганы із спаленьнем у дзервяных скрынях, знойдзеныя ля Дону, блізка царк. сяла Бальшэва /Отчет Арх. Комиссии, 1905, рыс. 100/ і ўздоўж Калускае плыні Акі /Раскопы Гарадцова, Гендуне й іншых/, якія важымся адносіць прыблізна таксама да IX стг. [75]. Вяцічы займалі ня толькі Калускую, Тульскую, Разанскую й частку Арлоўскае зямлі, але нат і частку пасьлейшае Маскоўскае губэрні. Каломна ля р. Масквы была вяціцкім местам. Пра гэта, апрача гісторыі, сьветча мова, нат нашым часам[76].

Што Вяцічы жылі ля вышняе Акі, займаючы ўсю Калускую губэрню й вялікую бальшыню Арлоўскае, пра гэта ёсьць даволі сьветчаньняў і гістарычных.

Ужо ў X стг. у Старой Разані было разьвітае рамяство. "Разанскія ковалі ў X стг. ведалі спосабы выраблененьня сталі й тарнавалі розныя тэхналёгічныя спосабы, як рабіць цьвярдое й войстрае лязо нажа"[77].

У XI стг. Старая Разань была "вялікае славянскае места, вялізарная тэрыторыя якога была густа населеная; места зь вялікімі каменнымі сьвятынямі, із шмат якімі майстроўнямі рамяства, з выдатнымі дасягненьнямі ў галіне рамяства й мастацтва"[78].

Як было зазначана вышэй, аўтар "Повесьці" радніць Вяцічаў із двумя іншымі беларускімі племямі - із Севяранамі й асабліва з Радзімічамі. Была нат традыцыя, што Радзімічы й Вяцічы паходзяць ад двух братоў - Радзіма й Вяткі. Гэтыя тры плямі жывуць у палузямлянках із глінабітнымі печамі /гл. вышэй/, характарыстычнымі прыборамі радзіміцкіх і вяціцкіх жанок былі галаўныя сямілапаткавыя колцы[79]. І гісторыя XI-XIII стагодзьдзяў гэтых трох племяў сьветча пра іхную блізкую сваяцкую. "Радзіміцкія й вяціцкія землі засталіся пры Чарнігаве й не адлучыліся ў сыстэме чарнігаўскіх земляў нат у такой меры, як адлучыліся пасьлей Ноўгарад-Северская вобласьць"[80]. Тым-жа самым часам гэтыя плямі вельмі розьніліся ад украінскіх племяў, Ноўгарадцаў і Суздальцаў[81]. Пасьлей, пачынаючы ад XI стг. і да XV стг. былі блізу заўсёдныя войны Суздальцаў, а потым Маскоўцаў, із "суровыми Рязанци, полуумными смерды", як іх завуць суздальскія й маскоўскія летапісцы[82].

Этнаграфічныя рысы Вяцічаў у будаўніцтве, адзежы-вопратцы, арнамэнтыцы, абрадах, абычаёх - аднолькавыя з такімі-ж рысамі Беларусаў і адначасна спрадвеку розныя ад этнаграфічных рысаў /паўночных/ Расейцаў[83]. Антрапалёг Е.Чэпуркоўскі сьцьвярджае знаходжаньне трох асноўных тыпаў у жыхарсьцьве Эўрапейскай Расеі - "валдайца", "разанца" й "малороса"[84]. Гэткім парадкам, Разанцы, накш Вяцічы, антрапалягічна розьняцца як ад Расейцаў, так і ад Украінцаў ды выступаюць тут, відавочна, як частка заміж цэласьці, якую становяць Беларусы наагул. Дзеля таго зразумеем Монгайта, што кажа: "Гэта дазваляе казаць пра тое, што, як вынік нейкіх складаных гістарычных працэсаў у пэрыядзе раскладу радавога грамадзтва, усходне-славянскія плямі складалі тры вялікія групы, што далі супольнасьць моўных зьяваў, суцэльнасьць антрапалягічнага тыпу й супольнасьць гістарычных сувязяў"[85].

Усе дасьледаваньнікі прызнаюць істотную й генэтычную апрычонасьць Вяцічаў ды іхнае мовы ад /паўночна/ Расейцаў ды іхнае мовы й адначасна прызнаюць генэтычную беларуска-вяціцкую суцэльнасьць /супольнасьць/[86].



Буддэ кажа, што цяперашняя разанская народная гаворка бліжэй стаіць да беларускае мовы "у старавечным выглядзе яе, чымся да паўночна-расейскае. Гэта паказвае на жаролы ўтварэньня разанскае народнае мовы"[87].

Зьвернемся беспасярэдня да самых вяціцкіх гаворак. Частка вяціцкае прасторы, наймя заходняя большая частка б. Калускае губэрні й паўночна-заходняя частка б. Арлоўскае губ. і цяпер занятыя беларускай моваю /гл. б.4/. Не мяняе значаньня тое, што ў гэтых мясцовасьцях беларуская мова вельмі зрусыфікаваная. З гэтага відаць, што калісь усе Вяцічы гаварылі пабеларуску. Гэта-ж пацьвярджаюць асаблівасьці ўсіх цяперашніх вяціцкіх гаворкаў.

I. З ідэ. даўгога "ē" перад групаю насавых сугукаў або перад даўгім насавым сугукам ёсьць самагук, аднолькавы з рэфлексам старога "ě":

I/ рамённыя - Абуры Касімаўскага п., ячмённай, рамённай - Разанск. п., пляменьнік - Кельцы Скопінск. п. /усе з Будде, I39,23/;
пліменьніца - Варанескі п., пліменьнік - Хабацец Багаяўленскі Казлоўск. п. Тамб. г., станіца Ецераўская Усьцьмядзьведзіцкае акругі Доншчыны /усе з Дурново, I68, I53, I69/;
2/ памéнуть /націск на -ме-/ - Ніжняя Залегашч Навасільск. п. /Будде. Тула-Орел, 20/;
3/ на первам узлу бялілы, а в другом узлу румёны - Расхавец Шчырг. п., румёны - тамсама, румёнаі /двойчы/ - тамсама. Вынімала руменіца із белава ліца - Мялехіна Шчыгр. п., румён - Данецкая Семіца Цімск.п. /усе з Халанскага, 56, 57, 63, 96, II0/;
4/ бяліл, румён купіл - Лучкі Карачан. п. /Халанскій, 277/, пліменьнікам - Саламыкава Абаянск. п. /Дурново, 83/, рімённам - Знаменскае Суджанск., румёная /двойчы/ Заломнае Суджанск., румёнамі - тамсама /усе з Халанскага, 274, 2I3, 2I4, 248/[88].

"ё" заміж "е" па "м" /румён/ зьявілася з прычыны радаўкаваньня націсьненага o /ё/ зь ненацісьненым a.

II. "ě" перад складам зь "і" не перайшло ў "і":

I/ сядзіть - Ябланава Скопінск. /Будде, 43/, дятіна - тамсама /Будде, 164/, /Дурново, 147/; дятінка - Станіца Ецераўская Усьць-Мядзьведзіцкае акругі Доншчыны /Дурново, 163/;

2/ дятінушка - Верхняя Залегашч Навасільск. п. /Будде. Тула-Орел, 24/, Вялікія Залегашчы Навасіль. п. /Дурново, 195/, сядіть - Лужніцкая Жыздрынск.,п. /Дурново, 71/;

3/ дятіна - Расхавец Шчырг. п. /Халанский, 56, 79/, Расхавец Шчырг. п. /Дурново, 106/, Кавалёўка Шчырг. п. /Дурново, 97/;

4/ дятінушкі - Красьнікава Абаянск. п., седівчі - Заломнае Суджанск. /абодва з Халанскага, 255, 221/, дятіна - Руска-Халанская вол., Новаaскольск. п. /Дурново, 113/.

III. Аканьне

Вяцкае аканьне галоўна дасьледавалі Е.Будде і Н.Дурнаво, працы абодвых у гэтым разглядзе цытуюцца. Буддэ беспасярэдня на месцы дасьледаваў вяцкія гаворкі, у тым ліку аканьне, і парабіў высновы глыбейшыя й бліжэйшыя да праўды, чымся Дурнаво. Грунтоўную рэцэнзію працы Дурнаво - "Диалектологические разыскания в области великорусских говоров. I-2. Южновеликорусское наречие. Шамардинская пустыня, 1918" - зрабіў Буддэ ў варт. "Научное значение 'Диалектологических Разысканий' последнего времени"[89] і Селішчаў у варт. "Заметки по великорусской диалектологии I. К изучению типов аканья"[90]. Дурнаво рабіў дасьледаваньні з чужых няпоўных запісаў[91], не дасьледаваўшы ў поўнай меры беспасярэдня ніводнае акаючае гаворкі[92]. Як вялікую загану, Селішчаў добра паказвае на тое, што Дурнаво нідзе нат не закранае пытаньня пра мінуласьць разгляданых гаворак[93].

Запраўды, як добра падчыркvae Буддэ, "Дурнаво, адкрыўшы ў навуцы такія тыпы /"задонскі, абаянскі, донскі" - Я.С./ сярод акаючых гаворак, не паказаў у сваёй кніжцы ніводнага тыпу, якому ня былі-б ведамыя зьявы, аднесеныя сп. Дурнавом да іншага тыпу"[94].



Зусім чыста трэба згадзіцца з Буддам, што кажа:

"Няўжо-ж ня ясна, што самыя Дурнавовы тыпы /?!/ аканьня - гэта зьявы сучаснасьці, а ня гісторыі, і што гэтыя розьніцы ў ваканьні не паўсталі спадкаемнай гістарычнай дарогаю, як фанэтычная зьява? Гэта-ж усе гэныя розьніцы ў ваканьні - зьявы пасьлейшыя й прадстаўляюцца зь гістарычнага гледзішча вынікам замены адных гукаў другімі ды замены не фанэтычнага характару. Усе гэтыя замены сталіся ў прасьцейшых і празрыстых старавечных фанэтычных зьявах аканьня ды зусім не характарызуюць сабою якіх-колечы "тыпаў" мовы, як таковых, а проста становяць сабою пераламленьне фанэтычнае гісторыі ненацісьненых самагукаў у сучаснасьці паўдзённа-вялікарускага й беларускага асяродзьдзя з прыродным прыўваходам у гэтую гісторыю псыхічнага дзейніка аналёгіі й асацыяцыі падобных вынікаў старога фанэтычнага працэсу".[95]

Шэрах добра выясьніў, як падобныя няйснуючыя тыпы дысыміляцыйнага аканьня /звычайна па мяккіх сугуках/ паўстаюць у поглядах дасьледаваньнікаў. Дзеля таго, што быў устанавіўшыся хвальшывы пагляд пра спачатнасьць дысыміляцыйнага аканьня й адступаньня яго перад аканьнем вялікім, назіраньнікі, калі стрэнуцца з выпадкамі дысыміляцыі ў якім-колечы аканьні, á priori прызнаюць яго за асыміляцыйнае, а рысы вялікага аканьня ўважаюць за навейшыя[96].

На ўсёй сваёй спачатнай тэрыторыі аканьне было суцэльнае[97]. Пра гэта сьветча ягоная, з малымі пасьлейшымі адхінамі, аднолькавасьць цяперака; асабліва-ж сьветча пра гэта вялікая аднолькавасьць, блізу таесамасьць, вяцкага аканьня з аканьнем паўдзённае падмовы беларускае мовы. Нат мясцовыя асаблівасьці ў ваканьні гэтта й гэнам аднолькавыя.

Гэтак, у ладнай частцы сярэдняга дыялекту беларускае мовы таксама ненацісьненыя Ы, Ї пераходзяць у А /Я/. Тое-ж знаходзім у шмат якіх мясцовасьцях вяцкае тэрыторыі. Прыклады: "у Касімаўскім п. чуецца часта гук "а" заміж ненацісьненага "ы", прыкл. у такіх словах, як "Бацкаўскай" зам."Бычкоўскі" ад назову сяла "Бычкова" /Будде, 44/. У Тульскім п. у царкоўным сяле Пратапопава: бяз мяла /-міла/ друшка, крячітв, прягож, прянёс, па пряходу; у с. Байдзіна: пясаць, пряветлівая, прямі; у Юр'еве: пярох, прялука, прянёс /усе з Дурново, 143, 144/; хазяян - Драгуны Архангельскае Крапівенск. п. /Будде. Тула, 24,28/, таваряшч

- Духава, вінца выпял - тамсама, справял /-справіў/ - Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 32, 13, 31/, барян /-барын/ - Левінскае, Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32, 37/. І шмат іншых.

Яшчэ большую прастору абыймае а зам. ы у снадзіўным /творным/ склоне мн.л. прыметнікаў: За деўкамі за краснымі - Сьвіная Ліхвінск.п. /Будде. Тула, 55/, з белами галубяткамі - Заломнае Суджан. /Халанский, 239/. І шмат інш.

Надта пашырана "а" зам. "ы" ў частцы "бы": "Што да часьцінкі "бы", дык яна вымаўляецца /у Разаншчыне/ часта з гукам таксама "а" зам. "ы", зн. "ба", прыкл. пашол ба, взял ба, ты ба й інш., але аднолькава часта чуем і "бы", а ня "ба" /Будде, 44/. Я б ня біл ба, ні журіл ба - Ясянкі Крапів.п. /Будде. Тула, 17/, чісял ба - Гочава Абаянск. п. /Халанский, 261/. І інш.

Усе гэтыя асаблівасьці маем і ў гаворках беларускага сярэдняга дыялекту.

Займя "што" ў ролі злуча часта бывае не пад націскам, і тады ў некаторых мясцовасьцях вымаўляецца "шта": ні земетіла, шта он есьть ні серділ - Архангельскае Зямлянскага п. Варан г. /Гринкова, У, 108/. Таксама бывае із злучом "хоць": Хать нямножка пажыве - Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 35/. Гэткая-ж вымова ведамая ў некаторых паўдзённа-заходніх беларускіх гаворках, прыкл. у Сакольскім пав. З гэтае-ж прычыны ў разанскіх гаворках вымаўляецца пасьля, акрамя, вазьля[98], бо тут канцавое е /з ё/ перайшло ў я , будучы не пад націскам, а потым загульнілася. Прыкл. блр. каля з коль.

З другога боку, калі "шта", "хаць" і розныя формы з а зь ненацісьненага "о" стараюцца, пад уплывам словаў і формаў з націсьненым "о", вымавіць з "о", дык заміж "о" паўстаець "у", бо акаючая вымова ня знае ненацісьненага "о". "У гэтай-жа мясцовасьці /Касімаўскі павет/ часта чуем склонавы канчатак спакменьнікаў і прыметнікаў жаноцкага роду "уй" зам. "ой": За нявестуй, с нашуй, самауцкуй /самавучкай/, пад ёлыцкуй /Будде, 49/, шту /двойчы/ Медынскі п., хуть на лаўку сядіш - Архангельскае Крапівен. /Будде. Тула-Орел/, хуть - Духава Навасіль. /Будде. Тула-Орел/, хуть - Пакроўскае Шчырг. п. /Халанский, 89/.

На беларускай тэрыторыі такая вымова сустракаецца ў некаторых паўдзённа-заходніх гаворках; я асабіста назіраў у вашмянскай гаворцы ў с.Кушляны ля Жупран, дзе гэтая рыса вельмі моцна выражаная.



Як гэта ёсьць у частцы беларускай народнай мовы, у тым ліку ў паўдзённай падмове, злуч "да" у частцы вяціцкае тэрыторыі перайшоў у "ды": сять на конь ды дамой - Анастасава Адаеўск /Будде. Тула, 43/, Ды даліна, ды даліна шырокая - Заломнае Суджан. /Халанский, 217/. "Ды" блізу заўсёды вымаўляюць у Мцэнскім і Арлоўскім паветах.

Філатаў у сваіх запісах падаець гэткія формы зь "ё": на праваё плячо, белаё ліцо, на маё горё вялікаё[99].

"Ненацісьненае "е" не пераходзе ў "я" ў разанскай падмове адно ў наступных выпадках: у васобавых формах дзеяслова цяперашняга часу ў 2 ас. адз. і мн.л. перад канчаткам - ш і те, у 3 ас. адз. л. перад канчаткам ть; у васабовых займях: мене, тебе, себе /дакладны-прыймальны сканы/ і ў прыметніках із суфіксам -енькій. Ува ўсіх гэтых выпадках ненацісьненае "е" вымаўляецца блізу як "і"[100].

"Аканьне разанскае падмовы пашыраецца нат на некаторыя выпадкі "е", што ў другім складзе па націску. Гэтая зьява пераходу такога "е" ў "я" назіраецца ў 2 ас. мн.л. цяп. /буд./ часу і ў загадным ладзе. Прыкл.: відітя, слышытя й інш. ...

Як агульнае правіла для разанскае падмовы, усякае "е" ў другім складзе перад націскам гучыць як "і", што відаць із гэткіх прыкладаў: вісяло, ні тярай, ні квалі /пр. ня хош, нябось, няльзя/, ні к чаму, ні дзяржамшы, жырябец, мідьвядя, вічярком, пірйайді, піряксті ть, піляна /страха/, пірястал, пірявесіла" /бб. 9-11/.

У іншым месцы тае-ж працы Буддэ дадаець, што калі этымалягічнае "е" ёсьць у першым складзе па націску перад мяккім сугукам, дык, заміж у "я", пераходзе ў і/ы/: кашыль, камінь, хочіть /бб. 189-190/.

Як із гэтага відаць, вяціцкае вялікае аканьне аднолькавае з аканьнем заходняга чарасла беларускага сярэдняга дыялекту, рэдчас набліжаючыся да чарасла сярэдняга таго-ж дыялекту.

Вялікае аканьне /па цьвярдых і мяккіх сугуках/ займае былыя губэрні Разанскую, Тамбоўскую /вяціцкую частку яе/ і вялі-

кую частку Варанескае ды Шчыгроўскі, паўночную й паўночна-ўсходнюю частку Цімскага, частку Курскага, Фоцескага, Дзьмітраўскага й Абаянскага паветаў Куршчыны. Сьціслa вялікаакаючая па мяккіх /і па цьвярдых/ сугуках із некаторым узрушэньнем па мяккіх у бок дысыміляцыйнасьці мова паветаў Карачанскага, Суджанскага, другое часткі Абаянскага ды прынамся часткі Льгоўскага Куршчыны. Аканьне Куршчыны пазнаём галоўна з працы Халанскага. Вялікае аканьне Куршчыны мяжуе зь вялікім аканьнем б.Варанескае губ.

Мернае аканьне па мяккіх сугуках /так завуць у расейскай моваведзе аканьне, калі ў першым складзе перад націскам па сугуку мяккіх перад цьвярдым сугукам ёсьць "я", але перад мяккім "і"/ ёсьць у Тульшчыне ды ў усходняй частцы Калужчыны /паветы: Бароўскі, Малаяраславецкі; усходняя частка Медыньскага, Калускага ды часткі іншых на ўсходнім баку Акі/. Мернае аканьне па мяккіх сугуках паўстала, як усе прызнаюць, неарганічна зь вялікага аканьня пад уплывам маскоўскага аканьня, якое йзноў паўстала неарганічна з расейскага оканьня пад уплывам вяціцкага аканьня ды, як уважае Бяссонаў[101], пад уплывам акаючае вымовы беларускае інтэлігенцкае эміграцыі ў Маскве ў XVII стг.

Дысыміляцыйнасьць /па мяккіх сугуках/ у тэй або іншай меры ў б. губ. Арлоўскай і ў розных іншых мясцовасьцях выясьняецца скрыжаваньнем окаючае або літаратурна-расейскае вымовы із собствамі аканьня. Што гэтыя асаблівасьці паўсталі на вяціцкай тэрыторыі, а на беларускай іх няма, або яны ёсьць у малой меры й яшчэ не зацемленыя, выясьняецца большым, бо 450-гадовым расейскім уплывам на мову Вяцічаў.

На тэй частцы вяціцкае тэрыторыі, дзе засталася дагэтуль беларуская мова, дысыміляцыйнае аканьне па мяккіх і цьвярдых сугуках ёсьць у большай частцы Калужчыны /у павеце Медынскім - на заходнім баку р.Медынкі й частказа на ўсходнім, у заходняй частцы Калускага павету ды ў паветах Масальскім, Мяшчоўскім, Перамышльскім, Жыздрынскім[102] і хіба Казельскім/; на гэтай-жа прасторы ёсьць дысыміляцыйнае аканьне па мяккіх сугуках, што цягнецца й далей на паўдня ў беларускіх частках б. Тульскае, Арлоўскае й Курскае губэрняў аж да р.Сейму ў Пуцівельскім павеце. Дысыміляцыйнае аканьне па мяккіх сугуках гэтае прасторы завуць аканьнем беларускага або жыздрынскага тыпу /ад м.Жыздры/. У ім



па мяккіх сугуках перад складам із а ёсьць "і", перад іншымі складамі ёсьць "я" /зімля але: зямлі, зямлю/.

Апрача таго, слабая дысыміляцыйнасьць у ваканьні па цьвярдых сугуках знойдзеная ў мяшчан м.Курску, Абаяні, Шчыгроў ды ў сялян у некаторых мясцовасьцях Куршчыны, Арлоўшчыны й Варонежчыны[103]. Да дысыміляцыйнага аканьня па цьвярдых сугуках, а па мяккіх да дысыміляцыйнага аканьня тыпу жыздрынскага я зьвярнуся ніжэй.

Аканьне спрычыніла такія формы, як: рукамі затрёс - Данецкая Семіца Цімск.п., ручічькі патрёс - тамсама /Халанский, 55, 69/, тресть, трёс, встрёхавала ўсюдых у Разанскай губэрні /Будде, 24/. Гледівчі - Заломнае Суджан.п. /Халанский, 222/. "Трэсьці", "трос", "гледзячы" - ўжываюцца ўсюдых на беларускай тэрыторыі. У памятках разанскага дыялекту сустракаецца "е" заміж ненацісьненага "я": занели есми мы - разанскі ліст 1681 г., кнегиня і княгиня /Будде/, "е" зам. "я" ў ненацісьненых складох - агульная рыса беларускіх памяткаў. У іх гэта напэўна рыса правапісная, спрычыненая аканьнем. У вымове гэтая рыса ёсьць цяперака ў палескіх гаворках /на захад ад Дняпра/, дзе яе можна выясьніць адыходам аканьня пад украінскім уплывам. Калі-б гэтая рыса на Палесьсі была арганічная, дык мы спадзяваліся-б бачыць яе і ў северскай гаворцы, прыміж таго яе там няма.

## IУ. Іншыя самагукі

У вяціцкай вымове, як і ў беларускай, "о" адкрытае[104], з выняткам выпадкаў, калі, будучы пад націскам, яно разьвілося ў дыфтонг, а пасьлей пры чэзьненьні дыфтонгаў спрасьцілася ў "о" закрытае.

Дыфтонгі. Як вялікая бальшыня рысаў вяціцкае мовы, дыфтонгі ў ёй цяпер належаць да зьяваў, што чэзнуць і ў вялікай бальшыні шчэзьлі, але, як сьветчаць матар'ялы В.Трасьцянскага[105], у ягоным часе яны былі зьяваю масавага характару. Дасьледаваньнікі адзначаюць дыфтонгі або сьляды дыфтонгаў у розных мясцох вяціцкае тэрыторыі[106]. Адсюль відаць, што спачатна дыфтонгі ў вяціцкіх гаворках былі нармальнай рысаю. Дыфтонгі бываюць на месцы ѣ, е, о у нова- й стара-закрытых складох і адкрытых, заўсё-

 



ды толькі пад націскам, як спачатным усходным /акутавым/, так і спусклястым /цыркумфлексавым/. Ляпей захаваліся дыфтонгі із старога ѣ, на месцы якога й цяпер часта складаны гук і͡е. Дыфтонгі з "о" захаваліся часткава ў выглядзе о͡ў, але шмат часьцей спрасьціліся ў о вельмі закрытае, аднароднае, у запісах яго абазначаюць праз ô. Некаторыя прыклады: бі͡елай, бі͡елый, лі͡ет, саві͡ет, крі͡епше, ті͡есна, сі͡енам, рі͡етка, ді͡ефка, мі͡ерку, ді͡еті, йі͡езділі, сі͡ерай, мі͡ерка – Каратаяцкі павет /Гринкова, УІІ, 565/, тьве͡ат /цьвет/ – Пятушкі Навасіль.п., се͡ачкі – тамсама /Будде. Тула-Орел, 13/, се͡ам /= 7, двойчы/ – Пятушкі Навасіль.п., пье͡оть – Верхняя Залегашч Навасіль.п. /Будде, Тула-Орел, 13, 24/, лі͡енты – Каратаяцкі пав. /Гринкова, тамсама/; чераз му͡ост – Красныя Буйцы Епіфанск.п. /Дурново, 129/, сху͡одіш – Данілаўка Крапівенск.п., саху͡ою – Драгуны Крапівенск.п., ху͡одіш – Казачая Слабада Крапівенск.п. /Будде, Тула, 9, 21,25/, у сіре͡откі – хутар Навасіль.п., Хе͡одар – Зарэчча Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 15, 18/, з го͡ут, гôд, вôт, ув ôськінам, в бôк, мôдная сôль, бôт, рôвна – Каратаяцкі п. /Гринкова, УІІ, 564/, ку͡осы, по͡ускань, то͡ў-жа – тамсама.

Калі выпадкі дыфтонгаў з "о" пад усхоным націскам часьцейшыя ў Паўночна-вялікарусаў, чымся ў Вяцічаў, дык гэта яшчэ ня довад, што апошнія пераняли ў першых, да чаго сьхінаецца Шэрах,[107] бо гэтая зьява магла паўстаць незалежна ў вадных і ў другіх. У славенскай мове "о" пад усхоным націскам таксама зьмянялася ў тым-жа кірунку[108].

Як і ў беларускай мове, стоячы ля вусьнянага сугуку, "о" пераходзе ў "у": музёль /мазоль/ – сёлы Сьвістаўка, Перыкі, Баракова, Ябланава, Восьлябава, Грамячка й інш. Скопінскага п. Разаншчыны /Будде, 42/; нат ля вусьнянага сугуку "ы" пераходзе ў "у" – умувалася – Гарохава Мцэнск.п. /Будде. Тула-Орел, 62/, як гэта ёсьць у палеска-беларускіх гаворках. е перад ш, ж, ц не пераходзе ў "о" /ё/: памреш – Маскоўскія Выселкі Крапівен. п., сашьеш – Драпы Адаеўск.п. /Будде. Тула, 21, 37/, гэлавешка – цэнтральная Куршчына /Халанский, 7/. У: азаветца, атклікнетца – Шарэкіна Льгоўск. п., рашетчітаі – Заломнае Суджан.п. /Халанский, 265, 226/, рашэтчьтыя – Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 23/ – "е" дзеля таго не перайшло ў "о",

 

сьлізах - тамсама /Дурново, I29/, аскрісеньня - Арлова Крапівен. п. ўаскрісеньіца - Архангельскае Крапівенск. п., аскрісеньіса /-іца/ - Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула, I3, 27, 25/, ўаскрісенъшнай какошнік - Пруды Навасіль. п., адзін зуп крышыцца - Галянкі Касарэўскае вол. Навасіль п., хрышшэньня - Пятушкі Навасіль. п., расклычіть /нацiск на клы-/ /Будде, 26, 25, I3, I35/; грімітя - Гарнастаеўка Шчыгр. п. /Дурново, I09/, загрімелі - Донецкая Семіца Цімск. п., за трімя - тамсама, разаб'ю я трісьтеннаю горіцу - тамсама, к абедні зазьвінять - тамсама /Халанский, 79, I06, I04/, слізою - Буданаўка Курск.п. /Дурново, 92/, грімучіму - Новыя Дзеравенькі Льгоўск. п., грімучіму /двойчы/ - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /Халанский, 203, 270/; яблыка /Даль, LXIУ/; пажаловала есмі - разанскі ліст вялікае княгіні Ганны /I464-I50I/ /Ягіч. Заметки, I39/.

Як добра выясьняе Шэрах, 69, пра гэтую-ж рысу сьветчаць формы займяў міне, тібе, сібе, або й міня, тібя, сібя, дзе паводля міне з мьне зьявілася тібе і г.д.

Перад "р, л, м", па шчэзьненьні ераў пасьля іх, разьвілося і - : і̂ржыца - Пупкі Скопін. п. /Будде, 48, 2I5/, ірвать - Ясянкі Крапівен. п. /Будде. Тула, I5/. Гэтая рыса, як і папярэдняя, шырака ведамая ў беларускай мове.

ъ, ь перад й ды йь перайшлі ў ы. Гэта маем: а/ у канчатку назоўнага склону адз.л. мужчынскіх прыметнікаў, б/ у цяперашнім часе й загадным ладзе некаторых дзеясловаў: вырыють - Маскоўскія Выселкі Крапівен. п. /Будде. Тула, 20/, рыю - Хамутова Лаўраўскае вол. Арлоўск. п. / /, крыетца - Мокрая Карачэўск. п. /Дурново, 96/, выпій рюмку - Драгуны Крапівенск. п. /Будде. Тула, 24/. Пра гэта-ж сьветча форма чія - Буданаўка Курск. п. /Дурново, 22/, чія та свадьба? - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /Халанский, 270/. Шахматаў кажа:

> "Цяпер паўдзённа-вялікаруская падмова мае сьцяг рысаў, супальных із паўночна-вялікарускай, але ўсё гэта рысы пасьлейшыя /прыкл. канчатак -ой зам. -ый у наз. адз.л. худой, або о зам. ы ў мою"III.

ъ перад йь - пераходзе ў "ы" таксама ў прэфіксах ды прыймях: сыйдёмсі - Архангельскае Крапівен. п. /Будде.Тула, 30/, взыйді, разыйму - Воўнікава Пакроўск. вол. Арлоўск. п. /Дурново, 22/II2. Гэта рыса вылучна беларуская.



Васільеў паказаў, што прыймі й прэфіксы въ, къ, съ перад йь- маюць форму вы, кы, сы, тым-жа часам ў моцным палажэньні не перад йь - іхная форма ва, ка, са: ва ўсю, ка мне, але: сы іншій старонкі. Формы вы, кы, сы пашыраныя па ўсёй тэрыторыі вяцкіх гаворкаў і асабліва частыя ў Разаншчыне, Варанежчыне, Арлоўшчыне, меней частыя ў Тульшчыне II3, бо тут больш маскоўскі ўплыў. Такія-ж формы ёсьць і ў беларускай народнай мове, між іншага, у Севершчыне II4.

Як добра выясьніў Шэрах, гэткія вяцкія формы з ы, і паўсталі з тае-ж прычыны, што й наагул у беларускай мове. У вяцкіх гаворках ь, ь перад й ды йь перайшлі ў ы, і, а пасьлей ый, ій пад расейскім уплывам былі неарганічна замененыя расейскімі - ой, -ей, так што адно сьляды засталіся ад ранейшага стану II5.

Як у беларускай мове наагул, таксама і ў вяцкіх гаворках пачатнае йь - адпала: "... стала мы чуем /у Разаншчыне/ мяніны, мянінік, без пачатнага і-" /Будде, 48/, нагда /а не іногда/ /Будде, 52/, заграл - Ніжняломаўскі п. Пензен. губ. /Даль, LXУI/, грають - Жылая Слабада Крапівен. п., ны Льлю /- на Ільлю/ я мінінніца - Паўлаўскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 22, 39/, мужа з хаты панясьлі - Данецкая Семіца Цімск. п., што ты шчэс, правалілсі! - цэнтральная Куршчына /Халанский, 59, 379/; грать - места Абаянь, грать /двойчы/ - Красьнікава, Абаянск. п., выплавала /але!/ сера вутка с камышочьку, ой спад туго куточьку - Гочава Абаянс. п., пыграю - Заломнае Суджан. п., граіть - Знаменскае Суджан. п. /Халанский, 263, 254, 262, 243, 272/.

## Н а ц і с к

Дацка́ - Касімаўскі п. /Будде, 83/, сако́л - Ябланава Скопінск. п., Зьверава Данкоўск. п. /Будде, I6I, I75/, зараба́ткі - Карачун Задонск. п., ф сту́пе - тамсама /Гринкова, У, 9I/; дико́ва, дику́ю - Архангельскае Зямлянск. п. Варан. г. /Гринкова, У, I02/, про́сты - Скопін. п. /Будде, I42/, про́стая - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 567/, шалко́вая - Казлоўка Баброўск. п. Варан. г. /Дурново, I58/.

утня́л - Разанск. п., Скопін. п. /Дурново, 33/.

на гору́ ідзём – Шчэлева Скопін. п., паставіла пад гару́ – Ябланава Скопін. п., хᵒдіть свёкар па дзвару́, лялі, брава па дзвару́ – тамсама /Будде, I58, I87, I73/.

Расчясалі бараду́, завязамшы галаву́, лялі, брава, галаву́ – Ябланава Скопін. п. /Будде, I73/, звярі́ – Скопін /Дурново, I48/, сакала́ – Ябланава Скопін. п., за сакало́м – Зьверава Данкоўск. п. Разанск. г., с сыбаля́мі – Ябланава Скопін. п., /Будде, I6I, I75, I62/, мідьвядя́ – Разаншчына /Будде, II/, валка́, валку́ – Архангельскае Зямлянск. п. Варан. г., в о́тпуску – Б.Вярэйка Зямлянск. п. /Гринкова, У, 9I/, ко́ній – Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 567/, на́йдем – Крэмлева Скопін. п., прі́дем – Восьлябава, прі́де – Разаншчына /Будде, 98, I22/.

стала те́сна – Зямлянскі п. Варан. г. /Гринкова, У, 79/.

атла́с – Пятушкі Навасіль. п., галу́б – Бяцькова Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, I3, 34/, сако́л – Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 33/, сілязе́нь /двойчы/ – Пятушкі Навасіль. п., на спі́не – Ніжняя Залега́шч Навасіль. п., ў сту́пе сталкуть, ў сту́пу талоч – Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, I4, 20, 40/; на́гай /голы/ Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, I27, 60/, шалко́вы – Пратапопава Тульск. п. /Дурново, I42/.

нъчяла́ – Сакольле Касарэўск. вол. Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 26, пъдьняло́ – Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 2I/, утня́л – Тульскі й Епіфанскі паветы /Дурново, 33/.

за руку́ – Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 34/, на зарю́ – Панькова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 36/, на о́с /= на воз/ пъдають – ц.с. Лаўрова Арлоўск. п., на о́з /= на воз/ нъвіваім – ц.с. Станавы Калодзезь Арлоўск. п. /Будде. Тула- Орел, 40, 42/.

касу́ распляла – Панькова Арлоўск. п., клалі ў ваду́ – Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 39, I5/, аднао го́сьтя нет ті, го́стя дарагоўа – Какурына Адаеўск. п. /гэткі-ж націск, між іншага, ёсьць у Арлянятах Ашмянскага пав. Віленшчыны – Я.С./, нашы дяды́ гварілі – Маскоўскія Выселкі Крапівен. п. /Будде. Тула, 44, 20/.

было́ – Каменеў Адаеўск. п. /Дурново, 29/, ні спа́ла – Ніжняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула- Орел, 2I/, ўзяла́ – Арловы Крапівен. п., пъдьняло́ – Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, I2,2I/, нъчяла́ – Сакольле Касарэўск. вол. Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 26/; мне люді ро́ўны – Арлова Крапівен. п., прінакроють очі я́сны,



прізасыпють очі я́сны – Ленінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, I2, 35/.

прі́діть – Пятушкі Навасіль п. /Будде. Тула-Орел, I3/, на́йдім – Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 37/.

по́тъм /двойчы/ клічють свёкра – Духаў Навасіль п., по́тъм /тройчы/ – Хралова Мцэнск. г., по́тъм – тамсама, по́тым – Мокрая Карачэўск. п., по́тым аттапліваім – Трыкоўка Драгунскае вол. Карачэўск. п. /Будде. Тула-Орел, 3I, 55, 52, 75/. /Такі-ж націск гэтага прыслоўя ў беларускай мове, між іншага, добра ведамы мне ў Ашмянскім пав., а з Рагачоўскага пав. /потым/ маем у Раманава, II, 385; пасьле́ заварім – Хралова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 55/. /Такі-ж націск у Аль Кітабе/[116].

дісято́к – цэнтральная Куршчына /Халанский, 378/, сакало́к – тамсама, сако́л – Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 63/; крылушкі далгі́я – Мармыжы Шчыгр. п., сабале́ваю – Мялехава Шчыгр. п., шалко́вая – Данецкая Семіца, Цімск. п. /Халанский, 86, 98, 53/.

паняла́ – Хахлоўка Шчыгр. п., пачалі́ – Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 94, 70/, пачалі́ – Расхавец Шчыгр. п. /Дурново, I05/.

на старану́ – Данецкая Семіца Цімск. п., пашла рана па ваду́ – Старыя Савіны Шчыгр. п. /Халанский, I05, 84/.

галаву́ лячіть – Данецкая Семіца Цімск. п., вэтры́ – тамсама /Халанский, II2, 72/, вятры́ – Расхавец Шчыгр. п. /Дурново, I06/, з буйнымі вятра́мі – Данецкая Семіца /Халанский, 64/.

спала́ – Буданаўка Курск. п., Данецкая Семіца Цімск. п. /Дурново, 92, 93/.

варо́ты – Красьнікава Абаянск. п., Знаменскае Суджан. п., крапіва́ – Заломнае Суджан. п. /Халанский, 256, 273, 227/; яна ро́днага упрашая – Лучкі Карачанск. п. /двойчы/ /Халанский, 278, 282/, ро́дны – Саламыкава Абаянск. п. /Дурново, 84/, ро́днаю – Гочава Абаянск. п., ро́дны – Заломнае Суджан. п., ро́днага – Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 258, 247, 268/, сме́шнай – Абаянскі п., Суджанскі п., сме́шна – тамсама /Халанский, 35/, шалко́вая – Лучкі Карачанск. п., шалко́ваю /двойчы/ – Красьнікава Абаянск. п., шалко́вы – Заломнае Суджан. п. /Халанский, 279, 255, 2I4, 2I5/, шалко́вая, -аю – Саламыкава Абаянск. п. /Дурново, 84/.

аддалі́ - Красьнікава Абаянск. п., падня́ть - Заломнае Суджан. п., падьнять - Знаменскае Суджан. п. /Халанский, 255, 230, 274/.

старану́ - Заломнае Суджан. п., на леваю руку́ - тамсама, галаву́ - тамсама, лі́стам /снадзіўны адз.л. - Я.С./, шырокая - тамсама /Халанский, 225, 230, 249, 239/.

хо́раша - Заломнае Суджан. п. /Халанский, 225/.

У вышпрыведзеных катэгорыях вяціцкі націск аднолькавы з агульна-беларускім націскам, у тым ліку з націскам беларускае мовы /да колькі выпадкаў, меней ведамых, беларускага націску я зрабіў зацемкі/. Але ёсьць таксама ў вяціцкіх гаворках націск, аднолькавы з націскам некаторых беларускіх гаворках. Буддэ, 144 адзначае: "... у царк. сяле Мірасла́ўшчыне Скопін. п. ды іншых, дзе чуем, прыкл., схо́жу, спро́шу зам. схажу́, спрашу́ ёсьць падобнасьць із беларускім /гл. РФВ 1892, №1, арт. Карскага, б. 54/"; хо́чу /двойчы/ - Знаменскае Суджан. п. /Халанский, 272/. Мне такі націск ведамы з гаворкі Сьвянцянскага пав. у Віленшчыне.

## Зь міжыслоўнае фанэтыкі

Протэтычнае в. "Устаўленьне гуку "в" бачым у словах: Лявон, Лявонаф /прозьвішча/, Лявоньтій. Пристаўное "в" ёсьць, прыкладам, у словах: вострай, воспа, варган, "Вотча" /назоў Малітвы Господняй.../. Разгледжаныя зьявы ў галіне гуку "в" пасьветчаныя таксама памяткамі разанскага пісьменства. Гэтак, у праўным лісьце 1563 г. /Ркп. Раз. Архіву №7/ чытаем: на волху /=вольху/. У Разанскай губ. дагэтуль кажуць: воляшнік, зн. альховы гай /чута ў царк. с. Баракове й Перыках Скопін. п./. Ларівонья, Левон /Пискарев. Акты, № 5, 3, 13/. Усе акты XIУ-ХУ стг." /Будде, 63, 64, 65/.

"У вольных царк. сёлах Разанскае губ., прыкл., у царк. сяле Восьлябаве, маем пачатнае прыдыхальнае "в", як і ў шмат якіх іншых словах разанскае падмовы" /Будде, 58/. Восей, вусей - Разаншчына /Будде, 132/. Лявонычу - места Валуйкі Варан. г. /Дурново, 110/.

Стаять во́кънла парогу - Ясянькі Крапівен. п. /Будде. Тула, 16/, воспа - ц.с. Ямскае Навасіль. п., Вольга - места Мцэнск, вокъл - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., вопромітью - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде, Тула-Орел, 33, 44, 45, 47, 52/, Аўдотья Во-



сіпъвна - Панкова Арлоўск. п., ўосіньню - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п., восінь - ц.с. Кулікоўка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 36, 41,43/, Вольгаю звать - ц.с. Драплы Адаеўск. п., ўосім - тамсама, вывьду на ўульцу - /вуліцу/ - Архангельскае Крапівен.п. /Будде. Тула, 37, 28/.

восянь - ц.с. Старыя Савіны Шчыгр. п., вочі - Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 66/, на вуліцу - Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 82, 108/.

вокала - Знаменскае Суджан. п., вочінь - Заломнае Суджан. п., вочінь - Заломнае Суджан. п. /Халанский, 271, 224/, вуліцу Лучкі Карачанск. п., Красьеікава Абаянск. п., м. Абаянь, Знаменскае Суджан. п. /Халанский, 279, 283, 254, 255, 256, 263, 273/, вутка - Заломнае Суджан. п. /Халанский, 222/.

вугал, вуглей /Даль, LXIII/.

Перад "а" : ув атводы пойдуть к матьрі - Ніжняя Залегашч Навасіль. п., ў вабваленъм вярьху - Хралова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 21, 55/, ўв Адоіў - ц.с. Левінскае Адаеўск. п., ув Андрея жана мъладая - Рылава Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32, 48/, у вакне - Лівенскі п. /Селищев. Заметки/.

У варэхавай клеткі, да у варэхавай у новай - ц.с. Мялехіна Шчыгр. п. /Халанский, 97/.

Ув атца - Абаянскі п., ув адном - Курасаўка Абаянск. п. /Дурново, 27/, у ваконушка паглідая - Заломнае Суджан. п., у варешанью - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /Халанский, 219, 268, 269/.

У беларускай мове пристаўное "в" бывае заўсёды на пачатку складу а/ перад кажным "о" /націсьненым, бо "о" ненацісьненае пераходзе ў "а"/, б/ перад кажным націсьненым "у" і в/ перад "у" ненацісьненым із спачатнага юса. Перад ненацісьненым спачатным "у" пристаўное "в" бывае не заўсёды. Перад "а" /спачатным і зь ненацісьненага "о"/ пристаўное "в" бывае толькі па прыймі або прэфіксе у, ў. Няма сумлеву, што таксама ёсьць у вяціцкіх гаворках /восім, але асьмаццать у Разаншчыне - Будде, 91/. Адзін прыклад "варган", прыведзены на пачатку гэтага артыкулу, Буддэ мог пачуць па прыймі у, ў.

Пад расейскім уплывам нашчадкі Вяцічаў стараюцца не вымаўляць пристаўнога "в", дзеля таго ў іх зьявіліся выпадкі адпа-

даньня /або выпаданьня/ спачатнага "в": садятца на паоску /зам. на павозку/ - ц.с. Дзецкіна Мцэнск., на ос /зам. на воз/ пъдають - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п., /пянку/ аставляють сабе на ожи /зам. на вожы/ - тамсама, на оз /зам. воз/ нъвіваім - ц.с. Станавы Калодзезь Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 47,40, 4I, 42/.

Па прыймях перад займём 3-ае асобы ня бывае прыстаўнога "н": "Зацемім, што ў народнай мове /Разаншчыны/ пры зьмене займя 3-яе асобы вельмі рэдка прыстаўляецца гук "н", які мы прывыклі прыстаўляць па прыймях" /Будде, II9/, біз яво - Скопін. п. /Дурново, I49/, ніхто у яво ні таргуя - Зьверава Данкоўск. п. Разанск. г. /Будде, I74/, с ім - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 579/.

к ему - Тульшчына, Бох с імі - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, 4, II, I2, 2I, 27/, за ей - ц.с. Зарэчнае Навасіль. п., Верхняя Залегашч Навасіль. п., Вяжы Навасіль п., пад ім - Хутар Навасіль. п., с ей - Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, I5, 24, 29, I8, 57/, па ём - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., із іх - ц.с. Гарохава Мцэнск. п., у ей - Панькова Арлоўск. п., ў іх - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 45, 59, 36, 4I/, с ей відълся - Каменеў Адаеўск. п. /Дурново, 28/.

к яму - цэнтр. Куршчына, па ём - Данецкая Семіца Цімск. п., к яму - тамсама, кь ей - тамсама /Халанский, I0, 65, 70, 74/.

за ей - Заломнае Суджан. п., к ей - тамсама /Халанский, 245, 249/.

Таксама ў беларускай мове.

У запісах сустракаюцца выпадкі прыстаўнога "і" да прыймя "с": поп іс казёнкі вытряскал глазёнкі, пападья іс печкі выламала плечкі, дьякан с лафкі вышып пяткі, дьячок с паталка убіл тялка - Шчэлева Скопін. п. /Будде, I80/, ісь сіней - Гарнастаеўка Шчыгр.п. /Дурново, I09/, вазьму перстінь іс сабою - Гочава Абаянск. п. /Халанский, 260/.

Тое-ж у беларускай мове[II7].

"Д", "т" перад "й" і мяккімі "в", "н", "л" зьмякчаюцца: падьвядём - Ябланава Скопін. п. /Будде, I88/;

пятьніцу, будьні - Маскоўская Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 27, 22/, летьнія - Пятушкі Навасіль. п., радьня - тамсама, летьнія - Зарэчча Навасіль. п., подьлі - Верхняя Залегашч



Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, I2, I7, 22/, дьні - Верхняя Залегашч Навасіль. п., дьня - ц.с. Галянкі Касарэўск. вол. Навасіль. п., пятьніцу - Пруды Навасіль. п., абедьні - тамсама /Будде. Тула-Орел, 22, 25, 26/, атьвету - ц.с. Дзецкіна Мцэнск. п., ягадьнік - тамсама, ў нашам сусетьсьтьві - ц.с. Старажовае Мцэнск. п., гудьнічька - Хралова Лужск. п. /Будде. Тула-Орел, 50, 46, 52, 55/, падракітьнік, слабодьней - Панькова Арлоўск. п., абедьні - Хамінка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 36, 4I/, атьяжжая, апасьледьняй - Левінскае Адаеўск. п., гародьнікі, редьніцу - ц.с. Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 35, 37/, дьлі - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 52/;

атьвяду - Мялехіна Шчыгр. п. /Дурново, 88/, работьнікі, агародьнікі, скотьніца - цэнтральная Куршчына, абедьні, падьняў, дьня - Данецкая Семіца Цімск. п., падьвівая - ц.с. Пакроўскае Шчыгр. п. /Халанский, II, 59, 79, 80, 90/, карагодьнічік, ахотьнічік - ц.с. Мялехіна Шчыгр. п., дьлі дарошкі пакладіна /двойчы/ - тамсама /Халанский, 98,97/;

шутьлівая - Лучкі Карачан. п. /Халанский, 279/, плітьнём - Абаян. п. /Дурново, 67/, шутьлівая - Красьнікава Абаянск. п., падь деушку, падь ету, падь мяжу падьіжжая - места Абаянь /Халанский, 255, 264/, пітьля - Маслаўка Суджан. п. /Дурново, 74/, ахотьнічка, в сідьле, падьнять - Знаменскае Суджан. п., /Халанский, 274/, атьіжжал, надьіжжал - Заломнае Суджан. п. /Дурново, 77/, падьнятца - Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 266/.

У тых-жа палажэньнях маем зьмякчэньне "д", "т" у беларускім сярэднім дыялекце, адно з тэй розьніцаю, што пры захаваным дзеканьні тут "дзь", "ць" заміж "д", "т" мяккіх.

Дзеканьне. З усяе вяціцкае тэрыторыі дзеканьне цяпер ёсьць толькі ў Касімаўскім павеце Разаншчыны[II8]. Даль, LУI, адзначае яшчэ гэтую рысу ў Ніжнялomaўскім пав. Пензен. губ. Няма дзеканьня і ў вяціцкіх Палехаў Калускае й Арлоўскае губэрняў, дзе яшчэ дагэтуль захавалася беларуская мова, таксама як няма цяпер дзеканьня ў найусходнейшых мясцовасьцях мовы нашчадкаў Крывічан. Адылі ў дзевятнаццатым стагодзьдзі дзеканьне было ў мове Калуска-Арлоўскага Палесься[II9]. У Палехаў гэтага Палесься сустракаюцца цяпер адно спарадычныя сьляды дзеканьня: клікал цабе /=цябе/ - ц.с. Полпіна Бранск. п. /Будде. Тула-Орел, 8I/, хоц /= хоць/

 



- Рэдзькіна Медынск. п., Карамышава Медынск. п. /Дурново. Карта 3І, 32/. Тут-жа бывае, што "д" вымаўляецца надзвычайна мякка /Дурново. Карта 34/, што йзноў сьветча пра былое дзеканьне. З усяго гэтага відаць, што ўперад вяціцкая мова знала дзеканьне на ўсёй сваёй тэрыторыі.

Адылі, рэдкія сьляды дзеканьня знаходзім і на іншых, апрача адзначаных, прасторах вяціцкае мовы. Я маю наўвеце форму прыймя зьлі: нарвалі сьніткі зьлі шчей - паўночна-ўсходняя Куршчына /Халанский, 374/, паймайтя роя зьлі сібе - ц.с. Пакроўскае Шчыгр. п. /Халанский, 89/. Халанский /34/ кажа, што ў Шчыграўскім павеце кажуць я зьлі девак хто зная када была, а ў Суджанскім і Абаянскім гэтак: Я зьлі девак хто знаіть калі была, зьлі сталба - Гочава Абаянск. п., зьлі Машунькі - тамсама /Халанский, 258/, зьлі - Заломнае Суджан. п. /Халанский, 226, 249/, зьлі стала - Літоўня Бранск. п. /Будде. Тула-Орел, 88/ /апошні прыклад зь мясцовасьці зь яшчэ захаванай беларускай моваю/. Нельга сумлявацца, што зьлі паўстала з дьлі /а гэта з длі/ пры пасярэдніцтве дзьлі /прыр. агульна беларускае Зьмітра, зь Дзьмітра/.[I20]

Я думаю, што й вельмі пашыраныя ў вяціцкім дыялекце тьвет, тьвіту, тьвісьті маюць "т" зам. "ц", а не зам. "к", як дапушчае Шэрах[I2I], дарма, што ёсьць магчымасьць пераходу "к" ў "ть" й сустракаюцца выпадкі "кв" перад "ѣ". У беларускай мове ёсьць таксама "кветка" і пад., але ёсьць і "цьвет", "цьвісьці". Праўдападобна так было і ў вяціцкім; пры замене, пад расейскім уплывам, ць з ть праз ть было замененае праз ть і ць спачатнае.

"з", "с" прыймяў і прэфіксаў перад мяккімі сугукамі ды "й" зьмякчаюцца: сьел - Карачун Задонскага п. Варан. г. /Гринкова, У. 96/;

зьбіраюць - Пятушкі Навасіль. п., ръзьбірем - Зарэчча Навасіль. п., зьбяруть - Ніжняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, І2, І5, 2І/, разьмілуя - Дзецкіна Мцэнск. п., ръзьбіваім, зьделаітца, ўзьвілась - Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 50, 5І, 52/, зьбіраю - Хралова Мцэнск. п., зьбірать - Бабі Скок Мцэнск. п., зьделалъсь - Гарохава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 55, 56, 60/, зьбірала - Панькова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 37/; із зілёнава - ц.с. Мялехава Шчыгр. п., із белава ліца - тамсама; раськінула - ц.с. Хахлоўка Шчыгр. п., бізь міне - ц.с.



Пакроўскае Шчыгр. п., бісь тібе - тамсама /Халанский, ІОІ, 96, 94, 89, 90/, уся сьміётца ізь міне, бізь месіца, сь сібе, зь длінными, сь пяды пяды /зь пяты/, узьвісяліть, разьміняімсі, ізь няволі - усі з Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 7І, 69, 68, 62, 59/;

сь кем - Лучкі Карачан. п., сь тіхава - Гочава Абаянск. п., сь етім - м. Абаянь, сь міне - Знаменскае Суджанск. п., зьбілсі - тамсама /Халанский, 278, 26І, 264, 272, 273/, расьтьвітая - Знаменскае Суджан. п., бісь тілёнка, бісь тібе, сь ніделічкі, сь міленькім, сь тіха Дону - усі ў ц.с. Заломнае Суджан. п., расьслязіла - Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 273, 233, 228, 248, 227, 226, 267/.

Зьмякчэньне к. Вельмі пашыраная зьява ў вяціцкіх гаворках - цяпер зьмякчэньне "к" па "й" і мяккіх сугуках /капейкю, дарожынькю/. Гэтае рысы няма ў беларускай мове, але згода тут у тым, што наступны сугук прыпадабняецца да папярэдняга. Дыкжа вялікай перавагаю прагрэсыўнае асыміляцыі над рэгрэсыўнаю адзначаецца беларуская мова. Дзеля таго гэтая рыса ня ўзрушыла беларускага кірунку вяціцкае мовы, дарма, што яна ня ведамая мове беларускай.

Буддэ /Тула-Орел, І07/ піша, што на паўдні Тульшчыны - у паветах Крапівенскім, Навасільскім і Адаеўскім - ды на поўначы Арлоўшчыны /паветы Мцэнскі й Арлоўскі/ "усюдых ужываюць гуку "к" мяккога, адылі побач із цьвярдым; значыцца "к" на дарозе да зацьвярдзеньня". Але ці не наадварот? Ці ня ёсьць тут няскончаны працэс мякчэньня "к"?

ч. Блізу агульная рыса цяперашняе вяціцкае мовы - мяккая вымова "ч". Адылі, пачынаючы ад паўдзённых паветаў Тульшчыны ў кірунку на захад і паўдня, ёсьць спачатку сьляды, адлі ўсё часьцейшыя выпадкі зацьвярдзелага "ч". Гэтак, у паўдзённых паветах Тульшчыны ды паўночных Арлоўшчыны "к" па "й" і мяккіх сугуках зьмякчаецца, але па мяккім "ч" не зьмякчаецца: кічьку, а кічька - ц.с. Зарэчча Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, І6/, душычька - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., на рэчьку - ц.с. Старажовае Мцэнск. п., Панькова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 46, 52, 36/ і інш. Тое-ж ёсьць у паўночна-ўсходняй Куршчыне[І22]. Значыцца, у гэтых мясцовасьцях яшчэ нядаўна "ч" вымаўлялася цьвёрда. Ап-

 

рача таго, на адзначанай прасторы Куршчыны сустракаецца зацьвярдзелае "ч" на канцы слова: реч - ц.с. Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, II3/. Таксама сустракаецца зацьвярдзелае "ч" ў ц.с. Знаменскім Суджанск. п. - хочу /272/.[I23] У ц.с. Заломнае таго-ж павету зацьвярдзелае "ч" ёсьць заўсёды перад сугукам і нярэдка перад "у", "а", радзей перад "о". Прыклады: пташачкі, чічотакі /223/, люлічку, пілёначкі, заловачкі, падгузачкі, печкі, грядачкі, лавачкі /23I/, крючкі, падушычкі, діжнічкі, краюшачкі, сумаччкі, делічка /234/, клетачку, сетачку, скамеічку /230/, святлічкі /229/, рублічка /227/, мастіначкі /226/, пташачка, клетачкі /2I8/, раёчкі, ўльёчкі %2I7/, рэчка /2I9/, стадічка /2I6/, Стіхванавіч /239/, дудачку /2I6/, в пасіделачках, нітачку /222/, павілічаім, павілічаю /2I8/, качалі /235/, палячу /223/, ручынкі /245/, ночушку /253/, чатырі /226, 227/, с чалэкам /= з чалавекам, 238/, частамі /239/ і шмат іншых. Яшчэ болей выпадкаў зацьвярдзелага "ч" ёсьць у Пуцівельскім павеце /на поўначы ад р. Сейму/[I24], дзе мова дагэтуль засталася беларускай. У Міхайлаўскай станіцы Хапёрскае акругі Доншчыны "ч" зацьвярдзелае /Дурново, I70/.

Із сказанага відаць, што спачатна ў вяцкіх гаворках, як і ў беларускай мове наагул, "ч" было зацьвярдзелае й што мяккая вымова "ч" пашырылася з поўначы пад уплывам, відавочна, галоўна расейскай літаратурнай мовы, часткава пад уплывам паўночнарасейскае падмовы. Ці ня было палёгкаю гэтаму ўплыву тое, што ў Тумскай зямлі і на шырокім узьмежжы з Крывічамі /у гэтым прынамся часткава/ "ц" мяккое з "т" мяккога вымаўлялася зьліжана да "ч" мяккога, а магчыма, што часткава "ц" мяккое вымаўлялася зусім як "ч" мяккое. Значыцца, на гэтых прасторах "ч" мяккое было знанае ў мове, што й памагло пашырэньню чужой вымовы "ч" мяккога зам. "ч" зацьвярдзелага[I25].

## Зацьвярдзелыя сугукі

Зацьвярдзеньне "р". Буддэ піша, што вымаўляюць "ува ўсіх паветах і мясцовасьцях Разанскае губ. "рыга" зам. "ріга" /сьвіран/, брычькя, стрычь, стрыгла, стрыжўть /Крэмлева Скопін. п./, скрып, скрыпіть - 3 адз. /Мішына Міхайлаўск. п./, Трыфон - тамсама, крык[I26] /але й "крік"/ і некаторыя іншыя..." /Будде, 39/;



рамённыя - Абуры, Касімаўск. п., стрыгун, стрыгунчык - Разаншчына / Будде, I39, I3I/.

Зацьвярдзелае "р" адбіваецца таксама ў разанскіх памятках: товарыши - запіс I594 г. /Ркп. Раз. Архіву № I0/, острычь-адпіс I654 г. /Ряз. Достопамятности. Труды Ряз. Ученой Арх. Ком., т. IУ, б. 7I/, /Будде, 40/.

грыбочькі - ц.с. Растова Багародзіцкага п. Тульшчыны, авец стрыгуть - Арлова, Захараўка Крапівенск. п. /Будде. Тула, 57, I2/, скарэйшы, рашатом, піраставілсы, рашэтчытыя - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль п. /Будде. Тула-Орел, 22, 24, 23/, пірастануть - Ніжняя Залегашч Навасіль. п., грыбы - ц.с. Вяжы Навасіль. п., прыложыл - Запіс I783 г. у Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 20, 29, 8/, рышато, рыэшато - ц.с. Лаўрова Арлоўскі п., грыбы - Панькова Арлоўскі п. /Будде. Тула-Орел, 22, 40, 36/, грыбы - ц.с. Паўлаўскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 39/.

скрыпачьку, грыбы - Данецкая Семіца Цімск. п., рашатом - ц.с. Мялехава Шчыгр. п. /76, I04, 99/, грыбов, грыбы /37I, 375/, піраехал, пірабег, піразяп, паймал пірапёлачку, пірав речьку, рашато - усе з паўночнае й паўночна-ўсходняе Куршчыны /8/.

скрыпу да скрыпу - ц.с. Лучкі Карачан. п. /34/, таварыш - Абаянскі п. /Дурново, 27/, рашетчітаі - Заломнае Суджан. п. /226/.

З прыведзеных выпадкаў із зацьвярдзелым "р" відаць, што даўней у вяцкім дыялекце было толькі "р" цьвярдое, што пасьлей пад расейскім уплывам было неарганічна замененае на "р" мяккое; таксама тое, што ў вяцкіх гаворках вельмі пашыранае "р" мяккое заміж спачатнага "р" цьвярдога: "Асаблівы нахін да зьмякчэньня /у разанскіх гаворках/, - кажа Буддэ, - мае гук "р": мусарь - жан. роду - зам. "мусор": "мусарь вся ляжыть"; камарь, -ря, -рю і г.д., дохтурь, -ря, -рю і г.д., дохтурём - снадзіўны адз. л., діря зам. дыра ... нутрём зам. нутром, із нутря зам. із нутра /Будде, 94/, кряпіва, наря - Разаншчына /Будде, I90/, затря /заўтра/ - Тумская зямля /Будде, 40/;

карьмітца - Жылая Слабада Крапівен. п. /Будде, Тула, 22/, кряпіва - Мцэнскі й Навасільскі пав., кряжовнік зам. крыжовнік - Навасіль п., затря - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п., затрі /заўтра/ - ц.с. Ніжняя Залегашч /Будде. Тула-Орел, I25, 22,

2I/, сарьвёть – ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 46/, рёт, ребрё, буряк, ряма – Новааскольскі й Стараасколькскі паветы /Халанский, 26/. І шмат іншых.

Замяняючы пад расейскім уплывам зацьвярдзелае "р" на "р" мяккое, Вяцічы адначасна замянялі "р" мяккім і спачатнае цьвярдое "р", бо ў сваёй мове яны мелі адно "р" – цьвярдое.

"ц" у вяціцкім зацьвярдзелае. Бяссумлеву, пад уплывам цьвярдога вяціцкага "ц" мяккое расейскае "ц" было неарганічна заменена цьвярдым у маскоўскай гаворцы, скуль лучыла да расейскае літаратурнае мовы, а зь яе ў некаторыя вельмі абмежаныя мясцовасьці паўночна-расейскае падмовы.

"ш", "ж" найчасьцей зацьвярдзелыя [127], адно ў некаторых мясцовасьцях пад моцным уплывам маскоўскае гаворкі яны вымаўляюцца мякка.

"ш" вымаўляецца як "шч" або як "шш", у вабодвых выпадках цьвёрда[128]; за спачатную агульна-пашыраную вымову, відавочна, трэба ўважаць "шч".

Вусьняныя сугукі зацьвярдзелі. /У Задонскім і Зямлянскім паветах Варан. г./ "Вусьняныя гукі звычайна гучаць цьвёрда: кроф, любоф, голуп / Гринкова, У, 9I/;

сім'я – Венеўскі п. Тульшчыны, сем – Бецькава Навасіль. п., сеам /= 7/, ўосям – ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 33, I3/, ўосім – ц.с. Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 37/;

бъеш – ц.с. Мялехава Шчыгр. п. /98/, голуб, голуба – ц.с. Хахлоўка Шчыгр. п., /95, 92/, пъянава, здаровъя – Данецкая Семіца Цімск. п., /53, 54/;

сімъі, варабъі, бъе, сімъя, голуба, варабъям, -бъямі – усе з Лучкі Карачанск. п. /275, 28I, 279, 277, 276, 282/, сем – Красьнікава Абаянск. п., чірепъя, сямъі – ц.с. Заломнае Суджан. п. /255, 232, 23I, 266/.

## Асыміляцыя сугукаў

Прыпадабненьне "й" да папярэдняга сугуку. "Прыпадабненьне "й" з папярэднім сугукам: свіння, суддя й інш. ёсьць навет у Разанскай ды іншых паўдзённа-вялікарускіх губэрнях"[129], трэтію запелі – ц.с. Ябланава Скопін. п., третяго – Разаншчына /Будде, I83, 5I/ /у вапошніх двух выпадках здоўжанае "т" спрасьцілася



ў "т"/, селеньня, нальлють – Касімаўскі п. /Будде. К истории, I94/;

осеінню /увосень/ – Захараўка Крапів. п., ноччю – Малынка Крапівен. п. /Будде. Тула, I8, 27/, назоў. сяла "Сакольле" Касарэўскае вол. Навасіль. п., ночьчю – ц.с. Пятушкі Навасіль.п. /Будде. Тула-Орел, 26, I4/, застальлі – ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 47/, ўосіньню, Настасься – ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 4I, 39, 22/, грязьзю – Хамінка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 4I/, ныльлю /= на Ільлю/ я меініньніца – ц.с. Паўлаўскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 39/;

скуле /= скульле/ – паўночная й паўночна-ўсходняя Куршчына /Халанский, 4/, третяк – Руска-Харланская вол. Новааскольск.п. /Дурново, II4/. У вапошніх двух выпадках "льл", "тт" спрасьціліся ў "л", "т".

Прыймя "с" перайшло ў "з", але толькі перад сугалоснымі сугукамі: атлас з бархатам насіла – Сьвістаўка Скопін. п., прішла жана з гуляньня – Шчэлева Скопін. п., з жаной – тамсама /Будде, I60, I79, I80/;

з знамёнъмі – Арлова Крапівен. п., з деітьмі – Жылая Слабада Крапівен. п., сламілісь з горя, мы згарелі – Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, I3, 22, 2I/, з гот ногі папухлі – Казлова Навасіль. п., з братам – Зарэчча Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 34, I8/, з дятькяю, з друшком, згаварятца – ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 47/, збрызгъвають – Хамінка Арлоўск. п., з деўкамі – ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 4I, 39/;

з гордасьтью з двара сыжжал – ц.с. Хахлоўка Шчыгр. п. /94, 92/, з горя – ц.с. Старыя Савіны Шчыгр. п. /84/, згарела, з двара сыяжжая, пайду з горя разгуляюсь, з дяівчінаю з душой дарагою – Данецкая Семіца Цімск. п. /77, 59, 53, 74/;

згарая – Лучкі Карачан. п. /276/, з девкі платы браті – Знаменскае Суджан. п. /272/, з девкамі, з дарамі, з беламі – ц.с. Заломнае Суджан. п. /223, 234, 239/.

"д" ў домстіла /= адамсьціла/ – Разаншчына /Будде, I44/ – паказвае, што прыймя "от" было перайшоўшы ў "ад".

У – сеам /= 7/ лендачькаў /= лент-/ – ц.с. Пятушкі Навасіль. п., ленды – ц.с. Ніжняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел,

 



I3, I5, 20/, ленда - ц.с. Заломнае Суджан. п. /Халанский, 227/ - маем асыміляцыю наступнага "т" да папярэдняга "н".

У льляны - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, I7I/, ляны - ц.с. Заломнае Суджан. п. /Дурново, 77/ з "льляны", "н" прыпадобнілася да папярэдняга "л". Гэта-ж маем у беларускай мове.

"д" перад "н" не перайшло ў "н": сяводне - Бухава Дубоўскае валасьці Раненбурскага п. Разаншчыны /Дурново, I63/;

сігодняшні - Красныя Буйцы Епіфанск. п., вяводні - Бобрыкі Епіфанск. п. /Дурново, I29, I27/, адну - Масоўскія Выселкі Крапівенск. п., адно - Жылая Слабада Крапівенск. п. /Будде. Тула, 22, 2I/, адна - ц.с. Ямское Навасільск. п., адной - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., адна - ц.с. Кулікоўка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 33, 47, 44/, адна - ц.с. Паўлаўскае Адаеўск. п., ц.с. Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 39, 32/;

па 'дном, адно, адну - ц.с. Данецкая Семіца Цімск. п. /I05, I08, 75/;

адна - Красьнікава Абаянск. п. /254/, сігодні - Маслаўка Суджанск. п. /Дурново, 75/, адну - ц.с. Заломнае Суджанск. п. Гэтак-жа блізу на цэлай тэрыторыі беларускае мовы.

"кт" перайшло ў "хт": "Гук "к" перад "т" пераходзе ў "х", як асымілюючыся зь ім гучнасьцяй, і гэтая зьява назіраецца заўсёды: прыкл. хто зам. кто... трахт, трахтам, ділехтар зам. дірэктар, дохтурь ... Віхтар зам. Віктар... Што да памяткаў Разанскага пісьменства, дык і тут знаходзім дужа часта напісаньні: хто... запіс... I606 г. /Ркп. Раз. Архіву № I4/. У Запісе... I683 г. /Ркп. тамсама № I26/...х тому - Собрание Госуд. Гр. и Договоров, I, № I7I, I554 г. ды інш. /Будде, 60-6I/, хто, ніхто - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 579/, хто - ц.с. Заломнае Суджан. п. /228/, Шарэкіна Льгоўск. п. /265/. І шмат іншых.

Дысыміляцыя "р" найчасьцей бывае ў чужых словах. Гэтак, у Разаншчыне: калідор, сіклятар, лясоры, пролуб /Будде, 76/. У разанскай кормчай: авли риана 7 б, авли рианоу 7 с/Ягнч. Крит. замечания, 85/.

патретік - Шчыгр. п. /Селищев, Slavia, УI, 46I/. Таксама ў беларускай мове[130].

"гн" у вяцкім дыялекце не перайшло ў "н": тягнуть, двігнуть /Дурново. Введение, 226/. Гэта-ж маем у беларускай мове.



"кв" ў вяціцкім дыялекце, як і ў беларускай мове, перад ъ частква засталося безь пераходу ў "цв": ні квялі - Разаншчына /Будде, I0, II/, квяточкі - ц.с. Ліхвічы Белеўск. п., на дубочьку два кваточькя - тамсама /Будде. Тула, 9, 49/.

"г" у вяціцкім фрыкатыўнае; дзеля таго, як і ў беларускай мове, сустракаюцца выпадкі адпаданьня яго або выпаданьня: де был селязень, де была утёна? Де был Іван, де была Настасья? /Будде, I57/, /у Разаншчыне ёсьць/ "выпаданьне цэлага складу ў слове "баславлять" або "блаславлять" /Будде, 9I/, басляалялють - Касімаўск. п. /Будде, 54/, бласвлавіть - Ябланава Скопінск. п. / Будде, I58/; де /= дзе/ - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 47/; бaславенья - Данецкая Семіца /Халанский, 6I/.

Пераходу ў у спачатнага "л" сонантычнага, а таксама л перад "ъ", цяпер у вяціцкім дыялекце няма. Адылі ў разанскіх памятках гэтая рыса знойдзеная, найма ў лісьце, выданым у I356 г. вялікім князем разанскім Алегам маем сгадавъ, возревъ /Дурново. Введение. 70/.

Пра "ў" з "л", а таксама пра "ў" з "в" у вяціцкім сьветчаць наступныя словы: сонца - Міласлаўшчына Скопін. п., ц.с. Зыкава Раненбурскага п. Разаншчыны /Будде, I56/, сонцам - Ябланава Скопін. п. /Будде, I62/, зучный /зн. "гучны", із "звучный"/, атзучать /зн. "адгукацца", "аказавацца"/ - Разаншчына /Будде, I35/, вукула /падаець Даль у сваім слоўніку і адзначае, што яно "варанеское"; перакладае яго Даль праз "оборотень, перавертыш, перекидыш"/;

сонца - ц.с. Пакроўскае Шчыгр. п., ц.с. Хахлоўка Шчыгр. п. /89, 94/, сонца - Данецкая Семіца Цімск. п. /73/, зук /зн."гук" = "шум"/ - паўночная й паўночна-ўсходняя Куршчына /367/, зук находя, шмелі есть! - тамсама; сонца - Абаянь /263/, сонца - Заломнае Суджан. п. /240/. Даль пад мотать /слоўнік, выд. I905 г./ кажа: "мутовязь - Пскоўск., мотовязок - Пенз., мото́ўз, муто́ўз - Рязанск., муту́з - Смаленск., мутовзок - Тульск., мотузок - паўдзён. /зн. вяціцкае/ ... матузок - Курск., мату́з - Смаленск /таксама мату́з - Ашмянскае - Я.С./, ад матаць і вязаць".

"сонца" магло толькі ўзьнікці із "соўнца", "вукула" - з

 

"вуўкола", што з "воўкола" /пр. блр. "воўк", "ваўкалак"/, зн. тут маем "ў" з "л" санантычнага. "Зук, зучный, отзучать" магло ўзьнікці толькі з "звук, звучный, отзвучать" з "в" білябіяльным. З выняткам "зук" і аднакарэнных зь ім усе іншыя з паданых словаў ёсьць і ў беларускай мове, агульнабеларускія й сонца, хуста /пр. рас. холст/, патураць /пр. рас. "потворствовать"/, столка побач із стволка, агульнабеларускае й вяцкіцкі хунт з "хвунт", смаленска-беларускае "вукула" /падаець Даль/, полацкае хула з хвала /хула табе Божа!/.

Даль, LXII, піша: /у вяцкіцкім/ "ёсьць нахін замяняць літару "л" у канцы дзеясловаў 3 ас. мінулага часу на літару "в" або "у" /ходіув/". У самым слоўніку пад "кавзаться" Даль кажа: "Кавзаться, зап. или ковзаться юж. Кататься на коньках по льду ... На юге и западе букву "л" перад согласным произносят как краткое "у", английское "w", а потому нужно писать: колзать, ся"... Даль у сваім слоўніку "южнай" падмовай завець вяцкіцкую /"паўдзённа-вялікарускую"/, а "заходняй" смаленскую із сумежнымі мясцовасьцямі. Даль, што найляпей із сучасных яму знаў рас. народную мову, бяссумлеву ведаў добра, што ў вяцкіцкім у ягоным часе "ў" з "л" было досыць звычайным. Калі цяпер гэтую рысу цяжка знайсьці ў вяцкіцкім, дык гэта дзеля таго, што пасьля Даля русыфікацыя вяцкіцкае мовы йшла далей ды йдзець цяпер яшчэ барджджэй, чымся да Даля.

Адылі й Буддэ запісаў жыў, пасеяў – Касімаўскі п. /К истории, 146, 154/, весялів – Ураева Валуйскага павету Варан. г. /Дурново, 200/[131].

Такія формы словаў у вяцкіцкім дыялекце, як Алдотья, Ілдакімаф, Алдакім /Будде. К истории, 154/, кальтан /зн. "каптан"/ – ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 24/ – сьветчаць, што калі пад расейскім уплывам ў з л зьмянялася на л, тады-ж зьмяняліся й "ў" з "в", бо абодва аднолькава вымаўляліся, або, як у "кафтан", "ф" зьмянілася на "л", бо думалі, што тут вымаўляецца "ф" зам. "в" з "л".

Пасьля гэтага ці-ж можна сумлявацца, што даўней у вяцкіцкіх гаворках было "ў" з "л" у такіх словах, як "воўк", "поўны", "быў"?

Пераход "в" у "ў" таксама агульная вяцкіцкая рыса. "... пе-



раход "в" у "ў" характарызуе сабой й дагэтуль гаворкі паўдзённа-вялікарускае падмовы /у Тульскай, Разанскай, Калускай, Тамбоўскай ды іншых губэрнях/, дзе мы чуем деўка, ўоўся /з "вовсе"/, лаўка й інш. ..." /Будде. Лекции, 156/. Цяперашнім часам, пад расейскім уплывам, у мясцох, што найбольш падпалі пад гэты ўплыў, наймя ў паўночнай Разаншчыне, у паўночна-ўсходняй Калужчыне ды ў паўночнай частцы Тульшчыны гэтая зьява паслабленая, не заўсёды сустракаецца "ў" зам. "в" у палажэньні, дзе нармальна гэта бывае. Прыклады: деўка – царк. сёлы Гарадзец, Горыцы Спаскага пав., у пяче зам. в пяче, "ухож в дом" зам. "вхож в дом" /Кіструс, Дзеравенскае, Гаўрылаўскае, Старыкова й інш. Спаскага п./, у полі, у домі /ц.с. Дзеравенскае тамсама/. У Касімаўскім пав. /царк. сёлы Ерахтур, Нармупадзь, Куземкіна й інш./ траха заўсёды кажуць заміж прыймя "в" – у: у Касімаў, у Касімаве. Таксама: улес, зам. в лес – ц.с. Пуцяціна Сапоскага пав." /Будде. Лекции, 2-е выд., б.65-66/, у под'лах у белых = у подалах у белых, у куцкі = у кучцы – Касімаўскі п. /тамсама, 66/.

Характар гуку "ў" такі, што ён ня можа быць вымаўлены паміж сугукаў і тады чэзьне: "бярно" ўжываецца звычайна – Разаншчына /Будде, 105/; у "бярно" з бервьно, па шчэзьненьні "ь", "ў" з "в" перастала вымаўляцца. Таксама ў беларускай мове: бярно, першы. Калі вымова "ў" стала чэзьці ў разанскай мове тады зам. "ў" пачалі вымаўляць "в" або – у іншых выпадках – "ў" трацілася, пра што сьветчаць гэткія прыклады: затря /=заўтра/, этася / = гэта ўся/, зять зам. узяць, цара зам. учора, сё равно зам. усё роўна – усе ў Касімаўскім п. /Будде, 64/.

/У Каратаяцкім п. Варан. г./ "у закрытых складох унутры слова й на канцы гук "в" вымаўляецца як "ў": сноўка, пакроў" /Гринкова, УII, 569/. Шырака ўжываецца вымова самагуку "у" на месцы "в" ў абсалютным пачатку словаў: усе, удава, узлес, у хату й да г.п." /тамсама/. Так бывае дзеля таго, што па сугуку папярэдняга слова, а таксама пасьля паўзы, зам. "ў" з прыймя "в" і "в" на пачатку слова ёсьць "ў". Дзеля таго-ж у Архангельскім сяле Зямлянскага п. Варан. г. "у вадзіночных выпадках адцемленая вымова "у" поўнага тварэньня на месцы "в": уморе, усё /Гринкова, У, 100/, дзеля таго-ж запісана "узял" у с.Карачун

Задонск. п., удавая ў Негачэўцы, б. Вярэйцы й інш." /тамсама, 90/.

Будде. Тула-Орел, 107, кажа, што ў паўдзённых паветах Тульшчыны і ў паўночных Арлоўшчыны "звычайная вымова паўдзённа-вялікарускіх гаворак, прыкл... мена "у" і "в". "У пачатным складзе слова перад самагукам задняга раду гук "в" чуецца мне тут /у Мцэнскім п./, як гук білябіяльны, што я абазначаю літараю v, перад сугукам "в" робіцца нескладовым самагукам, што я запісваю літараю "ў". "У" бывае й перад самагукам" /Будде. Тула-Орел, 49/. "У гаворцы ц.с. Драплы "ў" зам. "в" /Будде. Тула, 38/. Прыклады: траўы напхають, праўда, аўёс, у панеўах - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, II, I2/, ў Крапіўну ў горат - Арлова Крапівен. п., Гаўрıл - Прышня Крапівен. п. /Будде. Тула, I3, I9/, я ўдава - Ніжняя Залегашч Навасіль. п., панёўу - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 20, I2/, Пятроўна, сьвякроўы - Дзежкіна Мцэнск. п. /Дурново, I86/, деўка, Раўлоўа - ц. с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 39/, ўада, Адоеў, - Дарагонка Адаеўск. п., ты ўстань - Левінскае Адаеўск. п., паўйнік - тамсама /Будде. Тула, 39, 33, 32/.

У Шчыграўскім павеце, у паўночнай ды паўночна-ўсходняй частцы Цімскага п., часткава ў Курскім, Фацескім ды іншых паветах Куршчыны "у" замяняе "в" у прыймі "в" і на пачатку словаў: устать, упірёт, уся у саду, у поля, упрасі" /Халанский, 8/.

Што у леся, ой што у зілёнам? - Лучкі Карачанск. п. /280/, ускарміла - Красьнікава Абаянск. п. /258/, узбудіть, вазьмі... пітак у кулак, узвідеть, узял - ц.с. Заломнае Суджан. п. /223, 224, 247, 249/, за сібе ўзят, - Знаменскае Суджан. п.

У моцным палажэньні прыймя "вь" мае форму ува - ува ржы - Талмачова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 51/.

Прыймя "у" і ненацісьненае "у" на пачатку складу па самагуку пераходзе ў "ў": вдаріть - Разаншчына /Будде, 43/; я вдаріл - Ясянкі Крапівен. п. /Будде. Тула, I7/, ўзоры - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., лі чіво я на сьветя ўраділсі - ц.с. Кулікоўка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 47, 44/; ні вмею - Расхавец Шчыгр. п. /Дурново, I06/, вот Прасковъя в нас /47/, ні вмалілася /52/, первай моладяц в нас Іванушка, в нас Іванушка сьвет Пятровіч /63/, ні вмею /64/, вдержать /66/, вдаріл - усе ў Данецкая Се-



міца Цімск. п., на в даку - паўночна-ўсходняя Куршчына /I4/; не вдалый - Руска-Халанская вол. Новааскольскі п. /Дурново, II3/; а в суседа сын - места Абаянь /264/, а ў міне маладой да свёкар - Красьнікава Абаянск. п. /254/, враділа /233/, а хто-ж в нас па зілёнаму саду? /228/, вгадае /238/, я в мілага успрашала /224/, в маёра на дваре /225/, вдалая /230/, нівдалая /23I/ - усе ў ц.с. Заломнае Суджан. п., а это в нас халастой? - Знаменскае Суджан. п. /273/, а в свёкра ішшо лутьчі - Шарэкіна Льгоўск. п. /268/.

"Ф" у вяціцкім дыялекце ўсюдых пераходзе ў "п", "хв", "х", зн. так, як у беларускай мове. Колькі прыкладаў: першал /=хвэльчар/ - Спаскае Спаскага п. /Будде, 72/. У Задонскім і Зямлянскім паветах Варан. г. "ф" замяняецца на гук "х" або "хв": ахонь /клічны скл./, ф тіху, кохта, хвунт, хвартукам і інш. /Гринкова, У, 9I/. У Каратаяцкім п. Варан. г. "ф" замяняецца на гук "х" і "хв": хорма, хунт, хваміліја й інш." /Гринкова, УII, 567/; хворма - ц.с. Спаскае - Лутавінава Мцэнск. п., Аграпена - ц.с. Гарохава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 62, 60/; ахвіцэры - Лучкі Карачан. п. /Халанский, 275/.

У паўночна-заходняй часьці б. Разанскай губ. ёсьць мена ч і ц, ш і с, ж і з ды вымова с, сь, з, зь, дзь, ць, збліжаная да ш, ш мяккога, ж, ж мяккога й дж, ч, мяккіх[I32]; рашкольнікі - Касімаўскі п. /Будде, 73/. Адзіночныя выпадкі такое вымовы сустракаюцца на захадзе ў Тульска-Калуска-Арлоўскіх паветах у блізкім суседзтве з Крывічамі: посьылі вянцу - Маскоўская Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 23/, ні польжы, папольжаіть - Хутар Навасіль. п., шьчяс /зам. сейчас/ - ц.с. Пятушкі Навасіль. п., польжы - Казлова Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, I8, I2, 34/, расперьсшніца /зн. мізіперсьніца/ - Бабі Скок Мцэнск. п., зжьвірябой - Хралова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 57, 55/, Зеімчюжнікава /назоў сяла/ - ц.с. Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32/.

Пашыраныя ўсюдых у Разаншчыне шашнатцать, шашнікі - Карнева Скопін. п. /Будде, 73/ маглі паўстаць дарогаю асыміляцыі. Пашыранае тамсама страшная нядзеля зам. страстная /Будде, 73/ магло ўзьнікці якраз пад уплывам "страшны"; ня мае дзеля дадзенае рысы значаньня "ш" у "штрахован" /Будде, 73/, як у слове чужым.

Таксама ў беларускай мове ўжываецца штрахоўка – усюдых і ў тых мясцовасьцях, дзе няма мены с, ш. У "чапачькя", "чепь", пашыраных па ўсёй Разаншчыне /Будде / "ч" спачатнае.

З дробных зьяваў вяціцкае фанэтыкі адцемлю наступныя:

гля з для і зам. для – Малынка Крапівен. п. /Будде. Тула, 27/. Пераход "дл" у "гл" ведамы ў беларускай мове, прыкл. вянгліна з пол. węDlina. Дзякуючы гэтай рысе, у пскоўска-беларускай гаворцы прасл. злучэньне дл перайшло ў гл /жарагло, вяглі "вялі"/.

Жандарка – "чыгунны аб. зялезны комін у печы" – Разаншчына /Будде, 134/, ад "жандар" зам. "жандарм", з чаго відаць, што канцавыя вусьняныя па "р" адпадаюць. Гэтак і ў беларускай мове, дзе маем болей словаў із гэтай рысаю.

пахмелкі /зь цьвярдым "л"/ – Бабі Скок Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 57/. Прыр. да блр. ухмылка, зашпілка, вучыцелка.

У – сумлеватца – Істобнае Ніжнядзявіцкага п. Варан. г., сумляватцы – Мананкі Белеўск., сумлявацца – Маслаўка Суджан. п. /Дурново, 117, 131, 74/ – маем пераход мн у мл, як у беларускай мове.

Мяккое т ёсьць ў стюдяно – ц.с. Мішына Міхайлаўск.п. Разаншчыны /Будде, 42/, стюдянь – Бабі Скок Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 57/. Таксама ў блр. сьдзёны, сьцюдзена.

Як у блр., з ёсьць у зылезо – Касімаўскі п. /Будде, 30/.

Згодна зь беларускай мовай ёсьць "м" у імях: Мікіта, Мікола, Мікіфар – Разаншчына /Будде, 70/, Мікалай – Ясянькі Крапівен. п. /Будде. Тула, 17/, Мікіта – ц.с. Спаскае-Лупанавіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 62/, Заломнае Суджан. п. /Халанский, 240/.

У вяціцкім няма вынятку з паляталізацыі "к" у суфіксе -іка: павіліца – ц.с. Заломнае Суджан. п. /Халанский, 219/. Пр. блр. чарніца, суніца, брушніца, п'яніца, тымчасам мова рас. тут мае – іка: черника й да г.п.

## Славатвор

Гэтта адцемлю суфіксы, аднолькавыя із суфіксамі ў беларускай мове і заразам розныя ад суфіксаў у мове расейскай.



-ул-я: бабуля, "матыль" /Даль/. У блр. мове гэта суфікс любасных спакменьнікаў /бабуля, татуля, сяструля, Грануля й інш./. Таксама ў вяціцкім, бо "бабуля" – гэта этымалягічны пераклад рас. "бабочка".

іх-а: Купріяніха – Зямлянскі й Задонскі пав. Варан. г. /Гринкова, У, 98/, мы-барскіі: Варварі Іванъвні Жучіхі – Казлова Навасіль. п., ръдавая я была Стрільчіха / = я родам із Стралецкае Слабады/ – Стралецкая Слабада Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 34, 51/. Гэта суфікс назоваў жанок паводля паходжаньня.

-ік: бірезьнік – Курскі п., бірезнічку – Абаянск. п. /Дурново, 202, 66/ – суфікс назоваў маладых лясоў, зборнага назову маладое жывёлы /блр. маладнік/ і хлявоў.

-ук: прасук – "парасё самец", "парсючок" – Разаншчына /Будде, 45/ – суфікс здрабнелых мужчынскіх спакменьнікаў, што азначаюць малады век.

-ок: гадок – Захараўка Крапівен. п., радок – тамсама, гадок, гадочік – Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 18, 35/ – суфікс здрабнелых мужчынскіх спакменьнікаў; пераважае ў беларускай мове, прыміж таго ў мове рас. у гэтым выпадку пераважна суфікс -ік.

к-а<ьк-а: Якунька – места Валуйкі Варан. г. /Дурново, 110/, салавейкя, салавейкя маладая вон із саду вялятала – ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, 72/, пашлю салавейкю – Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 266/. Гэта суфікс любаснае формы жывых істотаў мужчынскага роду, асабліва асобавых.

-ен: гусінята, утінята – паўночная ды паўночна-ўсходняя частка Куршчыны /Халанский, 14/, галчінятушкі – Курскі п. /Дурново, 201/. – і тут зам. "е" з прычыны дысыміляцыі. Гэта суфікс назоваў маладое жывёлы – назоваў дзяцей жывёлы.

-ёнак<-енък: Манаёнкі – назоў ц. сяла ў Белеўскім павеце, Галан са Шматком падряділіс ув Абільдяёнка ров капать – паўночна-ўсходняя Куршчына /Халанский, 373/; у ц.с. Расхавец і сёлах Сядзелеўка, Кірэеўскае й Кавалеўка Шчыгр. п. гэткія мянушкі: Савёнак, Лапёнак, Кріндялёнак, Чібясёнак, Спасёнкавы, Аўчарёнак /Халанский, 17/, Маргачонак – назоў сына, чый бацька звався Маргач /Тургенев. Записки охотника – Певцы/ – назоў сыноў па бацьку. У рас. мове гэтым суфіксам творацца назовы ма-

ладое жывёлы.

-і- посмотріть - Вослябава Разаншчыны /Будде, 35/, усматріла /= углядзіла - Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 33/. У неазначаньніках /інфінітывах/ караня - "сморт" і "від" гэты суфікс ведамы ў полацкіх і пскоўскіх памятках.

-ова- у дзеясловаў: встрёхавала - "усюдых" у Разанскай г. /Будде, 24/, пазавідавалі яму - Ябланава Скопін. п. /Будде, I62/; абманавае - Мялехіна Шчыгр. п. /Селищев у Slavia, УI, 46I/, пасьвіставають - Данецкая Семіца Цімск. п. /68/, пасьвіставаіть, паклікаваіть - тамсама /I06/, што-б кароўкі бяжалі памыкавалі, а цяляткі пабрыкавалі - паўночна-ўсходняя Куршчына /369/;

пріказавать, улепётавать, абесчоставать - Абаянскі п. /Дурново, 66, 67/, хажавал, замуздавая, асёдлавае, спрашаваті, пріказавають, сватавалі, высватавалі, выпытавая, хажавала, іґравала - усе запісаныя ў ц.с. Заломнае Суджан. п. /222, 228, 230, 232, 244, 253/, прілётавала - Шарэкіна Льгоўск. п. /267/, /Дурново, 90/, внізавая, внізавая зімчюшком - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /269/.

Скланеньне спакменьнікаў

Мужчынскія спакменьнікі, заміж парнага, маюць форму множнага ліку: трі дні, два дні хату ні тапіла - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, I86/, за лошадь два рублі - Духоўніца Касімаўская I676 г. /Будде, I8/, два рублі /двойчы/ - ліст мітрапаліта разанскага Язэпа папоўскаму старасту I679 г. /ркп. № II9/, /Будде, I6/. "Злучэньні спакменьнікаў ізь лічнікамі: трі рубля... Раней Лівенцы /жыхары меса Ліўны Арлоўскае губ./ гаварылі накш - к сей купчэй ливинец Тихон Осипов сын Ефанов / сьветча/, што памещица ... 23 рубли взяла ... руку приложил - Акт куплі I759 г." /Селищев. Заметки уSlavia, УI, 2-3/, палтара рублі дала - Лучкі Карачан. п. /Халанский, 276/.

Як відаць із назову ц. сяла "Ябланава" Скопін. п., ябланкі - Лучкі Карачан. п. /277/, па ябланкам - ц.с. Заломнае Суджан. п. /22I/, поўная форма гэтага слова - яблана /а не "яблоня"/, зн. як у беларускай мове /яблына/.

Бровамі моргала - Касімаўскі п. /Будде, I66/ паказвае, што



назоўны склон мн. л. - бровы, як у беларускай мове. Адзначу яшчэ: цэрква называітца сабор - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, II/, амін /цьвярдое "н"/ - ц.с. Гарохава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 59/ - згодна зь беларускай мовай.

Прызначальны й мясцовы склоны адз. л. жаноцкіх спакменьнікаў на -а канчаюцца на -е / не пад націскам на -я/:

к сэрьквя падеш, на работя - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 24,23/, падруга пълівая нявесьтя, к нявесьтя - ц.с. Духава Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 3I/, мой у работя, ў работя - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., ў хатя - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 45, 46, 52/, ў ступя сталкуть, сварють ў пасудя - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 40/, г зімя /= к зіме/, на работя - ц.с. Кулікоўка Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 43, 44/, туман прі даліня - ц.с. Варварына Белеўск. п. /Будде. Тула, 54/.

Мой батюшка на пріметя, у саломя, у вамётя на работя - Данецкая Семіца Цімск. п. /79, 68/;

па муравя - Красьнікава Абаянск. п. /256/, на белай бірёзя, на муравя, прі шырокай даліня, в каретя - ц.с. Заломнае Суджан. п. /273, 2I6, 2I9, 237, 266/, на рабіня - Шарэкіна Льгоўск. п. /266/.

Значыцца, канчатак такі, як у паўдзённай падмове беларускае мовы.

Жаноцкія спакменьнікі на -я /па зацьвярдзелых на -а/ захавалі ў гэтых склонах канчатак -і /-ы па зацьвярдзелых/, знач. так, як у цэлай беларускай мове: на волі - Разаншчына /Будде, 22/, в няволі - Рагачоўка Варанеск. п. /Дурново, I62/, высокі донска-казацкі ахвіцэр у лісьце да мяне піша: "на прошлай неделі";

гразіл парінь краснай девіцы душы - Архангельскае Крапівен. п. /Будде. Тула, 30/, на уліцы /двойчы/ - Тургенев. Петушков, I44 /Полн. Собр. Соч. П. I898/;

рана на зарі, на уліцы туман, па уліцы - Данецкая Семіца Цімск. п. /II0, I06, I09/, ня дал Бох свіньі рох /такая-ж ёсьць і беларуская прыказка/ - паўночна-ўсходняя Куршчына/I3/;

па душы краснай дявіцы, па сістрыцы - Лучкі Карачан. п. /276/, у нас ноня у начі прі лучіня, прі сьвячі - Гочава Аба-

янск. п. /259/, на уліцы, на мяжы, на уліцы, пріходя к душі Маші, па уліцы, ні к душы - ц.с. Заломнае Суджан. п. /215, 223, 225, 227,230, 241, 246/, в пашаніцы - Шарэкіна Льгоўск. п. /268/.

Канчатак -у /-ю/ дакладнага скл. адз. л. мужчынскіх спакменьнікаў: "Асабліва часта й ахвоча ўжываюць ў Разаншчыне канчатак -у ў дакладным склоне адз. л. заміж -а: Багавленскава пріходу, із гораду" /Будде, 104/, нашава уезду, да месяцу, да гораду - Разаншчына /Будде, 190/, із накладу вывяді, - Шчэлева Скопін. п. /Будде, 157/, баршыні /= барышні/ бархату куплю, баршыні бархату атласу, вон із саду вялятала, міма садіку дарожынька ляжыть - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, 169, 172, 186/, вдоль курагоду - Грамячка Скопін. п. /Будде, 177/, и никому роду моиво... да всякага угодья дъла нът - РКП. 1683 г. /Будде, 18/;

Мы пріходу ў Крапіўну - Арлова Крапівен. п., стаять вокъла парогу - Ясянкі Крапівен. п., посьмлі вянцу - Маскоўская Слабада Крапівен. п., ат капрізу зъгаварьваюць - Драгуны Крапівен. п./Будде. Тула, 11, 16, 23, 25/, іс холаду..., са веічёру, спіску нету, із бісару - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 23, 22, 25/, да новаго году - ц.с. Пруды Навасіль. п., нъчяла кроў із роту - Сакольле Касарэўск. вол. Навасіль.п., слезла с полу - ц.с. Духава Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 28, 26, 31/, сводють с полу - Зарэчча Навасіль. п., із бісьру - ц.с. Пятушкі Навасіль. п., магніту ні хватая - тамсама /Будде. Тула-Орел, 16, 13, 12/, ат чемеру адгаварьвають, міл атьвету ні даёть, міл атьвету, ні прівету, - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., Амчэнскага уезду, і году ні выжъвіть, - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 46, 50, 51, 52/, народу сё /=ўсё/ боліеіть, ат кашлю, - Хралова Мцэнск. п., тут страху на нас нагналі - Зарошча Мцэнск. п., ад дожжу - ц.с. Станавы Калодзесь Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 54, 64, 42/, изу лесіку, лесу тёмнава, Адоіськава уезду - ц.с. Левінскае Адаеўск. п., паемшы мёду, ўдоль карагоду, - ц.с. Анастасава Адаеўск. п., мы Адоіськава уезду - ц.с. Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32, 33, 43, 40, 37/;

Возьлі Дону, возьлі Дону, возьлі тіхава Дунаю - ц.с. Мялехава Шчыгр. п. /98/, нарву хмелю, голасу нет, ішлі міма лесу -



- Данецкая Семіца Цімск. п. /98, 53, 61, 63/, возьлі саду, на сто рублей атласу, а на тысічу бархату, папірёк, саду, да сьвету - ц.с. Данецкая Семіца Цімск. п. /73, 78, 81, 108/;

біз ветру, біз дожжу - Саламыкава Абаянск. п. /Дурново, 83, 84/, сь тіхава Дону, ракітавага кустоьку, ат бірюшку, пірїходу німа - Гочава Абаянск. п. /261, 262, 260, 261/, мілей сьвету - Красьнікава Абаянск. п. /258/, ні выхаду, ні выізду, 'т саду да саду, пірїходу ні нашла, пірїезду нет нігде, сь тіха Дону казачка да сь тіху Дону казачка, - ц.с. Заломнае Суджан. п. /215, 218, 226, 227/. Ішшыть пірівозу, роду ні такова, народу сьмёты нет, вокала Дунаю - ц.с. Знаменскае Суджан. п. /271,272, 273/, нетуті роду, роду племіню - Шарэкіна Льгоўск. п. /266/.

Як бачым, канчатак -у/ю/ ў дакладным склоне адз. л. маюць усе абстрактныя, зборныя й некаторыя канкрэтныя спакменьнікі - зусім так, як у беларускай мове.

Канчатак мясцовага склону адз. ліку мужчынскіх о-асноваў: на заде[1] - ц.с. Пятушкі Навасіль.п., ў домя - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п., на добрым пріветя, мода ва ўсім Духъвя, - ц.с. Духава Навасіль. п./Будде. Тула-Орел, 13, 24, 32, 31/, на кіяня /= на акіяне/ - ц.с. Гарохава Мцэнск. п., ягъда ў лесе - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 58, 46/, што ў домя есьть, на городя - ц.с. Станавы Калодзезь Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 41, 42/;

у холадя на погрібя - Данецкая Семіца /53/, в лесе - тамсама /72/;

Што у леся шуміть? - Лучкі Карачан. п. /280/, на пакося; ва лузя да ва лузя, ва лужочьку; ва терімя - Гочава Абаянск.п. /260, 262/, ва садя - Красьнікава Абаянск. п. /257/, да у нас в агародя, да ва зелінам садя - м. Абаянь /264/, в городя, в карагодя скакала, в терімя, на курганя, вы гародя, в терімя - ц.с. Заломнае Суджан. п. /216, 223, 224, 227, 241, 247/, А в том домя - Знаменскае Суджанск. п. /273/, на пірівозя - Ніжнія Дзеревенькі Льгоўск. п. /269/.

Зн., мужчынскія спакменьнікі зь цьвярдым сугукам на канцы назоўнага склону адз.л. канчаюцца ў мясцовым склоне адз. л. на -е /не пад націскам -я/. Таксама ў паўдзённай падмове беларускае мовы.

Канчатак мясцовага склону адз.л. мужчынскіх і ніякіх іо - асноваў: /У Разаншчыне/ "мясцовы склон адз.л. на -у- зам. на ѣ: на камышу, на дажжу" /Будде, I90/, "У Разан. Скопін прі каньцу́ й інш." /Будде. Учен. Записки Каз. у-та, I907 г., июнь-июль, б.2I6/, у пяню - места Валуйкі Варан. г. /Дурново, II0/;

На маём каньцу - Казачая Слабада Крапівен. п., на Данцу - Архангельскае Крапівен. п. /Будде. Тула, 2I, 27/, в маю месьцу - Казлова Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 34/, на канцу - Зарошча Мцэнск. п., ніпа малатцу деўка тужыла, па сваём па горю - ц.с. Крэніна Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 65, 62/, ў першым дню маю, у маю месьцу, ў пітью дають - Панькова Арлоўск.п. /Будде. Тула-Орел, 36/; у Ялцу - Елецк. п. /Селищев. Заметки - Slavia, УI, 2, 3/, мы згарелі, на пажарішшу замаілісь - Казачая Крапівен. п. /Будде. Тула, 2I/;

на коню - Данецкая Семіца Цімск. п. /I05/, па чістам полю - паўночна-ўсходняя Курршчына /I4/, у полі прі влашшыня, бросіл ва горю - Данецкая Семіца Цімск. п. /I05, 63/;

На кавылі - Гочава Абаянск. п. /260/, на віселью /= вясельлю/, у сіленію - Абаянск. п. /Дурново, 66/, на каню на сідле - ц.с. Заломнае Суджан. п. /2I9/, пад аконью /220/, па том лі рубяжу хажу /227/, на шырокім рубяжу /227/, на каню /двойчы/ /234/, в канцы стала стаяла /240/ - усе ц.с. Заломнае Суджан. п., на крыльцу стаіть /2I3/, в полю роботніца, в доме кукобніца /22I/, в чістым полю /227/, в полю білеітца /228/, - усе ў Заломнае Суджан. п., девка в залатом вянцу - Знаменскае Суджан. п. /273/, на серцу - Шарэкіна Льгоўск. п. /266/, в колодізю - Ніжнія Дзераденькі Льгоўск. п. /268/, а в вішаньню-ш, у варэшаньню конь стаіть - тамсама /268, 269/;

потым аттапліваім ў маю месьцу - Карачэўскі п. /Будде. Тула-Орел, 75/.

Зн., тут канчатак -ю /па зацьвярдзелых -у/ паводля -ю-асноваў, як у беларускай мове.

Канчатак -у /па зьмякчэлых -ю/ маюць у мясцовым склоне адз. ліку мужчынскія й ніякія спакменьнікі з к, х, г на канцы, на чужом тачьклю - Шчэлева Скопін. п., на мостіку - Сьвістоўка Скопін. п., плакала па сваём друшку - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, I80, I59, I63/, в пяску - Такарова Міхайлаўск. п. Разанск. г.



/Дурново, I78/, у Задонскім і Зямлянскім паветах Варан. г. "у васновах на о мужч. р. /у мясц. скл. адз.л./, адначасна ведамыя канчаткі -у і -е: в лесе - Карачун Задонск. п., в доме - Д.Негачэўка Зямлянск. п., і да г.п. і на паравіку, ф сундуку - Д.Негачэўка Зямлянск. п. /Гринкова, У, 92/, у вянку, у сундуку і г.д. - Каратаяцкі п. /Гринкова, УII, 569/, на бальшаку - Істобнае Ніжнедзявіцк. п. Варан. г. /Дурново, II7/, в пяску - Царыцынскія Хутары Усьць-Мядзьведзіцкае акругі Доншчыны, Міхайлаўская станіца Хаперскае акругі Доншчыны /Дурново, I69, I70/;

жывёть у лесочькю - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, II/, на дявішніку - Пруды Навасіль. п., на коніку, на платку - Зарэчча Навасіль, п., на пірушку - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 26,I8, I5, I3/, в Мцэнску, на коніку - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 52/, в пяску - Старажовае Мцэнск.п., /Дурново, 95/, на бальшаку - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 39/, На Татьяньнам деⁱвішнічькю, ва садіку, садіку ва зілёнам вінаградіку - ц.с. Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула-Орел, 32, 34/, в пяску - Казакі Елец. п. /Дурново, I84/, напавойніку - Елецк. п. /Селищев. Заметки - Slavia, УI, 223/.

на піряулку, на лядочьку, вяду каня ў павадочьку, в сером зіпунішку, в том платку - Данецкая Семіца Цімск. п. /II2, 60, 58, 56/, На Доніку, на біряжочьку, на лядочьку, на кустьчьку - ц.с. Пакроўскае Шчыгр. п. /90/, на шляху, у сатку - паўночна-ўсходняя Куршчына /370, 373/;

на століку стаяла - Лучкі Карачан. п. /282/, і да ва садя ва садочьку, на пясочьку - Красьнікава Абаянск. п. /257/, в садіку /223/, па всём садіку віднеітца /228/, прі шляху /233/, на камушку /235/ - усе ў Заломнае Суджан. п., в шалку - Руска-Халанская вол. Новааскольск. п. /Дурново, II2/;

у пяску - Кіцень і Косьціна Казельск. п. /Дурново, I40/, в пяску - Траецкае Бранск. п. /Дурново, 97/. Значыцца, па грытаных к, г, х мясцовы склон адз. л. канчаецца на -у, як у беларускай мове. Тут дзеяла імкненьне ўсьцерагчыся злучэньняў ке, ге, хе.

Як і ў беларускай мове, у вяціцкім дыялекце па спачатным цьвярдым "р" таксама ёсьць канчатак -у ў мясцовым склоне: хо-

діть свёкар па двару - ц.с. Ябланава Скопін.п., /Будде, I73/, дьякан у нашам саборі - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, II/, ў вару ў гаряче$^{а}$м варють - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 25/, у вару вымъім - Хралова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 54/, /у/ нас прі вечіру ... саліталісь пташычькі - ц.с. Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32/, на вару́ /ад "вор"/ Елецкі п. /Селищев. Заметки - Slavia, УI, 2-3/, в бару, бару стаяла кузінка - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /270/.

Сюды-ж належа прыслоўе двару́ /зн. "дамоў"/, узьніклае зь бяспрыйменнага мясцовага склону: прішол двару́ - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 573/, возють двару́ - ц.с. Лаўрова Арлоўск. п. / Будде. Тула-Орел, 4I/, двору - тамсама /Будде, 22/, хто - двару́, хто двару́, а я млада ні пайду - Лучкі Карачан. п. /275/, ні хаді двару - тамсама /279/. Гэтае прыслоўе ёсьць таксама ў беларускай мове.

Канчатак мясцовага склону спакменьнікаў на спачатнае цьвярдое "р", аднолькавы з канчаткамі мяккіх асноваў, сьветча пра зацьвярдзелае спачатна "р" у вяціцкім дыялекце: па зацьвярдзелым "р", як і па ўсіх іншых зацьвярдзелых, быў у мясцовым склоне канчатак, аднолькавы з канчаткам мяккіх асноваў; а дзеля таго што ад "р" зацьвярдзелага ня розьнілася спачатнае "р" цьвярдое, дык і па ім пашырыўся канчатак мяккіх асноваў.

Зацемлю - прі хозяіну - Данецкая Семіца Цімскага п. /7I/, хоць, ведама, з аднаго выпадку нельга рабіць ніякіх высноваў. У беларускай мове мужчынскія асобавыя спакменьнікі канчаюцца ў мясцовым склоне адз. л. на -у /-ю/.

Гринкова, У., 92, I02, піша, што ў Задонскім і Зямлянскім паветах Варан. г. цьвярдыя а-асновы маюць канчатак -е ў дакладным склоне адз. л. - для пчяле́ й інш. - пераняты із старое формы іа-асноваў. Зацемлю, што ў паўдзённай падмове беларускае мовы гэты канчатак у цьвярдых і мяккіх а-асноваў з націскам на канцы пашыраны ў Сакольскім пав. Горадзеншчыны.

Запісаныя адзіночныя выпадкі пераходу к, г, х ў ц, з, с перад канчаткамі прызначальнага й мясцовага склонаў - а-асноваў ды мясцовага о-асноваў. Сабалеўскі ў "Опыте рус. диалектологии" I897 падаў выпадкі такога пераходу з Навасільскага п. /на парозі, в Кабаце/. Буддэ /Лекции, I55/ пісаў, што "частка вялі-







ка-акаючых паўдзённа-вялікарускіх гаворак" мае гэты пераход, і тамсама прыклад ў дарозя - Тульск. г. Дурнаво /22/ прыводзе прыклад ув острозя з Буданаўкі Курскага пав. Буддэ /Тула, 8/ прыводзе прыклад "у Багаявленцы" ад "Багаяўленка" з паўдзённа-ўсходняй частцы Багародзіцкага пав. Ня мае значэньня, наколькі гэтая рыса дагэтуль захавалася, бо наагул яе цяпер няма, а ведама, што была ўперад.

Канчаткі -ы, -і назоўнага склону мн. л. мужчынскіх спакменьнікаў:

на жалты беалы пяскі, на жалты пяскі саділася - ц.с. Пруды Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 28/;

на крутыя бірягі /II3/, жолтаі пяскі /72/, Данецкая Семіца Цімск. п., на тёмнаі лесы - Расхавец Шчыгр. п. /8I/, сталі хлебы закісать - Мармыжы Шчыгр. п. /8I/, крутыя бірягі - ц.с. Мялехіна Шчыгр. п. /95/, жолтаі пяскі - тамсама;

на жалты пяскі - Красьнікава Абаянск. п. /255/, сады /2I7/, сьнягі /232/, стаялі сталы /247/ - ц.с. Заломнае Суджан. п.

Значыцца, яшчэ ня зусім апанавала ў Вяцічаў расейская мова назоўны скл. мн.л.

Усе асновы ніякага роду канчаюцца ў назоўным і прыймальным склонах мн.л. на "-ы", "-і": рабяты - Касімаўскі п., Паповы рабяты гарох малацілі - Шчэлева Скопін. п. /Будде, I80/, рябяты - Шчэлева Скопін. п. /Дурново, I50/, рібяты - Ліпецкі п. Тамбоўск. г., Гаўрылаўка Кірсанаўск. п. Тамбоўск. г., рябяты - Лебядзінскі п. Тамб. г. /Дурново, I39, I38, 2I9/, "у ніякім родзе пры звычайным - "а" магчымы -ы: пісьмы, ребяты, яйцы, сёлы - ув Архангельскім Зямлянскага п. Варан. г. /Гринкова, У, I02/;

рібяты - Венеўскі п. Тульск. г. /Дурново, II9/, рібяты - Ясянкі Крапівен. п. /Дурново, I2I/, тамсама /Будде.Тула, I6/, воўцы - Арлова Крапівен. п., ўоўцы - Даніла ўка Крапівен. п. /Будде. Тула, 25/, кольцы кладуть - ц.с. Спаскае-Лутавінава Мцэнск. п., пякуть яйцы - ц.с. Гарохава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 63, 59/, рібяты - Лаўрова Арлоўск. п. /Дурново, I39/, гумны, стёклы, окны, ухі - паўдзённая частка Лівенск. п. /Селищев/;

рібяты - Ліхвішчы Белеўск. п. /Дурново, I33/;

на первам узлу бялілы /56/, пісьмы /55/ - Данецкая Семіца Цімск. п., Купілі - ... мылы, бялілы і мылы, бялілы алаі румёны

- Расхавец Шчыгр. п. /57/;

вароты - Знаменскае Суджан. п. /273/, шшаняты /= шчаняты/ Маслаўка Суджан. п., ігняты - тамсама /Дурново, 73, 75/, верятёны - Руска-Халанск. вол. Новааскольск. п. /Дурново, II2/.

Таксама ў беларускай мове.

Канчатак - у-асноваў запанаваў у дакладным скл. мн.л. а/у -а, іа-асноваў, б/ у ўсіх іо-асноваў. "Што да дакладнага скл. мн. л. гэтага скланеньня /а-, іа-асноваў/, дык блізу адзіны канчатак яго - гэта канчатак -ов, -ев" /Будде, II0/. У мяккіх асноваў у дакладным скл. мн. л. "звычайна ўжываецца /у Разаншчыне/ канчатак -ев: грачоф, спасітелеф, гостяф: ноня гостяф у нас ня будя" /Будде, I05/; рублёф - Зьверава Данкоўск. п. Разанск. г. /Будде, I74/. "Вялікім пашырэньнем карыстаецца ў дакладным мн. л. канчатак -ов, -в, пранікаючы ў васновы мужчынскага роду на іо-, а таксама ў васновы жаноцкага й ніякага роду; вІдаць, гэтая зьява свая бальшыні гаворак Варанес. г." /Гринкова, УII, 569/.

дажжоў - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, I2/, ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 5I/, "триста рублёв" /із лічбызданьня пана Кастраміцінава пра збор грошы на войска ў I8I2 г. ў Лівеньскім пав./ /Селищев. Заметки/;

ведмядёв, князьёв - Абаянскі п. /Дурново, 67/.

Таксама ў беларускай мове.

Аванесов /Диалектология, I6/ паведамляе, што "на захадзе паўдзённа-вялікарускае тэрыторыі сустракаюцца архаічныя формы прызначальнага й мясцовага склонаў мн. л. тыпу гастём, гастёх".

У nt-асноваў захаваўся й адзіночны лік, пры гэтым із зьменаю -я на -ё пад уплывам о-асноваў: дітё - Ябланава Скопін. п. /Будде, 23/, дітё - Разаншчына /Будде, II3/, дітё - станіца Ецераўская Усьць-Мядзьведзіцкае акругі Доншчыны /Дурново, I69/; черьз тібі дітё мученья - ц.с. Архангельскае Крапівен. п. /Будде, 32/; мая теля хвастом меля - паўночна-ўсходняя Куршчына /I4/, теля - Руска-Халанск. вол. Новааскольск. п. /Дурново, II4/, дітё - ц.с. Заломнае Суджан. п. /220, 23I/.

У беларускай мове адзіночны лік усіх nt-асноваў захаваўся - ды ў вялізарнай бальшыні гаворкаў - із зьменаю -я на -ё.



Скланеньне прыметнікаў

Пра канчатак назоўнага склону адз. л. мужчынскіх прыметнікаў была мова вышэй у ваддзеле фонэтыкі.

У канчатку дакладнага склону адз.л. мужчынскіх ды ніякіх прыметнікаў у вадных мясцовасьцях вымаўляецца -га, у другіх -ва, прынесенае рас. уплывам[I33]. Бывае, што ў тым самым месцы вымаўляюць гэты канчатак із г і в[I33а].

У прыметнікаў і прыметнікавых займяў мужчынскага й ніякага роду ў мясцовым склоне адз.л. часта сустракаецца канчатак -ым зам. старога -ом "... у мясцовым склоне прыметнікаў зам. -ом часта чуецца -ым, прыкл. "в белым балахоне", "на паштовым дваре" - Касімаўскі п. /Будде, 44/, аб родным - Ясянкі Крапівенск. п. /Будде. Тула, I6/, на добрым пріветя - ц.с. Духава Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 32/, в чістым полю /227/, на шырокім рубяжу /227/, на вісокім курганя /227/, на шырокім /237/, в кованым, у мулёваным у сідле /243/ - усе ў Заломнае Суджан. п.

Гэты новы канчатак пашыраны ў вялізарнай бальшыні гаворак беларускае народнае мовы, у тым ліку ў цэлым сярэднім дыялекце, і прыняты да беларускае літаратурнае мовы.

У канчатку прыймальнага скл. адз.л. жаноцкіх прыметнікаў перадапошняе "у" замененае на гук "а", калі націск на аснове /новаю хату/, і апошняе -у, калі націск на канчатку /глухуя бабу/, - вІдавочна, у вабодвых выпадках пад дзеяньнем формы назоўнага склону, але хіба не бяз уплыву аканьня, бо йзноў у вабодвых выпадках зьмена сталася ў ненацісьненым складзе. Першай, праўдападобна, сталася замена перадапошняга "у" на гук "а" ды пацягнула за сабою другую замену.

Беларуская мова ў вялікай бальшыні народных гаворак і ў літаратурнай мове затрымалася /але не на пісьме/ на першай зьмене. Розьніцу тут паміж беларускай моваю і вяцікім дыялектам можна выясьніць тым, што ў мове, паслабленай чужым уплывам, болей дзее мамэнт псыхалягічны.

Вышэйшая ступень прыметнікаў. Буддэ кажа, што тварэньне вышэйшай ступені прыметнікаў у разанскай падмове аднолькавае зь беларускай мовай. "Трэба зацеміць, што ў разанскай падмове ёсьць

толькі аднаго тыпу вышэйшая ступень ... добрей, белей, красьней ды інш. Гэткім парадкам, знаходзім: пакарачей, ужай, шыпчэй, большай, чішшей, луччей, хужей, бліжай, жырчэй, далжей, даляй, тішай, болей ды інш. ... У гэтым дачыненьні беларуская мова выдатна аднолькавая з разанскай падмовай; тут мы маем часьцей, гусьцей, шырэй, вышэй. Зусім часта такія-ж канчаткі ўжываюцца цяпер і ў разанскай падмове, а форму вышэй мы сустракалі ў старых разанскіх лістох /Радны запіс 1690 г. РКП. Разанск. Архіву № 147/, /Будде, 115/; мілей мужа нет - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., скарэй - Храпова Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 46, 55/; мілей - Красьнікава Абаянск. п. /Халанский, 258/.

У беларускай мове, адылі, вышэйшая ступень на -ей пашыраная толькі ў паўдзённай падмове, ды гэтая-ж форма прынятая да літаратурнае мовы, у паўночнай падмове ёсьць форма на -шы. Побач із формаю вышэйшай ступені на -ей, форма на -шы ведамая таксама ў усходнім чарасьле сярэдняга дыялекту блр. мовы. Гэтая-ж форма на -шы, побач із формаю на -ей, нярэдка сустракаецца ў заходняй частцы вяціцкага дыялекту: раньшы па тяглам нъзываласі - Арлова Крапівен. п. /Будде. Тула, 11/, малітвы - тіжэльшы - Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 21/, ходють к ім хто как здумая: большы ў Пятроў день, гля скатіні, аўцам большы ... бывають - находють куклы ува ржы; свяжуть большы горьсти - Малынка Крапівен. п. /Будде. Тула, 27/, раньшы пасодють - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 12/, большы ня знають нікакіх прісьпехаў - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 25/, тібя большы ня відать - ц.с. Пруды Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 28/, большы у нас мода ва ўсём Духъвя - варьшкі - ц. с. Духава Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 31/, да й большы ньчяво - тамсама, а дальшы ужънать нашнуть - тамсама /Будде. Тула-Орел, 32/, буваіть дамовой, дваравой большы зауть - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 52/, раньшы у сутерьп была - Роўны Ружынск. вол. Карачэўск. п. /Будде. Тула-Орел, 78/, разі лехчі буваеть - Новая Скакоўская Калускага п. /Дурново. Карта, 34/ /Апошні, а магчыма, што й перадапошні зь мясцовасьці, што яшчэ належа да беларускае мовы;

іде /=дзе/ табе лутьчі - Шарэкіна Льгоўск. п. /267/.

Колькі прыкладаў вышэйшае ступені на -шы з паўночнае падмовы беларускае мовы: я-ж табе казаў, ня бяры большы ад аднаго воза - Смаленшчына /Даль/, а сама села вышэй усіх, задумала думухну большы усіх - Гарэцкі раён Магілеўшчыны /Кот, 208/. Адно формы на -шы ёсьць у Радзівілаўскім летапісе XV стг. /Ганцов. Радзив. летопись, 227/.



Буддэ /16/ прыводзе яшчэ гэткі прыклад із разанскіх памяткаў: "будет горша нынешняго" - Скарбніцкая адпіска да біскупа 1655 г. /Разан. Достоп. § 206/.

## Займі

Займя першае й другое асобы ды зваротнае маюць гэткія формы:

<u>Дакл. і прыйм</u>. адз. л. у Разаншчыне: "мене. У Касімаўск.п. чуецца рэдчас у прыймальным склоне форма <u>мя</u>: "ваділа мя". Тебе, себе, у Касімаўскім п., прыймальн. рэдчас тя, ся: "за ся"; у Міхайлаўскім п. часта -те: "Куды те нясе?" /Будде, 117/. У іншым месцы Буддэ кажа, што ненацісьненае "е" ў мене, тебе, себе "вымаўляецца блізу як "і" /гл. вышэй, б. 48/.

прішлі сватацца за мя - ц.с. Зарэчча Навасіль. п. У паўдзённай частцы Лівенск. п. ужываюць форма ў міне, тібе, сібе /Селищев. Заметки - у Slavia, VI, 2-3/;

Атпусті мене - Лучкі Карачан. п. /282/, а ў міне - Красьнікава Абаянск. п. /254/, за сібе вазьму /214/, на міне /226/ - ц.с. Заломнае Суджан. п., сажай міне - Знаменскае Суджан. п. /271/.

<u>Прызначальны й мясцовы склоны</u>. У Разаншчыне: мне, рэдчас мене, аб мене, табе, сабе /Будде, 117/.

У паўдзённай частцы Лівенск. п. ёсьць формы прызнач. скл. мне і міне, табе, сабе /Селищев. Заметки - у Slavia, VI, 2-3/; к сабе - Гочава Абаянск. п. /263/, табе - Красьнікава Абаянск. п. /257/, прівёс міне трі падарка - Знаменскае Суджан. п. /272/, табе - Шарэкіна Льгоўск. п. /267/, к сабе - тамсама, табе - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /270/.

Займя 3-яе асобы: ён, яны - Разаншчына /Будде, 50/, "ён, яны, - Боршава Скопін. п., прыміж таго "аны" ведама, прыкл., у Касімаўск. п. у шмат якіх сёлах ды царкоўных сёлах так зв. Тумскае зямлі" /Будде, 28/. Даль таксама падаець для вяціцкага дыя-

лекту форму "яны".

Ён /276/, яно /277/, ён /278/, - Лучкі Карачан. п., ён - Гочава Абаянск. п. /259/, ён - Знаменское Суджан. п. /273, 272/, ён - Шарэкіна Льгоўск. п. /265/, ён - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /268/.

Форма з -ы - яны, на невялічкіх прасторах - аны, назоўнага скл. мн. л. ведамая на ўсёй тэрыторыі беларускае мовы. j да назоўнага склону перанесены із залежных скланоў. Šerech/58/ сьхіляецца да пагляду, што гэты j у беларускай мове зьявіўся пад /паўночна/ расейскім уплывам. Прыміж таго, у беларускай мове і ў вяцiцкім дыялекце было болей дадзеных дзеля зьяўленьня тут j, бо ў іх па прыймях перад займём 3-яе асобы ня бывае пратэзы "н", зн., гэтае займя ў залежных склонах часьцей выступае з пачатным j. Што да вяцiцкага дыялекту, дык пра самастойнае зьяўленьне ў ім формы "ён" сьветчэ яшчэ тое, што ў Тумскай зямлі, географічна найбліжэйшай да /паўночна/ вялікарускай тэрыторыі, захаваліся формы "вон", "аны". Захаваньне гэтых формаў у Тумскай зямлі - гэта адно із сьветчаньняў архаічнасьці ейнае гаворкі. Дзеля ўсяго гэтага, дзе-ня-дзе сустраканую на вяцiцкай тэрыторыі форму "ані" мн. л. трэба ўважаць за занесеную, расейскую.

У дакладным і прыймальных скланох жаноцкая форма гэтага займя - яе: пра гэтую форму ў Разаншчыне сьветча Буддэ /50/, у яе брата - ц.с. Мішына Міхайлаўск. п. і ў Скопін. п. таксама /тамсама/. У Задонскім і Зямлянскім паветах Варан. г. "асабліва займя 3-яе ас. адз. л. мае форму ее побач із формаю ей" /Гринкова, У, 93/, яе - Траецкае Зямлянск. п. Варан. г. /Дурново, I65/, ее там замуж узял - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 578, 579/;

ткем её - ц.с. Драплы Адаеўск. п. /Будде. Тула, 37/, дочери еѣ сѣкунд маиорша Анна Анушкіна порутчіца иона Федорова дочери; с дочерьмі еѣ /з просьбы лівенскіх паняў I789 г./ /Селищев. Заметки, у Slavia, УI, 2-3/;

ніхто-ш іе ні ўзбудя - ц.с. Заломнае Суджан. п. /233/, на іе́ - Шарэкіна Льгоўск. п. /267/.

Як і ў беларускай мове, ад "яе" ёсьць займя "ейны": ейный хазяін служыл - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 578/.

Як і ў беларускай мове, займя весь мае ў назоўн. скл. адз.



л. форму "увесь":

увесь - Панькова Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 37/, паўдзённая частка Лівенскага п. /Селищев. Заметки -Slavia, УI, 2-3/. Данецкая Семіца Цімск. п. /59/, паўночна-ўсходняя Куршчына /373/, Заломнае Суджан. п. /24I/, Знаменское Суджан. п. /273/.

"у" тут унесенае зь іншых скланоў /усяго і г.д./, што сьветча пра пераход "в" у "у".

У заходняй частцы вяцiцкага дыялекту займі "адна, тая, такая" маюць у дакладным, прызначальным, снадзіўным і мясцовым склонах формы на -эй:

да тэй траўкі - Хралова Мцэнск. п., із аднэй дірэўні - Бабі Скок Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 55/; з тэй - ц.с. Заломнае Суджан. п. /2I9/, на тэй - тамсама /2I7/, ні аднэй такэй сабачкі, дюжа тямкая - Ніжнія Дзеравенькі /268/.

Такія-ж формы, але абмежаныя да "аднэй, тэй" пануюць у сярэднім дыялекце і ў віленска-ашмянскай гаворцы.

Гэткія вяцiцкія формы, як "аднэй" і пад., Грунскі добра выводзе з формаў "адный" і пад.[I34] Гэта пацьвярджаюць формы на -ый, што йснуюць яшчэ побач із формамі тых-жа займяў на -эй. Дурнаво /Карта 5/ кажа: "За супольную ўсім калускім /Калускае губ. значыцца, як беларускім на захад ад р. Акі й р. Медынкі прыблізна, так і расейскім на ўсход ад іх - Я.С./ гаворкам рысу, здаецца, трэба ўважаць займенныя формы "аднэй", "тэй", або "адный", "тый". Дурнаво падаець формы на 'адный з Карамышава Медынск. п. і "адный веры" з Дварца Калускага п. /Карта, 33/. У іншым месцы Дурнаво адзначае, што ў с. Калужкіна Мяшчоўскага п. "частыя формы прыметнікаў на "эй": "краю", "мэю" і "крыю" /Карта, I4/. Да гэтага дадам, што ў маёй вужэйшай дамове Ашмянск. п., дзе кажуць заўсёды "тэй", "аднэй", але "крыю", бярвінцо, што ляжыць на версе страхі, завуць "крэўка" зам. "крыўка", ды кажуць: "Крэй Божа".

Дык -эй у гэткіх формах, як "аднэй", паходзе з -ый; але -ый з націсьненага -ой магло ўзьнікці толькі паводля аналёгіі з -ый у ненацісьненых складох / з таковый работый/. А гэта вядзець нас да паўночнае, дысыміляцыйна-акаючае крывіцкае падмовы. Дыкжа там гэтыя формы на -эй цяпер чыста пануюць, як пад націскам, так і ў ненацісьненых складох, як у займяў, так і ў прыметнікаў

ды спакменьнікаў /із старэй бабэй/. Із залежных скланоў "эй" было перанесена да назоўнага склону адз. л. мужчынскіх прыметнікаў, замяняючы ў іх націсьнены канчатак -ы на -эй /маладэй дзяцюк зам. малады дзяцюк/.

Лічнік

Адцемлю толькі агульна-пашыраную форму "чятырі" - Задонскі й паўночная частка Зямлянскага п. Варан. г. /Дурново, 40/, Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 578/, Матчаркі Маршанск. п. Тамбоўск. г. /Дурново, I34/; Куркіна Яфрэмаўск. п. Тульск. г. /Дурново, I75/, Карташоўка Малаархангельск. п. Арлоўск. г. /Дурново, 94/, Пруды Навасіль. п. /Дурново, I07/, Галянкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 25/; Малехіна Шчыгр. п., Расхавец Шчыгр. п. /Дурново, 88, I05/, Данецкая Семіца Цімск. п. /Халанский, 55/; Лучкі Карачанск. п. /275/, Курасаўка Абаянск. п., Маслаўка Суджан. п. /Дурново, 70, 73/, ц.с. Заломнае Суджан. п. /2I5, 236/; чятыріста - Маслаўка Суджан. п. /Дурново, 73/.

Дзеяслоў

Неазначальнік. "У разанскай падмове, асабліва ў Скопінскім п., відаць досыць характарыстычная замена гуку "а" ў дзеясловаў, дзе гэтая прымета "а" стаіць па пярэднепаднябенным /шыпячым/ гуку, зн., утварылася з гуку ѣ /у дзеясловах III-У клясы паводля Міклошычавага падзелу/. Дарма, што гэтае "а" стаіць пад націскам, яно вымаўляецца як е. Гэтак мы стала чуем: крічеть, крічел, крічела; шуршела, постучеть, стучелі, стучела, стучеть /але цяперашняга часу 3 ас. мн. л. - стучать, крічать/, пішшел, вішшела ... тряшшела" /Будде, 3I/.

3-яя ас. адз. л. Канчатак у 3 ас. адз. ліку мяккі /-ть/, або ён адпадае[135].

3-яя ас. мн. ліку мае мяккі канчатак -ть, што не адпадае.

Паводля формы 3-яе ас. адз. л. цяп. часу ўвесь вяціцкі дыялект можна падзяліць на тры групы.

а/ Да першае групы належаць гаворкі, што маюць канчатак -ть адно пры націску на аснове -і- цяп. часу. Сюды належаць гаворкі паўдзённай часткі Лівенскага павету - паводля сьветчаньня Селішчава /Slavia,УI, 2-3, б. I76/ -і гаворка с. Лучкі Карачан-



скага павету. Прыклады з гаворкі с. Лучкі: згарая, занывая, варкуя, любуя /276/[136], упрашая /278/, літая, ламая, абівая, падавая /280/, літая, пархая, зымая /28I/, умаляя, упрашая /282/, раствітая, пасьпівая /277/, хочя /276/, пусьтя /280/, абамре /276/, бъе /279/, заве, жыве, твіте /277/. Магчыма, што сюды належа гаворка с. Красьнікава Абаянск. п., скуль Халанскі падаець гэткія выпадкі 3 ас. адз. л.: брызьня /двойчы, 255/, стеля, плачя, выскладая, адівая, праклінaя, вспамінaя /256/, кукуя, пытая /257/, бъе, хісьне /двойчы, 255/. Нястача выпадкаў із і-асноваю не даець магчымасьці з пэўнасьцяй сьцьвердзіць прыналежнасьць гэтае гаворкі.

Такую форму 3-яе ас. адз. л., як у гэтай групе, маюць гаворкі заходняга чарасла беларускага сярэдняга дыялекту ды віленска-ашмянскія гаворкі, а таксама частка паўдзённа- заходніх.

б/ Да другое групы належаць гаворкі з канчаткам -тв у 3 ас. адз. л. толькі пад націскам, незалежна ад асновы. Сюды належаць Разанскія гаворкі. Буддэ піша: "... дзеясловы з націсьненым тэматычным е або і звычайна /у Разаншчыне/ не адкідаюць асобавага канчатку -ть у 3 ас. адз. л.; націсьненае тэматычнае е ў вольных сёлах і вольных царк. сёлах не пераходзе ў ё, а застаецца е. Дзеясловы зь ненацісьненым тэматычным е або і, адкідаючы асобавы канчатак -ть, адзіночацца ў вадным першым спражэньні, зн. прыймаюць форму дзеяслова з тэматычным е, што ў такім выпадку, паводля законаў разанскага аканьня, пераходзе ў гук я ... Такім парадкам, маем: дзеясловы з тэматычным е ды і наагул у местах і панскіх сёлах - вязёть, жывёть ... крічіть, бяжыть... і інш.; у вольных ды вольных царкоўных сёлах - вязеть, нясеть, встаеть, жыветь, даеть, бяреть, тячеть, бьетца, мреть, запреть; дзеясловы з тэматычным націсьненым і й тут так і застаюцца. Формы: жывё, ... паспяё, а таксама формы: атдае́, жыве́ наагул сустракаюцца досыць рэдка, раўнуючы з прыведзенымі вышэй" /Будде, I2I-I22/. Адлі Буддэ яшчэ паясьняе, што ў Касімаўскім павеце Тумскай зямлі, Спас-Кляпікі; Міхайлаўскі п., Іжаслаўль, Нікольскае, Мішына; Спаскі п.; Юшта, Церахава й рэдчас у Скопінскім п., Сякірня, Пушкі, Тапіла "дзеясловы зь ненацісьненым тэматычным е ды і дастаюць аднолькавы выгляд із тэмаю першага спражэньня на е - я: едя, ходя, дуя, будя, веря, хватя, вы-

дя, прідя, вывязя, выядя, возя, рубя, хватая, думая, вырасьця, вырастая, бывая, ведая, зная, лезя, кусая, ... растопя, скажа, хоча, нося, абвісьня... станя, можа гутаря... ды інш. Усіх такіх формаў ужываюць у вольных сёлах і вольных царк. сёлах Разанскай губ.; у местах і сёлах іншага роду /"барскіх"/ скажуць усе гэтыя дзеясловы з канчаткам -ть: едеть, ходіть, веріть" /Будде, I22/. Ведама, што формы мескія й панскіх сёлаў - гэта вынік ранейшага, а дзеля таго й мацнейшага расейскага ўплыву, што йшоў у местах ад ураду, войска ды школаў, а ў панскіх сёлах - ад зрусыфікаванага дваранства; такія формы зь гістарычнагй гледзішча чужыя разанскім гаворкам.

Хіба сюды належаць і гаворкі Варанеск. губ. Гринкова /У/ кажа, што ў Задонскім і Зямлянскім пав. Варан. г., "Побач із -ть у дадзенай гаворцы магчымае нябыцьцё гэтага канчатку... надта пашыраная вымова канцавога самагуку дзеяслоўнае тэмы, як а, ды ня толькі на месцы е ў I і III кл., але й на месцы і ў IУ кл.: ступая - Карачун /Задонск. п./, паша - Д.Негачэўка /Зямлянск. п./, палажа - Карачун, патходя, увідя, лупя - Д.Негачэўка". Нястача прыкладаў із націскам на тэматычным -е- не дае ць поўнасьці што да месца гэтых гаворкаў. Калі-б былі формы як жыве́, дык гэтыя гаворкі належылі-б да першае групы.

Да гэтае групы належаць і гаворкі паўночна-ўсходняе Куршчыны /Шчыграўскі п., паўночна-ўсходняя частка Цімскага, частка Курскага й Фацескага паветаў/. Пра форму 3 ас. адз. л. гэтых гаворкаў Халанскі /I5/ піша: "Спражэньні мяшаюцца, дзеля гэтага канцавы ненацісьнены самагук у 3 ас. адз. л. аднолькава гучыць у I-ым і 2-ім спражэньні, як я й а: ходя, відя, паша, ішша, хоча, гоня, жаря, ползая, і - гаріць, вядеть, нясеть, бъеть, пъеть".

Сюды-ж належа гаворка ц.с. Заломнае Суджан. п. Халанскі падаець гэткія выпадкі: едя /234/, закладая, даставая, атмыкая, замуздавая, асёдлавая /228/, будя /233, 232, 220/, гуляя /220/, ёнківая і маргая /226/, гуркуя /2I4/, выводя /228/, взбудя /223/, ходя /220/, пріходя /225/, але: прінясеть /226/, даеть, шъеть, діреть /23I/, стаіть /2I5/, рветь /2I8/, жгеть, бъеть, ждеть, паджыдая, паглідая - у тэй самай песьні /2I9/, прідеть /= прадзець/, відеть /= вядзець/, гудеть /222/, плыветь, нісеть,



мітеть, ідеть /230/, твітеть /224/. Як адхін ад гэтага, запісаныя два выпадкі з канчаткам у дзеясловах бяз націску на тэматычным самагуку - слушаіть, балакаіть /2I4/, і адзін выпадак без канчатку пры націску на -е асновы - пайде /240/, - відавочна, занесеныя заяжджомымі зь іншых гаворак. Відаць, сюды належа таксама гаворка с. Гочава Абаянск. п. Халанскі падаў гэткія выпадкі 3 ас. адз. л.: будя /259/, ноя, замірая /262/; кося, нося /260/, пріходя /26I/, ён і тоня, ні плывёть, прочь ад берюику ні йдеть /260/.

в/ У трэйцюю групу ўваходзяць гаворкі, дзе ў 3 ас. адз. л. заўсёды канчатак -ть. Пра паўдня Тульшчыны й поўнач Арлоўшчыны /паветы: Крапівенскі, Багародзіцкі, Ефрэмаўскі, Навасільскі, Адаеўскі, Мцэнскі, Арлоўскі, Карачэўскі й Бранскі/. Буддэ /Тула-Орел, I07/ кажа, што там "траха зусім не сустракаюцца формы 3 ас. адз. л. дзеясловаў без канчатку -ть /ёсьць два выпадкі/".

Да гэтае групы належа таксама гаворка сяла Знаменскае Суджан. п., у Халанскага зь яе ёсьць гэткія выпадкі 3 ас. адз.л.: граіть /272/, патапаіть /272/, гуляіть, выбіраіть, сідлаіть, саіжжаіть /273/, выплітаіть /274/, ішшыть, ходіть /27I/.

Сюды-ж належаць вяціцкія гаворкі, што яшчэ захавалі свой беларускі характар. Дурнаво /Карта II/ кажа, што "ўсе завугорскія гаворкі /паветы: захедняя частка Калускага, Мяшчоўскі, Жыздрынскі, Казельскі, частка на захад ад ракі Акі Белеўскага/ ... маюць у 3 ас. дзеясловаў "ть" /што, здаецца, бадай не адпадае/". Магу пацьвердзіць, што запраўды не адпадае. Пра гаворкі Бранскага й Карачэўскага пав. было прыведзена кадзе сьветчаньне Буддэ. Я пераканаўся, што й далейшыя на паўдня беларускія паветы - Трубчэўскі, Севскі, Рыльскі й беларуская частка Пуцівельскага - таксама заўсёды маюць канчатак -ть /або -ць/ у 3 ас. адз. л.

Зваротныя дзеясловы ў 3 ас. адз. л. і мн. л. маюць форму цца /у запісах яна звычайна выглядае як тца/. "Але ў вольных сёлах і вольных царкоўных сёлах, дзе наагул болей датрыманая й архаічная фанэтыка ды марфалёгія, нярэдка чуеш мяккое ть у 3 ас. адз. л. /відавочна, тое-ж ёсьць і ў 3 ас. мн. ліку - Я.С./ перад ся /сі/: смяеться" /Будде, I23/. Гэткая вымова - зь мяк-

кім -ць у 3 ас. адз. і мн. ліку зваротных дзеясловаў ёсьць у паўдзённай частцы беларускіх паўдзённа- заходніх гаворак.

У I ас. мн. ліку пад націскам станаўкую перавагу маюць формы на -ем у васноваў на -е; формы на -ём тут у вялікай меншыні. "Прівязе́м - ц.с. Восьлябава; жыве́м, бяре́м - ц.с. Крэмлева Скопін. п. Усе гэтыя прыклады ўзятыя із Скопінскага пав., але, паводля зыбраных намі ведамкаў, гэтая-ж зьява назіраецца з такою-ж кансэквэнцыяй і ў іншых паветах, прыкл. у Данкаўскім п., у Спаскім п., у Пронскім, Раскім, Міхайлаўскім ды іншых" /Будде, 98/; переталче́м - Карачун Задонск. п. Варан. г., бере́м - Д.Негачэўка Зямлянск. п. Варан. г. /Гринкова, У, 90/;

Нъпрядем, аснуе́м і вытке[i]м - Архангельскае Крапівен. п. /Будде. Тула, 27/, кънапі біре́м, мне́м, талке́м, пріде́м /= прадзём/ - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 13/, вазьме́м - ц.с. Заломнае Суджан. п., /Халанский, 221/.

Вымова - -ём у I ас. мн. л. узьнікла пад уплывам -е ў другой і трэцяй ас. адз. л.

У 3 ас. мн. л. не пад націскам на канчатку ўсе дзеясловы маюць форму на -уть -ють, прыкл.: паставють, бла́гастють /з благавесьцяць/, варожуть і інш." /Будде, 124/.

Адзначу формы некаторых дзеясловаў, аднолькавыя з формамі тых-жа дзеясловаў у беларускай мове.

бе́гла - Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 21/, вы́бігла - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 52/.

Партыцып шьдлъ мае прыстаўкое і-: Ой міма йшла Матрёнушка, ой міма йшла Пятроўна - ц.с. Станавы Калодзезь Арлоўск. п. /Будде. Тула-Орел, 43/, ішол /55/, ішла /81, 112/ - ц.с. Данецкая Семіца Цімск. п., ішла - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /270/.

Пъкупляім - Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 22/, прыр. блр. купляць-купляю.

Пеять хаділ, вот і напеялі, у цэркві пеять - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 579/, пяють - Істобнае Ніжнедзявіцкі п. Варан. г. /Дурново, 117/; пісьні пе[i]ють - Зарэчча Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 17/, пя[i]ють - тамсама, песьні пяють, пяють, пяём - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 12, 14/, пяём - Пятушкі Навасіль. п., пяють - Зарэчча Каменскае вол. Навасіль. п. /Дурново, 191, 221/; пяють - Саламыкава Абаянск. п. /Дурново, 81/.



Прімайтя - Міхайлаўскі п. Разанск. г. /Будде, 23/; прімі - Драгуны Крапівен. п. /Будде. Тула, 26/, займаютца, займаімсі - Зараўка Крапівен. п., Маскоўскія Выселкі Крапівен. п. /Будде. Тула, 18, 20/, займаютца - ц.с. Левінскае Адаеўск. п., Дарагонка Адаеўск. п., /Будде. Тула, 32, 39/, займаютца - ц.с. Старажовае Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 54/.

Хочуть: "... зам. 3 ас. мн. л. "хотять" часьцей чуецца "хочуть" - у Разанск. г. /Будде, 32/.

... Мы сустракаем у Разанскай падмове ... "черепай" зам. черпай - загадны лад ад дзеяслова "черпать". Гэты дзеяслоў у такім выглядзе мы маем адно ў беларускай мове: черепаць, черепай" /чарэпаць, чарэпай - Я.С./ /Будде, 45/.

Прыслоўі, прыймі, злучы

Адцемлю некаторыя прыслоўі, аднолькавыя зь беларускімі.

аж, ажно - паўдзённая частка Лівенскага п. /Селищев. Заметки, Slavia, УІ, 2-3/; ажно - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /Халанский, 269/.

акрамя, апасьля - Разаншчына /Будде, 48/, связьлі ў чере[i]нь, а пасьля ў де[i]ревьню - ц.с. Паўлаўскае Адаеўскі п. /Будде. Тула, 39/.

іде /= дзе/: іде ты был? - Каратаяцкі п. Варан. г. /Гринкова, УII, 573/, я скажу, іде он есть; іде ана есть зарыта - Архангельскае Зямлянск. п. Варан. г. /Гринкова, У, 108/.

скрозь, наскрозь "ужываецца ўсюдых" /у Разаншчыне/ /Будде, 68/.

тады - Захараўка - Крапівен. п., ц.с. Прышня Крапівен. п., Малынка Крапівен. п. /Будде. Тула, 18, 27/.

туды́ - Данілаўка Крапівен. п. /Будде. Тула, 25/.

толькі - Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 267/.

зза́ду, збо́ку - ц.с. Пятушкі Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 13/, па старіньску насілі - Маскоўская Слабада Крапівен. п., па нашаму па діревеньску - Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 22, 34/.

З прыймяў адцемлю:

длі: будіш дёўка длі карватушкі стаять, длі карватушкі; длі карватушкі стаять - горючі слёзы ранять - Архангельскае

Крапівен. п. /Будде. Тула, 30/. Гэтаму прыймю адказвае блр. ля, паўсталае з для пасярэдніцтвам гля.

прраті, супраті - Разаншчына "траха ўсюдых ужываецца, прыкл. "праті етаго" /Будде, 63/, выбрал дефку, выбрал красну, спраті себе станавіл - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, 177/.

Із злучоў адцемлю:

ай /= або/: На Новай Гот серьгі ай кольцы кладуть ў чяшку - ц.с. Спаскае - Лутавінава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 63/.

бытта /= быццам/ - Тумская зямля Касімаўскага п. /Будде, 44/.

## Тое-сёе із сынтаксу

Тут ізноў адцемлю асаблівасьці, аднолькавыя зь беларускімі, або таго-ж паходжаньня.

тігра ў Разаншчыне жаноцкага роду. У беларускай мове мужч. спакменьнікі на "р", "л" маюць яшчэ дадане на канцы -а: тыгра, сябра, зубра, Пётра, Ляксандра й інш. Відаць, гэтак было, а мо й ёсьць, у вяціцкім дыялекце, і дзеля таго цігра перайшло да жаноцк. роду.

облак - Разаншчына /Будде, 103/, мужч. р. Таксама ў блр. булак.

Толькі мн. ліку ў вяціцкім:

груді: ссеть груді - ц.с. Верхняя Залегашч Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 25/, грудьмі карміла - Зарэчча Навасіль. п. /Будде. Тула-Орел, 15/;

двері: Мать сыра земля двері заміла - Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 266/;

канапі - Разаншчына /Будде, 105/, кънапі - ц.с. Спаскае Лутавінава Мцэнс. п. /Будде. Тула-Орел, 63/. пр. блр. каноплі.

Прыймя аб ужываюць: а/ Дзеля вызначэньня часу. "На пытаньне калі звычайна ужываюць прыймя "аб" зь мясцовым склонам: "аб масьлянай" - на масьлянку; "аб Ражастве" - на Раство й інш. /Будде, 127/, ап святой /надзелі/, ап Хрышшэньню - Д.Негачэўка Зямлянск. п. Варан. г. /Гринкова, У, 96/. Гэтак-жа ў некаторых беларускіх гаворках, прыкл. у амсьціслаўскай. Грынкова /тамсама/ піша, што апрача гэткага ўжываньня, у Задонскім і Зямлянскім пп. прыймя "аб" ужываюць зам. "з" /рас. "с"/ у такіх выпадках, як - талкучі аб аднэй ручькі - Карачун Задонск. п. і нат зам.



рас. "по" - аб акошку - тамсама.

Прыймя да ўжываюць зам. к: да мяне - Мцэнск. /Даль, LXIУ/.

Прыймя за ўжываюць із дакл. скл. дзеля вызначэньня часу: за будьні ў лаптях ходям - Маскоўская Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 22/.

Прыймя па дзеля вызначэньня месца вымагае мясцовага склону: "па канцах, был па гарадах, па садах, па хахлах, па нагах, па старанах, па сьтянах, па гратках, па краях, па акошках і г.д. У дадзеным выпадку даводзіцца барджэй гаварыць не пра замену аднаго канчатку на другі, але пра апрычонае ўжываньне мясцовага склону з прыймём па. Гэта асабліва ясна з тых выпадкаў, дзе спакменьнік у гэткай форме мае пры сабе азначэньне, што таксама стаіць ў мясцовым склоне: па бальшых дастатках, пабывае па фсех сёлах, ехать па этых слядох" /Гринкова, УII, 573/; па том лі рубяжу я к абедінкі хажу, па всём садіку віднеітца - ц.с. Заломнае Суджан. п. /Халанский, 227, 228/.

Прыймя па ўжываюць дзеля вызначэньня часу, па якім штось сталася або станецца: мы згарэлі нядаўна: па пъжарішшу замаілісь - Казачая Слабада Крапівен. п. /Будде. Тула, 21/.

Дзеля вызначэньня мэты дзеяньня таксама ўжываюць па: прісхалі па рыбу рыбаловы - ц.с. Заломнае Суджан. п. /Халанский, 236/, пашлю салавейкю в сыру зімелькю па радімага батюшку - Шарэкіна Льгоўск. п. /Халанский, 266/, паедім мы ... па раннію-ш, па раннію-ш сватуньку ... па красную-ш па красную Марьюшку - Ніжнія Дзеравенькі Льгоўск. п. /Халанский, 269/.

Дзеля вызначэньня спакмяня, пра якога мова, ужываюць прыймя пра: пра нее гаварять - Восьлябава Скопін. п. /Будде, 119/, песьні пра Ягорья ні іграютца - Малынка Крапівен. п. /Будде. Тула, 26/, у нас ні слыхать пра ета - ц.с. Дзежкіна Мцэнск. п., спрасіть пра тібе - тамсама /Будде. Тула-Орел, 47, 49/, пра свадьбу? У на етъва нет'ті: пра нівесту нічяво ні пають - ц.с. Левінскае Адаеўск. п. /Будде. Тула, 32/; я пра то, пра сё сь мілым гаваріла - ц.с. Старыя Савіны Шчыгр. п. /83/, пра міне судють - ц.с. Мялехава Шчыгр. п. /96/, ні кладі пра міне славы, пра мілава вспамінать - ц.с. Мялехава Шчыгр. п. /98, 101/; я пра то, пра сё гаваріла - Красьнікава Абаянск. п. /256/, разгаварівай са мной, да пра худа, пра дабро і пра Доніна жытьё - ц.

с. Заломнае Суджан. п. /229/, батюшка пра всё знае - Шарэкіна Льгоўск. п. /266/.

У беларускай мове ў вадных гаворках пра засталося, а ў другіх зьмянілася ў праз пад уплывам прыймяў із з на канцы.

Дзеяслоў сьміяцца-сьмяюся вымагае дакладнага склону з прыймём з /з съ/: Усяк сміётца ізь міне - Данецкая Семіца Цімск.п. /Халанский, 71/.

Ужываецца пытальная часьцінка чы /Даль/.

У вяціцкім дыялекце, як і ў беларускай мове, пры выказаваньні ўзаемадзеяньня кажацца адзін з /па/ адным і да г.п.: адна таскаіть деўка па аднэй - ц.с. Спаскае-Лутавінава Мцэнск. п. /Будде. Тула-Орел, 63/.

Як і ў беларускай мове, зборныя лічнікі ўжываюцца: а/ калі розныя роды - за тем за сталом сідіть девка с малатцом; ані двое сідять, адну реч гаварять - Данецкая Семіца Цімскага пав. /Халанский, 113/; пры спакменьніках, ужываных адно ў множным ліку - всіго трое санак - места Абаянь /Халанский, 265/.

Адзначу пару эпітэтаў: как чужыі мужья пьють, гуляють, а маей ягаткі дома нет - Зьверава Данкаўск. п. Разанск. г./Будде, 174/. Эпітэт ягадка вельмі пашыраны ў Беларусаў у мове жанок.

Стой, мая золатца, цалуй мяне молатца - ц.с. Ябланава Скопін. п. /Будде, 176/.

## Выснавы што да мовы

Разгледзеўшы рысы вяціцкага дыялекту, найперш трэба згадзіцца з Буддам, што гэты дыялект - адзін, суцэльны[137].

Гэткія рысы вяціцкага дыялекту, як:

1. Пераход ідэ. е даўгога перад даўгім насавым сугукам або перад групаю насавых сугукаў у самагук, аднолькавы з рэфлексам старога /румены/;

2. захаваньне перад складам із націсьненым і /сядіть/;

3. развой ъ, ь перад ĵь, ĵ у ы, і;[138]

4. шчэзьненьне пачатнага ненаціснёнага ĵь[139];

5. прыстаўное в перад ɔ, у на пачатку складу /Лявон, воспа, вуліца/, па прыйму у, ў ёсьць протэтычнае в перад а[140]: у вакне, ув Андрэя жана маладая;

6. фрыкатыўнае г /як у беларускай мове/;



7. уперад л у такіх словах, як "воўк", "дрыжэў", было перайшоўшы ў ў. Пра гэта сьветчаць такія словы, як сонца, вукула, што ўзьніклі із соўнца, воўкола, а гэтыя із слньце, влкола /з л складатворным/. Такія формы словаў у вяціцкім дыялекце, як "Алдотья, Ілдакімаф", сьветчаць, што калі пад расейскім уплывам ў з л замянялася на л, тады-ж замянілася й ў з в на л, бо абодва аднолькава вымаўляліся. Даль знаў яшчэ досыць пашыранае ў з л у вяціцкім дыялекце. На б. LXII свайго слоўніка ён пісаў, што ў вяціцкіх гаворках "ёсьць нахіл замяняць літару л у канцы дзеясловаў літараю "у" /ходіув/". "в" з л стрэлася і ў памятках старавяціцкае мовы.

8. Захавалася група гн /тягнуть/.

9. Дзеканьне. З усяе вяціцкае тэрыторыі дзеканьне цяпер ёсьць толькі ў Касімаўскім павеце Разаншчыны[141]. Даль /LVI/ адзначае яшчэ гэтую рысу ў Ніжняломаўскім павеце Пензенскай губ. Таксама няма дзеканьня ў вяціцкіх Палехаў Калускае й Арлоўскае губэрняў, дзе яшчэ дагэтуль захавалася беларуская мова, таксама як няма цяпер дзеканьня ў найусходнейшых мясцовасьцях мовы нашчадкаў Крывічан. Адылі ў дзевятнаццатым стагодзьдзі дзеканьне было ў мове Калуска-Арлоўскага Палесься[142]. У Палехаў гэтага Палесься сустракаюцца адно цяпер спарадычныя сьляды дзеканьня: клікал цабе /=цябе/ - ц.с. Полпіна Бранск. п. /Будде. Тула-Орел, 81/, хоц /=хоць/ - Рэдзькіна Мэдынск. п., Карамышава Мэдынск. п. /Дурново. Карта, 31, 32/. Тут-жа бывае, што "д" вымаўляецца надзвычайна мякка /Дурново. Карта, 34/, што йноў сьветча пра былое дзеканьне. З усяго гэтага відаць, што ўперад вяціцкі дыялект знаў дзеканьне на ўсёй тэрыторыі. Пра дзеканьне сьветча таксама пашыранае прыймя зьля з дзьля, а гэта з для.

10. Ладная колькасьць словаў із захавалым зацьвярдзелым р сьветчаць, што ўперад было зацьвярдзелае р[143].

Таксама канчатак мясцовага склону спакменьнікаў на спачатнае р[144], аднолькавы з канчаткам мяккіх асноваў, сьветча пра зацьвярдзелае спачатна р у вяціцкім дыялекце: па зацьвярдзелым р, як і па ўсіх іншых зацьвярдзелых, быў у мясцовым склоне адз. л. канчатак, аднолькавы з канчаткам мяккіх асноваў; а дзеля таго, што ад р зацьвярдзелага ня розьнілася спачатнае р цьвярдое, дык і па ім пашырыўся канчатак мяккіх асноваў.

II. Зацьвярдзеньне ц; білябіяльнае в;

I2. частковае захаваньне групы кв перад ѣ /кветка/;

I3. мяккія канчаткі ў 3 ас. адз. л. дзеясловаў - усе пералічаныя ды іншыя важныя старыя рысы сьветчать пра спрадвечную, яшчэ з праславянскага пэрыяду, вяцікца-беларускую супольнасьць; накш кажучы, яны складалі ў праславянскай мове у пару дыялектычнай дыфэрэнцыяцыі яе адзін дыялект, што й выдзяліўся ў вапрычоную, цяпер званую беларускай або крывіцкай, мову. Зьліцьцё з Балтамі ўнесла ў гэтую мову новую, надта важную рысу - аканьне, ствараючы накшы развой самагукаў ненаціськеных, чымся націськеных, што яшчэ болей апрычыла яе ад усіх славянскіх моваў.

Мноства пасьлейшых рысаў вяцікага дыялекту сьветча пра ягонае даўгое жыцьцё, незалежнае ад расейскае мовы, а супольнае з цэлай беларускай мовай. Пра гэта-ж сьветча і - яшчэ дагэтуль - багатая беларуская лексыка астачы вяцікага дыялекту. Найноўшыя рысы вяцікага дыялекту: а/ канчатак -ым мясцовага склону адз. л. прыметнікаў і прыметнікавых займяў[145]; б/ формы неазначаньнікаў на -эць /-ець/ па шыпячых сугуках[146] /дрiжэть, крiчэть/; в/ канчатак -ы, -і назоўна-прыймальнага склону ніякіх спакменьнікаў[147] /вокны, гусяняты/; г/ формы на -ё зам. на -я nt-асноваў у назоўным і прыймальным склоне адз. л.[148] /дітё/; д/ неперасуненьне націску із спакменьнікаў на прыймі[149] /паставіла пад гару/.

У Аль Кітабе, напісаным беларускай народнай моваю ў XVI стг., і перапісаным у канцы XVI стг., выпадкаў мясцовага склону прыметнікаў і прыметнікавых займяў на -ым стрэлася IO на 40 выпадкаў канчатку -ом. Чатыры іншыя з названых гэтьдзе асаблівасьцяў - форма неазначальніка на -эць па шыпячых, канчатак -ы, -і назоўн. скл. мн. л. ніякіх спакменьнікаў, -ё зам. -я назоўн. скл. адз. л. nt-асноваў /дзіцё/ і неперасуненьне націску із спакменьнікаў на прыймё - ў Аль Кітабе ані ня стрэліся. Гэтыя рысы ўзьніклі не раней за XVII стагодзьдзе. Значыцца, яшчэ ў XVII стг. вяціцкі дыялект разьвіваўся супольна з цэлай беларускай мовай, і яшчэ ў гэтым стагодзьдзі Вяцічы гутарылі пасвойму, пабеларуску. З гэтым згаджаецца палітычная гісторыя Вяцічаў. Заходнявяціцкія землі, што ляжалі паміж Вуграю й Акою, былі захопленыя Масквою /у Вялікага Княства Літоўскага/ у I503 г., паўночная



Тульшчына й паўночна-ўсходняя Калужчына былі забраныя Масквою яшчэ ўперад, а вяціцкае гаспадарства - Вяціцкае Княства Разанскае - існавала да I520 г.; праўда, ад апошняе чверці XV стг. усё болей а болей узаляжнянае Масквою. На пачатку XVII стг., у часе дынастычнага крызісу ў Маскве, Вяцічы вярхоўскіх земляў /ля вышняе Акі/ і былога Разанскага княства адныя зь першых паўсталі ды адлучыліся ад Маскоўскага гаспадарства[150].

Із засталых рысаў вяціцкага дыялекту відаць, што няпраўда Шэрахава, што ў гэтым дыялекце няма рысаў, што разьвіваліся ў беларускай мове за Вялікім Княствам Літоўскім, а таксама няпраўда, што ў вяціцкім дыялекце няма рысаў, што йснуюць у паўдзённай падмове беларускае мовы, але няведамых паўночнай падмове яе. Адныя й другія рысы ёсьць і рэдчас дагэтуль моцна выражаныя. Ёсьць як у разанскіх гаворках, так і ў іншых вяціцкіх гаворках[151].

Шэрах прызнаець, што "база гэтых /вяціцкіх/ гаворак тая самая, што й беларускае мовы, і што яна /база/ была прынесеная із захаду"[152]. Шэрах прызнаець таксама спачатную таесамасьць беларускае й вяціцкае моваў[153].

Шэрах, адылі, у сваёй цытаванай гэтта працы вызначыў надта раньні час русыфікацыі вяціцкага дыялекту, а ўтварэньне беларускае мовы аднёс да надта познага часу, і з гэтае прычыны цьвердзе, што Вяцічы ніколі не гаварылі пабеларуску. Такога Шэрахава становішча да часу ўтварэньня беларускае мовы вымагала ў яго ягоная тэорыя пра спачатную апрычонасьць паўдзённае падмовы беларускае мовы, паўночная частка якое, паводля яго, была асыміляваная Крывічамі, а паўдзённая Падаляна-Галічанамі. Каб даць час на дапушчаную ім узаемную асыміляцыю беларускае поўначы й паўдня, Шэрах мусіў аднесьці утварэньне беларускае мовы да XVI стг. Іншых довадаў на гэта ў яго няма. Гэткім парадкам, час утварэньня беларускае мовы быў падагнаны да тэорыі, або, накш кажучы, да гіпотэзы. Не мае заданьне разглядаць тут Шэрахаву працу. Зацемлю адно, што будучы вартаснай у шмат якіх мясцох і надзвычайна вартаснай у разьвязаньні праблемаў паходжаньня аканьня ды ўзьніку ягоных тыпаў /вялікага й дысыміляцыйнага аканьня/, яна ў галоўнай сваёй тэзе, зн., пра спачатную апрычонасьць паўдзённае беларускае падмовы й зьвязанага Шэрахам зь ёю часу ўтва-

рэньня беларускае мовы, разьмінулася з моўнымі й гістарычнымі фактамі. Я адно пералічу галоўныя заганы Шэрахавае тэорыі. Заявіўшы ў прадмове, што каб усьцерагчыся абстрактнасьці ў лінгвістычнай працы, ён будзе супастаўляць лінгвістычныя дадзеныя зь гістарычнымі, Шэрах запраўды надта мала ўзяў на ўвагу старавечную гісторыю Беларусі. Гэтак, ён зусім ня ўзглядніў апрычонае ад гісторыі суседніх народаў гісторыі беларускіх пляменных гаспадарстваў ад X да пал. XУI стг., а некаторых да пазьнейшага часу /Разанскага да пач. XII стг./ і дачыненьняў Беларусаў гэтага рэрыяду да іхных суседзяў. Некаторыя, узгляднены ім эпізоды зь гісторыі Беларусі ён выясьняе аднабока. Гэтак, у вадным месцы ён кажа: "Гэта ня выпадак, прыкладам, што Менск быў не аднойчы аб'ектам нязгоды паміж Кіевам і Полацкам"/5I/. Можна на гэта зацеміць, што ў такой самай меры, як і сам Полацак, Менск адно эпізадычна належыў да Кіеву, а Смаленск да II25 г., тымжа часам Шэрах прызнаець ягоную спрадвечную беларускасьць. Шэрах не адзначае таго, што ўсе беларускія плямі становка й войстра адлучыліся ад Кіева /а Пскоў ад Ноўгараду/, прыміж таго яны па два й тры разам жылі згодна ў сваіх гаспадарствах.

Праведзеныя Шэрахам межы паміж паўночнай і паўдзённай /начай званай паўдзённа-заходняй/ беларускімі падмовамі патрабуюць вялікіх паправак. Былі-б яны іншыя, калі-б аўтар узгляднеў болей дыялектычных рысаў. Тады межы паміж беларускімі падмовамі зыйшліся-б у яго з пляменнымі межамі. Няправільнасьць межаў, праведзеных паміж падмовамі, заважыла на аўтаравых выснавах.

З агульных рысаў беларускае мовы Шэрах абмінуў зацьвярдзеньне <u>ц</u> і <u>ч</u>, фактычна абмінуў і дзеканьне, заяўляючы, што няма ведама, калі яно ўзьнікла, адклаў на пасьлей разгляд зьмякчэньняў сугукаў перад <u>е</u>. Ён несправядліва не прызнаець паўночнай беларускай падмове спачатнага зацьвярдзеньня "р"[I54], пераходу -ый, -ій у -ы, -і канчатках назоўнага скл. адз. л. мужчынскіх спакменьнікаў /новы, сіні, заміж новый, сіній/[I55].

З рысаў паўночнае падмовы Шэрах абмінуў мену <u>ш</u> і <u>с</u>, <u>ж</u> і <u>з</u>, зблiжаную да мяккіх <u>ш</u>, <u>ж</u> вымову <u>сь</u>, <u>зь</u> ды недаволі ўзгляднiў мену <u>ч</u> і <u>ц</u>.

Варочаючыся да Вяцічаў, зацемлю, што нельга згадзіцца із Шэрахам, што ў часе, калі часткі вяціцкае зямлі /ля вышняе Акі/



належалі да Вялікага Княства Літоўскага, на іхнай мове адбіўся ўплыў, што йшоў ад беларускіх гаворак із захаду /7I/. Такі ўплыў быў немагчымым, бо В.Кн.Літ. мела фэдэрацыйны характар, і належныя да яго вяціцкія землі былі арганізаваныя ў свае "вярхоўскія" княствы. Значаньне прыналежнасьці да Літвы было ня ў уплыве на іх із Захаду, а ў недапушчэньні ў тым часе ўплываў на іх з боку Масквы.

Шэрах уважае, што не адны Вяцічы засялілі сваю зямлю, але зь беларускіх племяў яшчэ й Крывічы ды, апрача таго, зь іншых - Ноўгарадцы /76/ і Суздальцы /8I/. Аргумэнтам яму, што вяціцкая калянізацыя быццам адбывалася ня масава, але індывідуальна, бо Вяцічы, як ён кажа, не дазналі ўдару, які прынучыў-бы іх да масавага руху /74-75/. Адылі, дык-жа было наадварот: пад націскам Немцаў усе беларускія племі перасяліліся із захаду, зь Нямеччыны, на сваю гістарычную бацькаўшчыну[I56]. Другім аргумэнтам, што Вяцічы былі асталым народам. Такі погляд вытварыўся з тае прычыны, што яшчэ ў XII стг. Вяцічы часткава былі паганамі. Адылі, прычына гэтага была ў тым, што яны не дапусьцілі ў сябе пашырэньня хрысьціянства прынукаю. Найноўшыя археалягічныя дасьледаваньні сьветчаць, што Вяцічы былі культурным плямём[I57], роўным культураю іншым беларускім племям, і напэўна былі культурнейшыя за Суздальцаў.

Ізноў такі, Вяцічы ня былі слабым, неэнэргічным плямём, як думае Шэрах /75/. Наадварот, ствараючы прыраўнальна невялікае Разанскае гаспадарства, яны 400 год бараніліся ад Суздалю й Масквы. Вяцічы былі ведамыя ў сучасьнікаў, як народ адважны, дзёрзкі, вельмі энэргічны, заўзяты[I58].

Галоўны аргумэнт Шэраха пра ўсяленьне на вяціцкую зямлю Ноўгарадцаў і Суздальцаў - русыфікацыя вяціцкага дыялекту. Адылі, за даўгім жыцьцём у цэнтралістычным Маскоўскім і /званым пасьлей/ Расейскім гаспадарсьцьве, дзе ўсё сыстэматычна нівэлявалася пад маскоўскі капыл, шчэз сьцяг фінскіх моваў. Дык ці-ж можна дзівіцца, што быў зрусыфікаваны й вяціцкі дыялект, пакінуўшы адылі большы лік сьлядоў свайго б. беларускага характару, чымся фінскія мовы? Археалёгія не знайшла довадаў наўгародзкай ані суздальскай калянізацыі на зямлі Вяцічаў, як і вяціцкай на суздальскай тэрыторыі[I59].

Пачынаючы ад XII стг., у Вяцічаў і Суздальцаў быў такі вялікі антаганізм, ды ня толькі між кіраўнічых сфэраў, але й усяго жыхарства, што не магло быць і мовы пра магчымасьць узаемнага прасяканьня жыхарства. Ноўгарадцы мелі здаўна, ад IX стг., пракладзеную Норманамі дарогу на ўсход, пасьлей Суздальцы мелі добрую магчымасьць пашыраць сваю калянізацыю ўздоўж Волгі. Там былі шырокія, слаба заселеныя прасторы і - што найважней - новыя каляністыя не сустракалі там дужых, варожых і дазнаных у ходаньні зь імі супраціўнікаў. Прыміж таго, вяціцкая зямля была, як на тыя часы, досыць густа заселеная. "У зямлі Вяцічаў і ў заходняй частцы Разанскага княства мы адкрываем цэлы сьцяг местаў: Карачэў, Казельск, Мцэнск. Тулу, Дзедаслаў, Колцеск, Пронск, Елец, Восьцер, Лабынск, Цешылаў і Нерынск; ведамкі пра гэтыя месты ёсьць з XII стг."[160] - але, ведама, яны былі і ўперад. Ведамыя таксама вяціцкія месты "Варацінск, Масальск, Навасіль, Сьвірэльск, Серанск і Упалозы"[161] ды Каломна, Сярпухоў і інш., ня кажучы ўжо пра мнагалюдную сталіцу Вялікага Княства Разанскага - /старую/ Разань. Вяціцкі край "кіпеў жыцьцём і дзейнасьцяй. У ім было мноства местаў, што ляжалі пераважна ля рэкаў, і, значыцца, былі пастаўленыя з гандлёвымі мэтамі; няма сумлеву, што тут праходзіла адна з выдатных дарогаў ад Дняпра да Камскае Баўгарыі, на якую намінаюць арабскія пісьменьнікі /Істахры ды Ідрысы/[162]. Вяцічам самым было цесна ў сваім краі, і яны, нат за татарскаю парою пасоўваліся на паўдня.

Шэрах не кансэквэнтны ў сваёй аргумэнтацыі. Ён добра прызнаець, што ня было руху жыхарства з паўдня, значыцца Украінцаў, на тэрыторыю Беларусі, а таксама, што ня было крывіцкае калянізацыі на прасторы Дрыгвічоў /60/. Дадам, што адна частка Дрыгвічоў уваходзіла ў склад Полацкага княства, дый тыя былі арганізаваныя ў свае асобныя ўдзельныя княствы /Менскае, Лагойскае, Заслаўскае й інш./; зусім малая частка Радзімічаў была ў межах Вялікага Княства Смаленскага; Севяран ані Вяцічаў ня было ў гаспадарствах крывіцкага плямя. За Вялікім Княствам Літоўскім Дрыгвічы з Радзімічамі складалі каля 4/5 "собскае Літвы", а крывіцкія землі - Полацкая, Віцебская, Смаленская - былі аўтаномныя; Пскоў быў пад свайго роду пратэктаратам Літвы. Само Вял.Кн.Літоўскае было гаспадарствам фэдэрацыйнага характару, у ім усе



мясцовыя асаблівасьці былі шанаваныя й няруханыя. У такім гаспадарсьцьве немагчымая была асыміляцыя жыхарства другім, і калі мы бачым Крывічоў, Дрыгвічоў ды іншых у складзе аднаго беларускага народу, дык гэта значыцца, што этнаграфічная блізіня паміж іх была й старавечнымі часамі. На б. 5-ай свае працы Шэрах цытуе з Даўнара-Запольскага гэтую праўду й згаджаецца зь ёю, але на б. 60-61 цьвердзе, што Крывічы асымілявалі Дрыгвічоў.

У супрацьлежнасьць да гэтага Шэрах уважае, што ў Маскоўскім гаспадарсьцьве, дзе быў надзвычайны цэнтралізм і неталеранцыя, асыміляцыя Вяцічаў магла адбыцца толькі ў выпадку ўсяленьня на вяціцкую тэрыторыю Ноўгарадцаў і Суздальцаў. Шэрах, відавочна, не назіраў нацыянальна-культурнага заняпаду паняволенага народу, што страціў сваю нацыянальную сьведамасьць. Людзі такога народу стараюцца пазбыцца свае "простае", "мужыцкае" мовы й пераняць "вышэйшую" мову народу, што над ім пануе. Пры такім палажэньні даволі даць такім людзём магчымасьць навучыцца гэнае "вышэйшае" мовы, каб сваю яны закінулі, забыліся. Такая шырокая магчымасьць была дадзеная Вяцічам у XVIII стг., калі яны сустракаліся з Расейцамі ў войску ды пераймалі ад іх беспасярэдня расейскую народную мову; у тым самым часе ў местах русыфікацыя йшла ад расейскіх урадаў ды расейскае царквы, а ў дваранскіх царкоўных сёлах - ад найперш зрусыфікаванае "служылае" клясы - дваранства. З большай сілаю русыфікацыя йшла далей ды наагул завяршылася ў XIX стг., а цяпер сьляды вяціцкага дыялекту заціраюцца ў калхозах![163]

Пры неталеранцыі ў Расеі вялікую русыфікацыйную ролю адыгралі месты й панскія сёлы. Дык-жа й цяперака мова ў местах і панскіх сёлах захавала шмат меней сьлядоў свае былое беларушчыны, чымся ў сёлах "вольных", што не адбывалі прыгону й ад паноў беспасярэдня не залежылі. Буддэ падчырквае, што вяціцкі дыялект шмат лепей захаваўся "якраз у вольных сёлах і вольных царкоўных сёлах... Нашыя назіраньні й даведкі пра вольныя й вольныя царкоўныя сёлы Разанскае губ., - кажа ён, - пацьвярджаюцца й тым, ведамым самым жыхаром Разанскае губ. фактам, што ў гэткіх сёлах і царкоўных сёлах дагэтуль яшчэ жывуць апрычоныя абычаі, абрады, нат адзежа - вопратка, што ўжо выходзяць з ужытку, або нат выйшлі, у панскіх сёлах, панскіх царкоўных сёлах і мес-

тах Разанскае губ."[164]. Ранейшая за іншыя вяціцкія мясцовасьці русыфікацыя Тульшчыны выясьняецца ня толькі ейным бліжэйшым палажэньнем да Масквы, але ня ў меншай меры й тым, што "траха ўся Тульская губ. - гэта гняздо паноў, у ёй куды радзей сустракаеш скарбовых сялян, чымся ў Разанскай губ."[165].

Нам застаецца разгледзець дачыненьне Крывічоў да Вяціцкае зямлі ды месца вяціцкага дыялекту ў беларускай мове.

Раскопы крывіцкіх курганоў у вышнявінах Вугры й Жыздры нат з XII стг.[166] сьветчаць, што тут было познае ўсяленьне Крывічоў паміж старога мясцовага вяціцкага жыхарства. Тут крывіцкія курганы мяшаюцца з курганамі Вяцічаў. На іншых вяціцкіх прасторах крывіцкія курганы ня знойдзеныя.

Ведамкі праз крывіцка-вяціцкія дачыненьні можам знайсьці і ў мове. Дзеля таго канечна трэба ўзяць увагу на асаблівасьці крывіцкае падмовы, што становіць сабою паўночную падмову беларускае мовы. Найстарэйшыя рысы крывіцкае падмовы - гэта мена ч і ц, ж і з, ш і с ды зьліжаная да мяккіх ж, ш, дж вымова зь, сь, дзь.

Гэтыя рысы - вылучна крывіцкія, у паўдзённай падмове белар. мовы яны сустракаюцца адно там-сям у вадзіночных словах. Навейшыя, супраць папярэдніх, рысы крывіцкае падмовы - гэта дысыміляцыйнае аканьне, канчатак -ць у 3 ас. адз. л. незалежна ад асновы цяперашняга часу і ад націску, форма дзеяпрыслоўяў на -шы /лепшы, дальшы зам. ляпей, далей паўдзённае падмовы/ і - у старой мове - форма есьме I ас. мн. л. Гэтыя рысы не абмяжоўваюцца крывіцкай падмовай, але, з выняткам апошняе, пашыраныя болей-меней і ў сумежных із крывіцкімі гаворках паўдзённае падмовы. Дзеля таго быцьцё гэтых поўных рысаў у гаворках тае або іншае прасторы яшчэ ня сьветча пра крывіцкую калянізацыю там, але нябыцьцё іх паказвае, што Крывічоў там ня было.

Праўдападобна, найстарэйшая й найважнейшая з навейшых рысаў крывіцкае падмовы - гэта дысыміляцыйнасьць у ваканьні /вымова ы, і заміж ненаціськеных а, о, е перад а /я/, але а /я/ перад іншымі самагукамі - кызаў, выда, ныга, зімля, але: кажу, вады, нагі, зямлі/. Ван Війк, адлі канчальна Шэрах, давялі, што спачатна ў цэлай беларускай мове было толькі вялікае аканьне /вымова а/я/ зам. ненаціськеных а, о, е незалежна ад наступнага







самагуку/, адно пасьлей у частцы мовы сталася дысыміляцыя ў ваканьні[167].

Ня можа быць сумлеву, што найперш дысыміляцыйнасьць у ваканьні ўзьнікла ў крывіцкай падмове. Яна абымае ўсе чыста крывіцкія гаворкі[168] й надта моцна выражаная, дарма, што ня лучыўшы да старой і новай беларускай літаратурнай мовы, дазнавала нівэляцыйнага ўплыву як ад беларускай літаратурнай мовы й народных недысыміляцыйна-акаючых гаворак, так і ад мовы расейскай.

Дзеля таго, што спачатна ў цэлай беларускай мове было недысыміляцыйнае аканьне й толькі пасьлей у частцы мовы сталася дысыміляцыя, дык можна было-б думаць, што гэта сталася не адно ў Крывічоў, але і ў некаторых гаворках іншых беларускіх племяў, бо магчымасьць была аднолькавая. Гэтак і ўважае Шэрах. За гэтым прамаўляе таксама тое, што мала ведама такіх гаворак, дзе зусім чыста ня было-б дысыміляцыі, праўда, толькі па мяккіх сугуках. З другога боку, няпраўда Растаргуева, што на Акадэмічнай Канфэрэнцыі дзеля рэформы беларускага правапісу, у Менску ў 1926 г., сказаў: "Дзе-ж на Беларусі можна пачуць "піравярнула?" Такога вымаўленьня няма"[169]. З "Краёвага Слоўніка Чэрвеншчыны" М.Шатэрніка[170] даведваемся, што такая гаворка ёсьць у б. Ігуменскім пав. Апрача таго, зацемка Растаргуева будзе мець меншае значаньне, калі возьмем на ўвагу, што яна датычыць да прыймяў і прэфіксаў, а другое, што дысыміляцыя - звычайна па мяккіх сугуках - у гаворках бяз крывіцкага ўплыву бывае пад уплывам іншых формаў з этымалягічным і. Гэта, ды моц і абсалютнасьць дысыміляцыйнага аканьня ў крывіцкіх гаворках, прынукае думаць, што моцна выражанае дысыміляцыйнае аканьне - рыса вылучна крывіцкая.

Паміж Вугрою й Акою, з прычыны некаторага ўсяленьня сюды Крывічоў, ёсьць дысыміляцыйнае аканьне па цьвярдых сугуках, слабейшае, чымся на крывіцкай тэрыторыі, але ладна мацнейшае, чымся ў гаворках некаторых далейшых вяціцкіх мясцовасьцяў. З тае-ж прычыны ўзьнікла тутака дысыміляцыйнае аканьне па мяккіх сугуках нармальнага, зн. беларускага, тыпу /зам. ненаціськеных а, е па мяккіх сугуках вымаўляецца і толькі перад складам із а /я//; будучы такім парадкам прышчэпленае, яно пашыралася й

на мясцовасьці, далейшыя ад Крывічоў, паўдзёньнейшыя аж да р. Сейму ў Пуцівельскім павеце, дзе ня было крывіцкага ўсяленьня. З гэтае-ж прычыны, але пры меншым усяленьні Крывічоў, ёсьць дысыміляцыйнае аканьне па мяккіх сугуках у паўночна-ўсходніх дрыгвіцкіх мясцовасьцях, сумежных із крывіцкай тэрыторыяй.

Я із сваіх назіраньняў беларускага аканьня пераканаўся, што хаатычная дысыміляцыйнасьць у ваканьні па мяккіх сугуках можа ўзьнікаць усюдых там, дзе зьяўляецца імкненьне вымаўляць е заміж ненацісьненага а /я/ зь е. Даволі такога імкненьня, каб заміж я не пад націскам пачало зьяўляцца і. Я пры сваіх назіраньнях таксама сьцьвердзіў, што калі, пад уплывам формаў з націсьненым о, Беларусы стараюцца вымавіць о заміж а зь ненацісьненага о, дык выходзіць гук у, і адно ў канцы слова можа, паводля аналёгіі, зьяўляцца о, навет на месцы спачатнага а. З гэтага, мне здаецца, вынікае, што дзе аналёгія ня дзее, але ёсьць агульнае, а тым самым слабейшае імкненьне, пад чужым уплывам, вымаўляць о зам. ненацісьненага а з о, дык паўстаець гук нявыразьлівы, слаба рэдукаваны, у запісах абазначаны звычайна праз ъ. Гэткага паходжаньня, памойму, і слабое дысыміляцыйнае аканьне па цьвярдых сугуках у некаторых вяціцкіх гаворках ня з узьмежжа з Крывічамі. За такім выясьненьнем прамаўляе таксама тое, што дысыміляцыйнае аканьне па цьвярдых сугуках знойдзенае ня толькі ў некаторых селавых вяціцкіх гаворках, але ня ў меншай, а мо нат у большай меры ў места /Курск, Шчыгра, Абаянь/, дзе найперш дзеяў уплыў рас. мовы.

Як і ў беларускай мове, у гаворках заходняе часткі вяціцкае тэрыторыі, значыцца сумежных із крывіцкім усяленьнем, стрэліся адзіночныя выпадкі мены ж і з ды зьбліжанай да мяккіх ш,ж вымовы сь, зь. Таксама ў заходнім чарасьле вяціцкае тэрыторыі пануе канчатак -ть у 3 ас. адз. л. незалежна ад націску ды побач із формамі дзеепрыслоўяў на -ей /далей/ ёсьць формы на -шы /дальшы/. Апошнія дзьве формы, як ужо было зацемлена вышэй, пашыраныя ня толькі ў крывіцкай падмове, але і ў сумежных дрыгвіцкіх гаворках /у ўсходнім чарасьле беларускага сярэдняга дыялекту; другая зь іх, таксама як у названым вяціцкім, побач із формамі на -ей/. На іншых прастарах вяціцкае зямлі няма й гэтых рысаў, што пануюць у мове крывіцкіх нашчадкаў, але не ў вадных



іх. Дзеля таго, што гэтых навейшых, неадлучных ад крывіцкае падмовы рысаў, няма у б. Касімаўскім павеце Разаншчыны, дык мены ч і ц, ж і з, ш і с ягоная гаворка заўдзячвае ня Крывічом, але мяшчэрскаму субстрату там. Гэткім парадкам, апрача прасторы паміж Вуграй і Акой, ня было крывіцкай калянізацыі на вяціцкай тэрыторыі.

Нябыцьцё ў вяціцкім дыялекце старых крывіцкіх рысаў /менаў ч і ц, ж і з, ш і с, зьбліжанае да ж, ш мяккіх вымовы зь, сь/, недысыміляцыйнае аканьне па цьвярдых сугуках, з выняткам прасторы крывіцкага ўсяленьня, цяпер блізу на ўсёй вяціцкай тэрыторыі, а спачатна на ўсёй, недысыміляцыйнае аканьне па мяккіх сугуках, цяпер на вялізарнай часьці, а спачатна таксама на ўсёй, формы дзеепрыслоўяў на -ей /болей/ з выняткам заходняе часткі - дзе гэтыя формы ёсьць побач із формамі на -шы, быцьцё заўсёды канчатку -ць у 3 ас. адз. л. толькі ў заходняй частцы, а ў засталай, куды большай частцы канчатак -ць у 3 ас. адз. л. толькі пры націску на самагуку асновы або нат толькі пры націску на і асновы, дыфтангічная вымова націсьненага ѣ /цяпер у частцы гаворак, спачатна ў усіх/, пры націску на аснове аднолькавыя з паўдзённай падмовай беларускае мовы формы а-асноваў у прызначальным і мясцовым склонах адз.л. /рыбя, у хаця/ ды мужчынскіх і ніякіх о-асноваў у мясцовым склоне адз. л. /у леся/, - усё гэта з пэўнасьцяй сьветча, што вяціцкі дыялект належаў да паўдзённае падмовы беларускае мовы. Пачынаючы ад межаў зь беларускай паўночнай падмовай, вяціцкія гаворкі раскладзеныя так, як беларускія на паўдзённы захад ад тае-ж паўночнае падмовы, наймя, чым далей ад паўночнае падмовы, тым болей у іх розных ад яе й супольных міжсобку /у вяціцкіх із паўдзённымі беларускімі/ рысаў. Прычына тая, што з абодвых бакоў паўночнае падмовы маем з гледзішча гістарычнага гаворкі тае самае беларускае паўдзённае падмовы.

## Крывічы

А.Шахматаў, што ў сваіх тэорыях пра паходжаньне беларускага й іншых народаў славянскае мовы на ўсходзе Эўропы[171] не апіраўся на археалёгію ды ня лічыўся зь гісторыяю, а моўныя факты рэдчас выясьняў згодна із наперад высуненай гіпотэзаю, прыйшоў да

 



высснаваў, супярэчных з археалягічнымі й гістарычнымі дадзенымі. Дарма, што ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам у моваведзе, ягоная тэорыя ня прынятая. Зацемлю, што паводля Шахматава, Крывічы былі выцісьненыя із сваіх гістарычных сялібаў, адзначаных у летапісе, Дрыгвічамі, Радзімічамі й Вяцічамі. Археалёгія-ж станоўка сьцьвердзіла, што пра масавае перасяленьне племяў ня можа быць і мовы.

Дзеля згоды археалягічных дадзеных ізь ведамкамі летапісу што да колькасьці й месца расьсяленьня племяў славянскае мовы на ўсходзе Эўропы, цяпер агульна прызнаюць, што гэтыя плямі жылі й засталіся жыць на тых мясцох, дзе іх засьпяець аўтар летапісу; увасобку што да Крывічоў, прызнаюць, што іхнымі прасторамі былі Полаччына зь Віцебшчынаю, Смаленшчына, Пскоўшчына ды вялікая частка Цьвершчыны /паводля летапісу, "Верх Волгі"/.

Летапіс, адылі, мала кажа пра злучэньні племяў у этнаграфічныя групы. Гэтае пытаньне мусіць разьвязаць навука.

У сваёй працы "Расселение древне-русских племен по археологическим данным"[172] Сьпіцын сьцьвердзіў, што ў IX і X стагодзьдзях у Ноўгарадзкай зямлі быў абрад пахову ў сопках - абрад, прынесены Норманамі ды ад іх пераняты й ладна зьменены Ноўгарадцамі /308-311/. У тым самым часе "у зямлі Крывічоў супольныя Крывічом полацкім, смаленскім і пскоўскім курганныя насыпы ў выглядзе валаў, што маюць удаўжкі рэдчас да дзесятка сажняў" /311/.

У смаленскіх Крывічоў выняткам із гэтага агульнага правіла курганы X стг. ля сяла Гнездава, што было месцам старога Смаленску, і ў смаленскіх ваколіцах таго-ж часу. Сюды прыйшлі Норманы й прынесьлі свой абрад пахову - трупаспаленьне ў высокіх купалападобных курганох. "У Смаленску X стг. /Гнездава/ абодва гэтыя абрады пад узаемным уплывам мяняюцца й мяшаюцца як у важных асаблівасьцях, так і ў драбных. Крывіцкія курганы зьмяніліся ў пляскатыя насыпы, розныя ўвелькі, блізу круглае формы, нарманскія - ў купалападобныя насыпы прыраўнальна малое велічыні, із стратаю ў будоўлі шмат якіх ранейшых асаблівасьцяў і з нажыцьцём новых[173]. Ёсьць тут і даўгаватыя курганы, праўда, карацейшыя за такія-ж нармальна-смаленскія[174].

Што да культуры, дык, паводля Сьпіцына, "выясьняецца з поў-



най відавочнасьцяй", што ўсе Крывічы, Ноўгарадцы й Ростаўцы ў IX і пачатку X стг. карыстаюцца спакмянамі люцынска-балцкае культуры, што становіць сабою працяг балцкае культуры ранейшых вякоў - мэмэльскае й яшчэ ранейшае рагінянскае[175]. У Крывічоў гэтая-ж балцкая культура ёсьць цэлае X стагодзьдзе і нат на пачатку XI стг.[176]. У гнездаўскіх курганох X стг. балцкая /люцынская/ культура[177] ёсьць побач із культураю скандынаўскай ды ўсходняй[178].

Дзеля таго, што Балты сталіся складовай часткай беларускага народу, ягоным субстратам, дык балцкая культура была тым самым культураю беларускай. Што-ж да Ноўгарадцаў і Ростаўцаў, дык яна была ў іх прыноснай, чужой; найстарэйшым часам гэта была там культура беларускіх Балтаў, а пасьлей і ў IX-X стг. - культура Беларусаў, як народу балцка-славянскага. Сьпіцын зазначае: "Якога-колечы самастойнага рускага мастацтва ў гэным часе няма й знаку: усё патрэбнае цалкам пераймалі ў народаў з устаноўленымі густамі"[179].

Прыход Норманаў зьнівэляваў да некатарае меры пахоўны абрад і культуру XI стг. Ноўгарадцаў і беларускіх племяў. Што да апошніх, дык найбольшы ўплыў Нормады зрабілі ў Крывічоў, бо Крывічы зь імі найболей стыкаліся. Сьпіцын даець гэткую агульную характарыстыку курганоў і адбітай у іх культуры XI стг.: "Характарыстычныя галаўныя колцы, незнаходжаньне ў насыпах церамкоў /пахоўных зрубаў - Я.С./, а сярод знахадкаў - філігранных караляў, прыраўнальна большая вышыня адзіноча курганы Крывічоў і Ноўгарадцаў у вадну групу й разам із тым розьне іх ад групы паўдзённа-заходняе. Пласты попелу ў насыпах і незнаходжаньне ў подзе вянкоў з каменьня адзіноча курганы смаленскія й полацкія, тымчасам як характарыстычныя падвескі да караляў у смаленскіх, спакмяні латыскае культуры[180] ў полацкіх ды некаторая розьніца ў галаўных колцах кладуць між іх розьніцу, няйстотную, але ўхопную. Ноўгарадзкія курганы розьняцца ад крывіцкіх, як відаць, тым, што ў іх нярэдка раскладаецца пахоўнае вогнішча, а наўкола іхнага поду вельмі часта будуюць вянок із валуноў"[181]. З гэтае характарыстыкі Сьпіцын зрабіў выснаў, што Крывічы былі расейскім плямём.

Што да характарыстыкі, дык трэба зацеміць, што як у смален-

 

скіх, так і ў полацкіх Крывічоў былі галаўныя колцы з рамбічнымі шчыткамі ды галаўныя колцы із завязанымі канцамі, адно з тэй розьніцай, што полацкія былі ценшыя й меншыя[182].

Сьпіцын у сваёй агульнай характарыстыцы ўзяў на ўвагу гэтую розьніцу, але таго, што ў ноўгарадзкіх курганох XI стг. няма галаўных колцаў із завязанымі канцамі, ані галаўных колцаў із рамбічнымі шчыткамі ён на ўвагу ня ўзяў. Ня ўзяў ён на ўвагу й таго, што ў курганох Пецярбурскае губэрні, што таксама належаць да Ноўгарадцаў, як і курганы Ноўгарадзкае губ., ёсьць "рад падвесак у выглядзе жывёлы /качкі, гусі, каня, сабакі/, што пераняты ад якіх-колечы фінскіх племяў"[183]. Нельга ня лічыцца зь імі дзеля таго, што яны фінскія; бясcумлеву яны былі Ноўгарадцам бліжэйшыя, чымся спакмяні, прынесеныя Норманамі. У сваёй характарыстыцы Сьпіцын абмінуў і "ўсходнія рэчы" крывіцкіх курганоў, што, як цяпер ведама, прадстаўлялі новую багатую плынь у беларускай культуры, што паходзіла з Малое Азіі, і, прынесеная да Беларусі, тутператварылася й разьвілася.

Чаго не адцеміў Сьпіцын у сваёй характарыстыцы, таго ён ня ўзяў на ўвагу і ў выснаве. Апрача таго, ён павінен быў узяць на ўвагу не адно XI стг., але й папярэдняе, а нат і наступнае. Ён, відавочна, не палічыўся з тым, што ў тым-жа XI стг. культура полацкіх Крывічоў была пераважна люцынска-балцкая. Незнаходжаньне ў крывіцкіх і ноўгарадзкіх курганох зрубаў залежа ад балцкабеларускага ўплыву, а прыраўнальна большая вышыня адных і другіх - ад уплыву скандынаўскага.

Ужо дзеля гэтага нельга зрабіць выснаву, што Крывічы - расейскае плямя. Апрача таго, ня толькі некаторая блізіня, але нат поўная культурная супольнасьць - гэта ня супольнасьць пляменная. Гэтую ведамую праўду сам Сьпіцын у тэй-жа працы адзначае, а тымчасам зь ёю не палічыўся ў сваім выснаве што да прыналежнасьці Крывічоў. Дык няма дзіва, што ў самым канцы свае працы Сьпіцын мусіў сказаць: "У пытаньні пра тых-жа Беларусаў ёсьць адзін пункт, у якім філялягічныя /зн. Шахматавы - Я.С./ і археалягічныя дасьледаваньні зыйшліся, але прыйшлі да выснаву, дзіўным парадкам супярэчнаму запраўднасьці. Тыя й другія згодна высноўваюць, што Крывічы належаць да паўночнае групы старавечна-рускіх племяў, зн. да Вялікарусаў, тым-жа часам усе



тыя мясцовасьці, дзе археалягічныя раскопы выявілі пашырэньне крывіцкіх /полацкіх і смаленскіх/ курганоў XI стг. цяперака заселеныя не Вялікарусамі, а Беларусамі[184]. У масавае перасяленьне племяў мы ня важымся верыць, а супоўнае перараджэньне аднаго плямя ў другое, на працягу 6-7 стагодзьдзяў, хоць-бы рускага ў рускага, мала праўдападобнае. Выхаду з гэтае дылемы мы ня бачым"[185].

Як відаць, Сьпіцын не абмежыўся сваёй навукаю, але лішне палічыўся із Шахматавам, і дзеля таго прыйшоў да дылемы, зь якое не знайшоў выхаду. Адылі, трэба зразумець і апраўдаць, прынамся часткава, Сьпіцына: у 1899 г. ён яшчэ ня ведаў пра балцкі субстрат у Беларусаў і дзеля таго не ўсьведамляў сабе зьвязанага з гэтым моцнага працяцьця старавечных Беларусаў балцкаю культураю.

Што да іншых аўтараў, дык такія выдатныя навучоныя, як В. Чарнышоў[186], К.Міхальчук[187], М.Грушэўскі й інш. прызнаюць Крывічоў за беларускае плямя.

Пры цяперашнім моцна русыфікацыйным курсе ў СССР, у тым ліку ў гуманістыцы, адныя із савецкіх дасьледаваньнікаў устрымваюцца ад выказаньня свайго пагляду што да Крывічоў, другія, і ў тым ліку аўтары "Истории БССР", - залічаюць іх да Расейцаў.

Галубоўскі ў 1894 г. высунуў пагляд, што спачатна як у Полацку, Смаленску ды ў Пскове, гэтак і ў Ноўгарадзе было тое самае крывіцкае плямя, але пасьлей на беларускай тэрыторыі яны зьліліся з Балтамі й сталіся беларускім плямём, а ля воз. Ільменя іхным субстратам былі Фіны й дзеля таго там утварыўся іншы народ - Ільменскія Славяне, або Ноўгарадцы[188]. Нашымі днямі гэты пагляд падняў Шэрах. Я мушу разгледзець ягоныя аргумэнты. "Магчыма дапусьціць, - кажа ён, - што этнічнае й моўнае апрычэньне ноўгарадзкіх Славян ад Крывічоў сталася /як наменаваў Галубоўскі/, як вынік таго, што ноўгарадзкія Крывічы зьліліся з адным субстратам, прыміж таго Крывічы Пскоўскія, Полацкія й Смаленскія зь іншым... Што славяне Ноўгараду былі Крывічы, выясьнена летапісам. Яны толькі плямя без пляменнага назову. У летапісе чытаем: "И по сеи братьи почаша държати родъ их княжение в Поляхъ, а в Деревляхъ свое а Дреговичи свое, а Словѣне свое в Новѣгородѣ, а дру/г/-е на Полотѣ иже Полочанѣ от сих же

и Кривичи" /Іпацкі летапіс, 8/". На гэтым Шэрах абрывае цытату, але далей беспасярэдня ў летапісе ёсьць "иже сѣдять на верхъ Волги, на верхъ Двины, на верхъ Днѣпра, ихъ же градъ есть Смоленскъ: тудѣ бо сѣдять Кривичи; та же сѣверъ отъ нихъ". "Найпраўдападабнейшае выясьненьне гэтага вынятку, - кажа далей Шэрах, - тое, што Крывічы былі свае ня толькі з Палачанамі, але таксама з Ноўгарадзкімі Славянамі, і дзеля таго два тэрытарыяльныя азначэньні злучаныя ў вадно пляменнае імя"[189]. Калі-б так разумець, дык трэ было-б прызнаць, што й Севяране адно плямя з Ноўгарадзкімі Славенамі й Крывічамі, адылі гэтак яшчэ ніхто не разумеў і ня будзе разумець. Гэты летапісны запіс бяссумлеву трэба разумець у прасторавым сэньсе. Словамі "а другое на Полотѣ" аўтар летапісу хацеў сказаць: "а далейшае княжэньне славянскае /ня Ільменскіх Славян, а славянскае агулам/ было на Палаце". А словамі "та же Сѣверъ отъ нихъ": хацеў сказаць: "таксама далей ад іх сядзіць Север".

Шэрах далей кажа: "Хоць гэта яшчэ адкрытае пытаньне дзеля далейшае дыскусіі, зусім пэўна, што ў гэтым летапісе імя Словѣне ўжываецца йзноў а йзноў не ў пляменным сэньсе, але як агульнае імя ўсім славянскім плямям. Гэтак, мы знаходзім: "Тако же и тѣ же Словѣне, пришедше сѣдоша по Днепру наркошася Поляне, а друзіи Деревляне" /Іпацкі лет. 5/, або "И примучиша Дулѣбы сущая Словѣны" /9/. Дзеля таго нат, калі-б прыведзеная цытата не давала доваду, што ноўгарадзкія Славяне былі Крывічы, адылі-ж, гэта праўдападобна, асабліва дзеля таго, што яны ня мелі апрычонага пляменнага назову"[190].

На гэта такі адказ: аўтар летапісу ўжываў назову "Словѣне" зусім так, як ужываем мы цяперака. Мы гэтым імём "Славяне" завём усіх Славян, і адначасна імямі "Славакі", "Славенцы", што становяць сабою толькі здрабнелыя формы ад "Славяне", завём апрычоныя славянскія народы. Можна заценіць, што тыя славянскія народы, што апынуліся ў ладнай меры ў навакольлі неславян, захавалі свой стары назоў "славяне", бо не патрабавалі, або мала патрабавалі адрозьневаць сябе ад іншых славянскіх народаў.

Уканцы, апошні Шэрахаў аргумэнт, што "з гэтае прычыны таксама тыя ўсходнія Славяне /Палачане й Ноўгарадцы/, што стыкаліся з Латышамі, былі званыя імі Krievs-Krievi /цяперашняе "Ра-



сеец"/"[191]. Арабы спачатна звалі Румам рымскае цэсарства, а пасьлей, калі рымскае гаспадарства ўпала, перанесьлі гэты назоў на ўсю Эўропу, якую й цяпер завуць Румам. Тое-ж і з тае-ж прычыны сталася ў Латышоў із назовам Krievi: калі Беларусы зыйшлі з палітычнае арэны ды іхнае месца занялі Расейцы, дык гэты назоў быў перанесены на Расейцаў.

Балцкі субстрат у беларускіх Славян і фінскі ў Ільменскай частцы Славян, пэўна-ж, мелі вялікае значаньне й што да зьмены іхных моваў, але й да гэтых субстратаў іхныя мовы былі розныя й апрычоныя. Як паказвае прыраўнаньне старых важных рысаў моваў беларускай і ноўгарадзкай[192] да такі-ж рысаў іншых славянскіх моваў, беларуская і ноўгарадзкая мовы апрычыліся кажная не пасьлей за VI стагодзьдзе па Хрысту, зн. із разыходам славянскіх плямёў. Старыя важныя рысы іхных моваў адныя вытварыліся яшчэ ў прасславянскай мове ў пару дыялектычнай дыфэрэнцыяцыі яе, другія тады мелі там свой пачатак у тэй або іншай форме. Кажны згодзіцца, што, апрача аканьня, дыфтонгаў ды колькіх іншых дыялектычных рысаў, усе засталыя старыя рысы разьвіліся ў беларускай мове незалежна ад балцкага субстрату. Дык рознасьць гэных старых рысаў у мовах беларускай і ноўгарадзкай, бяручы свой пачатак яшчэ з пары прасславянскае, сьветча, што гэтыя мовы й іхныя носьбіты - народы былі ўзаемна апрычоныя яшчэ да зьліцьця беларускіх Славян із Балтамі ды ноўгарадзкіх із Фінамі.

Сьпіцын дапушчаў, што Ростаўска-Суздальскую зямлю каланізавалі Ноўгарадцы й Крывічы[193]. Гэта, адылі, не пацьвярджаецца мовою: паўночна-расейская падмова - гэта мова ноўгарадзкая, і ў ёй няма беларускіх рысаў[194].

Як было відаць, на Ноўгарадцаў культурна ўплывалі беларускія Балты, пасьлей /па зьліцьці беларускіх Славян із беларускімі Балтамі/ проста Беларусы, адлі Скандынавы прынесьлі некаторы аднолькавы ўплыў на Ноўгарадцаў і смаленскіх Крывічоў у пахоўным абрадзе й рэчах. З гэтае прычыны рэдчас бывае цяжка адрозьніць, да Крывічоў ці да Ноўгарадцаў належаць курганы. Гэтак, Сьпіцын ня важыўся station... 

"уважнае азнаямленьне зь імі паказвае, што яны бліжэйшыя да смаленскіх"[195]. З гэтае прычыны Сьпіцын памылкова залічыў некаторыя ростаўскія курганы да крывіцкіх.

Рэчы крывіцкага тыпу, знаходжаныя ў ростаўскіх курганох побач із рэчамі ноўгарадзкімі й фінскімі, маглі быць занесеныя гандлёвай дарогаю й культурным уплывам Крывічоў на Ростаўцаў.

Як вынятак, беларускія каляністыя на паўночна-расейскай тэрыторыі былі ля р. Сіці, прытокі Малогі /у Яраслаўскай губ./. Завуць іх Сіцькарамі. "Сіцькары, - кажа Зяленін, - жыхары Ужсіцьця, розьняцца ад іншых жыхараў Яраслаўскае губ. не адно мовою, але й бытам". "Адзежа - вопратка, спосабы, звароты мовы, - усё гэта разам узятае так розьне іх ад іншых, што за 40 і 50 вёрстаў ад месца іхнага жыцьця якга пазнаюць Сіцькара" /Этнографич. Сборник, I, 66/[196]. Дыкжэ і ў мове Сіцькароў захаваліся некаторыя беларускія асаблівасьці - дзеканьне, здваеньне сугукаў і інш.[197].

Шахматаў уважаў Сіцькароў за каляністых старавечных Вяцічаў[198], але мена ч і ц ў сіцькарскай мове паказуе, што гэта былі каляністыя Крывічоў.

Цікава, што й з гледзішча гістарычна-палітычнага Сіцькары былі апрычыўшыся: яны тварылі маленькае ўдзельнае княства Сіцкае[199].

З усіх разгледжаных даных пра Севяран, Вяцічаў і Крывічоў чыста ясна, што гэта былі плямёны беларускія і, знач. усё, што датыкаецца да іх, належа да гісторыі народу беларускага і ягонае бацькаўшчыны.

Скуль прыйшлі Беларусы на сваю гістарычную бацькаўшчыну.

Як вынікае з археалягічных дадзеных, Беларусы, ужо будучы ў васноўным балцка-славянскай сынтэзаю, перасяліліся да сярэдняе Эўропы, скуль пасьлей, пад націскам Немцаў, зьвярнуліся назад да свае бацькаўшчыны. Сьпіцын піша:

> "... Мы ўжо даўно далучыліся да старое неаўтарытэтнае гіпатэзы, што Славяне прыйшлі на Дзьвіну ў прыраўнальна позным часе, зь Нямеччыны. У VIII-IX стагодзьдзях на заходніх Славян напіралі Немцы, Норманы, Авары, і мусілі пакідаць свае сялібы тыя зь іх, што не хацелі йсьці на асыміляцыю зь Немцамі. Галіччына ўжо мела старое славянскае /і не малое/ жыхарства, - і калянізацыя ськіравалася да раёну між літоўскіх азёраў і Палесьсем... Па памятках гэты



> рух адбіваецца ў досыць вялікім ліку ковенскіх і віленскіх курганоў VIII-IX стагодзьдзяў із пазаркімі зялезнымі рэчамі /маё апісаньне гэтае культуры ў Зап.Р.А.О., т. VIII-I, б. 103/. Таму-ж руху трэба прыпісаць вялікі лік групаў курганоў із спаленьнем, Віцебскіх і Пскоўскіх ... /гл. маё апісаньне старавечнасьцяў гэтых губэрняў у Зап. Р.А.О., т. IX-I/. Гэта старавечнасьці паўночнае й сярэдняе Эўропы ... Можна думаць, што ў вадзначаных курганох адбілася адно некаторая частка апісаванага руху... Рух мог ісьці даўгі час, папаўняючы склад славянскага плямя ля Дзьвіны, што выходзіла далёка на поўнач і ўсход. Да некаторае меры магчымы ягоны кірунак і морам. Простая лёгіка прынукае дапушчаць і ранейшы рух Славян на Дзьвіну да VIII стг., але яго пакуль што не прасочваюць па памятках. Апошні болей або меней вялікі рух Славян із захаду - пасяленьні іх ля р. Віндавы, ранейшы - перасяленьне Радзімічаў і Вяцічаў, зь якіх другія асяліліся, хіба з дазволу Хазараў, у іхным краі, сьпярша ля Акі й Дону"[200].

У 1926 г. Сьпіцын у сваім рэфэраце на зьезьдзе дасьледаваньнікаў археалёгіі й археаграфіі цьвердзіў:

> "Тымчасам, калі Украінцы прыйшлі з Карпатаў, Беларусы іншага паходжаньня, заходняга, і перасунуліся на тэрыторыю, якую яны цяпер займаюць, у часы Караля Вялікага. Крывіцкія курганы із захаду цягнуцца ў Віцебскую губ. і Пскоўскую зямлю"[201].

Апрача гэтага, пра прыход Беларусаў із захаду сьветчаць каменныя магілы, званыя накш кістамі. Яны зьмяшчаюць урны з астачамі трупаспаленьня. Каменныя магілы знойдзеныя на Беларусі ў вялізманым раёне. У басэйне Бугу яны знойдзеныя ў ладнай колькасьці[202]. Найбольшая колькасьць каменных магілаў XI стг. дасьледаваная ў мясцовасьці паміж Бугам і Наравам, ля Бугу ў Кастамалатох, Балоткаве, у Пятніцы й Тыкоціне ля Нарава, уздоўж прытокі Нарава Бабра ды ў раёне Нёмна на поўнач ад Горадна /Амнішава, Чарнікаўшчына, Юстынова/.

Усе знойдзеныя рэчы ў гэтых каменных магілах прадстаўляюць тыпы найбліжэйшых дрыгвіцкіх курганоў[203]. У 1903 г. Шукевіч раскапаў у двары Началідзкага пав. цэлы магільнік із кістамі.

Каменныя магілы ў Начы й названыя ля Нёмана ды басэйну Бугу належаць да заходніх тыпаў каменных магілаў. Такі тып ёсьць у нізавінах Віслы, ля р. Водры /Одра/, у Прусах ды інш. Сьпіцын у 1899 г. задаваў сабе пытаньне, ці не належаць гэтыя памяткі старавечнасьці да паўдзённа-заходніх Дрыгвічоў, што "выканалі такую вялікую ролю ў гісторыі ўзьніку літоўскага гаспадарства

/у XIII-XIУ стг./. Гэтае дапушчэньне падмацоўваецца тэй акалічнасьцяй, што ў вышнявінах Нёмна ёсьць шмат аналягічных будоўляю магільнікаў, але ўжо XIII-XIУ стагодзьдзяў, дзе такая "даўнейшая культура была ў даўлі разьвітым выглядзе"; пра гэта, між іншага, сьветча й магільнік із каменнымі магілами ў Зыкаўцах Менскага пав.[204].

Свой пагляд што да належнасьці гэтых каменных магілаў паўдзённа-заходнім Дрыгвічом, але ўжо толькі ў сьцьвярджальнай форме, Сьпіцын паўтарыў на зьезьдзе беларускіх археалёгаў у 1926 годзе[205].

Ля Хаценчыц Вялейскага пав. /у Сьпіцына памылка: "Виленск."/ каменныя магілы знайшоў Пакроўскі[206].

Аднолькавая культура ёсьць у Бабруйскім пав. /гэта знаходзім у Завітневічавых дасьледаваньнях і ў Мышонкавых раскопках каля Любоніч, таксама і ў Новым Быхаве ў Магілеўшчыне[207].

Рэчы, знаходжаныя ў каменных магілах, прадстаўляюць заходнюю зялезную культуру высокай якасьці. Гэтую-ж культуру маем у Віленскіх курганох, што "йдуць спрытна шырокім чараслом ад сярэдняга Нёмна да Дзьвіны ў Віленскай губ. і Ковенскім краі", "ведама звыш 70 групаў гэтых курганоў"[208]. Гэтыя курганы цягнуцца "ўздоўж р. Вяльлі да Вільні ўлучна"[209]. Знаходжаныя ў іх "рэчы блізу вылучна зялезныя, найлепшае заходняе тэхнікі, паводля работы гэта блізу юбілерныя вырабы. Найдалікатнейшай работы спражкі, зашпілкі"[210].

Сьпіцын у сваёй працы "Литовские древности", якую скончыў у 1923 г., ня быў яшчэ зусім пэўны ў належнасьці Віленскіх курганоў да Беларусаў. Ён тут пісаў: "Найпрырадней за ўсё, што яны насыпаныя Славянамі, што прыйшлі із захаду ... Курганы маглі належаць і да Літвы, наймя да Аўкштоты ... але ў такім выпадку зусім незразумела, чаму ў гэтай Ліцьве аказалася культура ані ня літоўская. У "Ўсходніх Прусах ёсьць гэтая зялезная культура, але няма гэтых курганоў! Яна ёсьць таксама ў Пазнані й Даніі, але яе няма ў Швэдыі. У засталым Узбалтыцкім Краі гэткіх рэчаў няма: гэта культура яўна прынесеная"[211]. "Культуру гэтую можна знайсьці ў музэях Бэрліну, Кенігсбэргу. Гэтыя музэі поўныя знахадкамі гэтае культуры"[212].

Але ў 1926 г. Сьпіцын ня меў ужо сумлеваў, што названыя Ві-



ленскія курганы належалі да Беларусаў. Тады ў сваім рэфэраце на зьезьдзе беларускіх археалёгаў у Менску ён, між іншага, казаў пра разгляданыя курганы й знаходжаныя ў іх рэчы: "Зялезныя рэчы: дзіда, сякера, каралі шафіровыя, гранчастыя або круглыя – усё з УIII-IX стг. /Менскі музэй/, знойдзеныя ў шмат якіх курганох Беларусі /знахадкі каля Радашкавіч у Менскім музэі/ – даюць магчымасьць думаць, што тут маем крывіцкую культуру, бо даўгаватыя курганы – крывіцкія, і, такім парадкам, паўстаець пытаньне аб заходнім паходжаньні Крывічоў"[213]. Падобна да Віленскіх курганоў "найстарэйшы пласт знахадкаў гнездаўскага /на месцы старога Смаленску/ магільніку /X стг./ таксама вызначаецца багацьцем пазаркіх вырабаў із зялеза"[214].

Наапошку можна адцеміць, што раскапаныя Макарэнкам северанскія Роменскія магільнікі УIII-IX стг. маюць судзьдзё заходніх тыпаў[215].

Дзеля ўсяго гэтага, калі П'янкоў, аўтар II-IУ і часткі I разьдзелаў "Истории БССР" цьвердзе, што пачынаючы ад У стг. "складалася стараруская народнасьць" /23/ і "ў IX стг." ужо была "суцэльная стараруская народнасьць" /26/, дык ён чыста разьмінаецца зь гістарычнай праўдаю. Як відаць з усяго дагэтуль разгледжанага, Беларусы сваім балцка-славянскім паходжаньнем, сваім прыходам із Захаду, сваёй культураю, спачатна даўгі час балцкай, а потым, ад УIII стг. і найпраўдападабней раней, адначасна зялезнай заходняй, вельмі розьніліся ад усіх суседніх народаў славянскае мовы. Розьніліся й сваёй мовою, славянскай, але апрычонай ды з моцным адбіцьцём у ёй балцкіх рысаў. Зусім чыста ясна, што Беларусы не маглі ўваходзіць у ніякую "старарускую" народнасьць, не маглі тварыць супольнае народнасьці з Ноўгарадцамі й Украінцамі, а расейскае народнасьці да XI стг. яшчэ ня было[216]. Не маглі гэтае "старарускае народнасьці" тварыць і Украінцы з Ноўгарадцамі, хоць-бы ўжо дзеля таго, што Беларусы займалі тэрыторыю паміж іх.

П'янкоў пры сваім імкненьні пераканаць чытача ў старавечным "адзіньсьцьве Русі" трымаецца даўно пакіненай гісторыкамі "штучна створанай кіраўнічай ніткі – вялікакняскай улады"[217]. Ён цьвердзе, што быццам утворанае ў IX стг. "старарускае гаспадарства" із сталіцаю ў Кіеве ў тым-жа і ў X стг. "бязупынку па-

шыраючыся, задзіночыла ўсе ўсходня-славянскія княствы й землі ды некаторыя землі, населеныя неславянамі. Заходня-рускія /зн. беларускія - Я.С./ землі ўжо ў канцы IX стг. былі складовай часткаю Старарускага гаспадарства" /25-26/. Адзіны довад гэтага ў яго тое, што "ў паходзе князя Алега на Бізантыю ў 907 г. сярод ягоных вояў былі Крывічы /Палачане/ і Радзімічы" /26/. "На чале гаспадарства, - кажа П'янкоў, - стаяў вялікі князь, улада якога была спадкаемнай" /34/. Такое быццам адзінае гаспадарства "ўсходніх Славян" і неславян існавала й далей, ажно да татарскага находу, з тэй адно розьніцаю, што ад сьмерці Яраслава Мудрага /1054/ яно было фэўдальна падзеленае /36/.

"История БССР" - гэта блізу адзін суцэльны хвальш. Каб зьбіць усё хвальшывае ў ёй, трэ было-б напісаць кнігу, большую за яе. Дзеля таго я абмежваюся адно галоўнымі мамэнтамі, пры чым найчасьцей, заміж собскіх аргумэнтаў, буду проста паклікацца на выснавы іншых дасьледаваньнікаў, дзеля ашчаджаньня месца. Дык і ў дадзеным выпадку, проста паклічуся на выснавы савецкага-ж гісторыка праф. В.Пархоменкі, што ў сваёй працы "У истоков"[218] тым розьніцца ад аўтараў "Истории БССР", што прыводзе факты й аргумэнты свае й чужыя, бо пісаў ён яшчэ ў 1924 г., калі можна было яшчэ ў СССР прызнаваць гістарычную праўду, абы яна ня была ськіваваная супраць камунізму. Вось некаторыя Пархоменкавы выснавы, што датычаць да разгляданых цьверджаньняў П'янкова.

1. "У пэрыядзе да пал. X стг. у кажнай з названых /трох/ групаў усходняга славянства, парою іхнага яшчэ апрычонага быцьця склаліся свае апрычоныя рысы ў кажнай зь іх і ў галіне пачаткаў гаспадарстваваьсці ... кажная з трох пляменных групаў разьвівала ў сябе розныя пачаткі гаспадарстваваьсці" /66/.

2. Князь Ігра /Игорь/ зьявіўся ў Кіеве ў 944-45 гг. ды быў забіты Дзярвянамі ў 945-46 гг. За гэтым князем, як і за ягоным сынам Сьвятаславам беларускія землі не залежалі ад Кіева /72,92/.

3. На аснове летапіснага расказу й знойдзенага Амэрыканцам Шэхтэрам жыдоўскага дакумэнту Пархоменка давёў, што князя Алега зусім ня было ў Кіеве й што ён быў Іграў сучасьнік /73-76/.

4. Што да ўмовы Алега зь Бізантыяй 907 г., дык Пархоменка зазначае: "Умову 907 г. пакідаем на баку, бо яна дазнала на сабе мацнейшы рэдакцыйны ўплыў з боку летапіснага "сводчика", калі



толькі зусім ня выдуманая ім". А што да ўмовы Алега 911 г., дык Пархоменка прывёў довады, што яна ня была ўмоваю кіеўскага князя зь Бізантыяй /77-78/[219].

5. Дзякуючы прыйму хрысьціянства і ўзмацненьню ў Кіеве бізантыйскага элемэнту, Валадзімер стаўся "ўпяршыню да пэўнае меры "земскім" князем /кіеўскім/, што думаў аб "строи землянем" ... Але, ведама, адгэтуль яшчэ далёка да таго, каб казаць пра стварэньне Валадзімерам суцэльнага рускага гаспадарства, або вялікага кіеўскага гаспадарства, і задзіночаньне ім усіх усходня-славянскіх племяў - гаспадарстваваьсць Русі тады была яшчэ досыць прымітыўная, сьцяг земляў усходняга славянства стаяў яшчэ вонках усякае сувязі зь Кіевам. Сам Кіеў гэным часам быў яшчэ невялічкім горным гарадком /цьвердзяю, "крепостью"/, памеры якога абмежваліся раёнам цяперашняе Дзесяцінная царквы й ейных найбліжэйшых аколіцаў, так што зямля, на якой стаіць Міхайлаўскі манастыр і Сафійскі сабор, была яшчэ "полем вонках гораду" /100/.

6. Зяслаў Полацкі /пам. 1001г./, Імсьціслаў Тмутараканскі /пам. 1036 г./ і Сьвятаслаў Дзераўскі ня былі Валадзімеравымі сынамі, але паходзілі зь мясцовых дынастыяў /у Полацку з дынастыі Рагвалодавічаў/ /105-106/.

7. Розныя факты, а таксама "натужнае ходаньне Яраслава за Ноўгарад і Кіеў, заняць які яму канчальна ўдалося адно каля 1036-37 гг., пасьля чаго толькі ён атрымаў магчымасьць "закласьці горад вялікі Кіеў", зн. пачаць шырэйшыя будаваньні ды ўмацаваньне яго, - усе гэтыя дадзеныя прамаўляюць супраць магчымасьці прыняць тэзу пра задзіночаньне Валадзімерам і Яраславам усходнеславянскіх племяў у вадно вялікае гаспадарства. У згодзе з гэтым і Яраслаў, паміраючы, садзе сваіх сыноў далёка ня ў усіх усходня-славянскіх племяў, а ў мясцах, найбліжэйшых да Кіева: Зяслава - у Кіеве, Сьвятаслава - у Чарнігаве, Усевалада - у Пераяславе, Ігру - у Валадзімеры Валынскім ды Вячаслава - у Смаленску. Названыя месты - гэта раён басэйну сярэдняга й вышняга Дняпра, да якога можна яшчэ дадаць Ноўгарад, дзе да сьмерці свае ў 1052 г. сядзеў большы Яраславаў сын Валадзімер. Гэткім парадкам, бачым, што ... Яраслаў, што ўсё жыцьцё сваё правёў у ходаньні за дарогу "з Вараг у Грэкі", і сыном сваім пе-

радаў абарону гэтае дарогі й назіраньне за ёй - і толькі"/107/.

Гэткім парадкам, Полацкая зямля ўвесь час заставалася незалежнай. Радзімічы былі заваяваныя Валадзімерам у 984 г.[220]. Магчыма, што ў блізкім часе пасьля гэтага Валадзімерам-жа былі заваяваныя Смаленскія Крывічы. Адныя й другія, адылі, былі вызваленыя ў 1024 г., дзякуючы перамозе Імсьціслава Тмутараканскага над Яраславам[221]. Але, па сьмерці Імсьціслава ў 1036 г., яны, відавочна, былі ўзалежненыя ад Кіева разам із Севершчынаю. Пскоў залежаў ад Ноўгараду ад 1037 г. /год перамогі Яраслава над пскоўскім князем Судзіславам і ўвязьненьня яго/. Ад северскага князя Сьвятаслава /з 1054 г./ Вялікае Княства Северскае, куды, апрача Севяран, уваходзіла вялізарная бальшыня Радзімічаў ды Вяцічы /пасьлей усходняя частка Вяцічаў складала Княства Разанскае/, увесь час заставалася незалежным. У 1125г. сталася незалежным ды адразу дужым Вялікае Княства Смаленскае[222], у 1136 г. вывальнілася ад Ноўгараду Пскоўская рэспубліка[223], у 1157 г. сталася незалежным Тураўска-Пінскае княства[224]. Гэткім парадкам толькі меншая частка беларускіх земляў была некаторы час у шырокім, казаў той, фэўдальна-фэдэрацыйным задзіночаньні з украінскім Кіевам. А з Ростаўска-Суздальскай зямлёй, як звалася найстарэйшым часам бацькаўшчына Расейцаў, ніводная частка беларускае зямлі ня была разам.

П'янкоў кажа, што, пачынаючы ад XI стг. "народныя сходы /зн. веча - Я.С./ пакінулі йснаваць" /34/. Відавочна, так разьмінуцца з праўдаю аўтар мусіў дзеля таго, каб не прыпамінаць прыкладу спакусьлівага, таталітарна паняволенаму беларускаму народу. Прыміж таго, уладаю ў Пскове было веча, дзе ўсе былі роўныя, "чорныя людзі мелі аднолькавае права з баярамі, купцамі й духавенствам"[225]. Пскоўскае веча разьвілося "сваеасаблівa ды далёка пакінула за сабою ноўгарадзкае што да развою свае ўлады"[226].

Таксама і ў Полаччыне "грамадзкая аснова дасягла вельмі высокае ступені развою, выдаліўшы блізу зусім чыста князскую ўладу". "Веча, казаў той, зьлілося із самай прыродаю Палачан і складала істотны бок іхнага палітычнага быцьця". У Полацкім вечы брала ўдзел усё жыхарства[227]. Веча Смаленскае зямлі мела заканадаўную ўладу, якой яно дзялілася з князем. "Смаленскае веча скла-



далася з усіх грамадзян, людзёў вячшых і чорных"[228].

Пра значаньне веча й дэмакратычны лад наагул у Вяцічаў сьведча, між іншага, тое, што ў "Старой Разані ня ўзьнікла падзелу места на арыстакратычную й дэмакратычную часткі"[229]. Гісторык Северскае зямлі кажа, што ў ёй "антаганізму паміж князем і вечам няма, бо княжа свая любая княская галіна; прэтэндэнтаў зь іншых земляў блізу ніколі ня бывае"[230]. Багалей, сьцьвярджаючы, што ў Ноўгарадзкай зямлі завалодала веча, у Ростаўска-Суздальскай зямлі князю ўдалося зламаць веча й дружыну, у Галіччыне пераважнае значаньне здабыло баярства, кажа: "Зусім іншы характар мае Северская зямля: у ёй ніводзін із трох названых элемэнтаў не атрымаў пераважнага значаньня"[231]. Веча было і ў Ноўгарадзе, але там яно мела накшы характар, чымся ў беларускіх землях.

Дзеля ўсяго гэтага праўда М.Уладзімірскага-Буданава, аўтарытэта расейскага права, што Беларусы - рэспубліканцы.

Дзеля прапаганды супраць незалежніцкіх імкненьняў беларускага народу П'янкоў кажа, што толькі фэўдалы імкнуліся да апрычэньня беларускіх княстваў, а ў шырокіх народных масах жыла сьведамасьць адзінства Русі /б.40, 49/. Прыміж таго, як мы бачылі, у вадных беларускіх гаспадарствах да веча належала ўся ўлада, у другіх бяз згоды веча князі не маглі рабіць ніякіх важных пастановаў. Веча-ж складалася з усяго жыхарства, і фэўдалы складалі ў ім малюсенькі працэнт. І якраз перш-наперш веча імкнулася да апрычэньня свае зямлі й абароны незалежнасьці яе. Я прывяду колькі прыкладаў гэтага.

Кіеўскія князі задзіночылі свае сілы й падступілі да Менску. Князя Ўсяслава гэтым часам ня было ў месьце. Але дарма! Жыхары Менску зачыніліся ў месьце й пастанавілі бараніцца да апошняга. "Гэтая зьява тым цікавейшая й значэнная, што становіць характарыстычную рысу гісторыі Полацкае зямлі"[232]. "Адно пры падтрыманьні веча Полацкае зямлі Ўсяслаў мог весьці вайну на працягу паўстагодзьдзя"[233].

Калі, па сьмерці северскага князя Сьвятаслава Яраславіча, Усевалад хацеў захапіць Северскую зямлю сабе, дык северскае жыхарства супрацівілася гэтаму ўсялякімі спосабамі, трымаючыся й бароначы Сьвятаславічаў. Калі зараз па бацькавай сьмерці Алег

прыйшоў да Северскае зямлі, яго прынялі там бязь ніякага супраціву. Але калі Ўсевалад із войскам прыйшоў здабываць сабе назад Чарнігаў, Чарнігаўцы зачыніліся, хочучы валей цярпець аблогу і ўсялякія нягоды, чымся паддацца яму. Усевалад спаліў места, народ схаваўся ў замак і далей бараніўся, хоць Алега ня было. Калі-ж, шчакаўшы звыш дзесятка год, паспрабаваў засесьці ў Чарнігаве Манамах /Усеваладаў сын/, дык дачыненьне да яго жыхарства, відавочна, было варожае, бо ён мусіў капітуляваць перад Алегам. Па двух гадох, калі Манамах ішоў язноў паходам на Алега, апошні зачыніўся ў Старадубе, жыхары якога 33 дні вытрымалі аблогу, бароначыся ад Манамаха. "Гэтыя факты, гэтыя цяжкія дазнаньні жыхарства ... ясна паказваюць імкненьні гэташных грамадаў. Відавочна, зямля імкнулася канечна затрымаць у сябе дынастыю Сьвятаславічаў і сваю апрычонасьць пад кіраўніцтвам яе".[234]

Імкненьне Тураўска-Пінскае зямлі да незалежнасьці выявілася з надзвычайнаю сілай ды ўжыцьцёвілася ў 1157 г., калі тураўска-пінскім князем стаўся Юры Яраславіч, унук Сьвятаполка II. Тураўска-Пінскае княства было тады ўдзелам княства Кіеўскага. Вялікі князь кіеўскі Зяслаў Давідавіч абяцаў Тураў Манамахаваму ўнуку Валадзімеру Імсьціславічу, "жадаючы прыцягнуць на свой бок дужых Манамахавічаў",[235] і дзеля таго, зыбраўшы войска, пайшоў выгнаць Юр'я Яраславіча. Вось як апісвае гэтае здарэньне Грушэўскі:

> "Зь вельмі ладнымі сіламі падступіў ён /Зяслаў/ пад Тураў ... Аблога трывала дзесяць тыдняў і скончылася на нічым: коні пачалі здыхаць у Зяслававым войску, і ён, не замірыўшыся зь Юр'ем, адыйшоў. Два гады пасьлей Юр'ю давялося вытрымаць новы напад: Імсьціславічы із сынамі Андрэя Валадзіміравіча аблажылі яго ў Тураве. Але й гэтым разам хаўрусьнікі прастаялі два з палавінаю тыдні пад Туравам ды зьвярнуліся зь нічым. На гэтым справа й скончылася. Налета /1161/ Расьціслаў прыняў Юр'я "ў любоў", і той хадзіў разам із Расьціслававым ды Вольгавічавым палком адбіраць Слуцк ад Валадзімера Імсьціславіча: значыцца ён абараніў здабытую ім пазыцыю ў палітычнай сыстэме таго часу, і яна была прызнаная ў княскім сьвеце.
> Здабываючы гэтую пазыцыю й бароначы яе, Юр'я, відавочна, абапіраўся на спагаду тураўскага жыхарства. Князь невялічкі, ён ніколі ня мог-бы собскімі сіламі адбіць такія цяжкія напады. Калі Тураўляне цярпелі даўгую аблогу, спусташэньне аколіцаў, руіны ўсяе зямлі, а не выдавалі Юр'я, ня прымусілі выйсьці зь места, паддацца, як гэта часта бывала, але "билися крѣпко" за яго, - дык, відавочна, іхная прывязанасьць да свайго "вотчыча", іхная станаўкосьць здабыць сабе асобную дынастыю й адлучыцца, была надта вялікая".236



Яшчэ мацней падчырквае гэтае імкненьне Тураўска-Пінскае зямлі да незалежнасьці Д.Запольскі[237].

Добра ведамы й антаганізм паміж Псковічамі й Ноўгарадцамі, асабліва да вызваленьня Пскова ад Ноўгараду ў 1136 г., у шмат меншай меры пасьля вывальненьня. Нікіцкі, ня ведаючы пра этнічную апрычонасьць Псковічаў ад Ноўгарадцаў, піша: "Хоць ходаньне прыгарадаў супраць пераваги старэйшага места не складае вылучнае асаблівасьці аднае ноўгарадзкае гісторыі ... усё-ж ткі ні ў рэшце Русі, ні нат у собскай Ноўгарадзкай зямлі ходаньне гэтае нідзе не адзначалася такой консэквэнцыяй і скончанасьцяй, нідзе не вяло дзеля гэтага да такое своеасаблівае плыні гістарычнага жыцьця, як у Пскове... Дзеля таго не адно ў сьцягу ноўгарадзкіх дзяржаваў, але навет і ў сьцягу старарускіх земляў, Пскоў прадстаўляе адну з найцікавейшых зьяваў, дарма, што ягоная зямля невялічкая"[238].

Асабліва Пскоў быў супраць Ноўгараду тады, калі ў вапошнім княжылі князі з роду суздальскіх князёў[239].

Калі Вяцічы ў сваім калянізацыйным руху стрэліся із Суздальцамі, паміж іх пачаліся заўзятыя войны[240]. У біцьве ля Калакшы 1177 г. Разанцы /Вяцічы Вялікага Княства Разанскага/ былі пераможаныя Суздальцамі, і шмат якія з Разанцаў разам із іхным князем Глебам Расьціславічам лучылі ў палон. Тады жыхары Ўладзіміра ля Клязьмы, абурыўшыся на быццам лагоднае абыходжаньне ростаўска-суздальскага князя Усевалада з палоннымі, узьнялі навет бунт. Усевалад пасуліў Глебу звольніць яго за адступку гэтым Каломны. Глеб не згадзіўся. Таго-ж году Глеб памёр у цямніцы. Із словаў летапісу можна зразумець, што ён быў забіты[241].

Гісторыя Вялікага Княства Разанскага - гэта галоўна заўсёднае ходаньне із Суздальцамі[242].

Паміж беларускімі гаспадарствамі выяўлялася салідарнасьць. Прывяду колькі прыкладаў.

У часе вайны Валадзімера Манамаха й Сьвятаполка Зяславіча з Вольгам Сьвятаславічам за Севершчыну, Смаляне неўспадзеўкі ў

1095 г. прыймаюць да сябе Давіда Сьвятаславіча, Вольгавага брата. Абапіраючыся на Смалян, Давід адкрыта стае ў варожыя дачыненьні да Сьвятаполка й Валдзімера Манамаха. Гэтым самым часам Смаляне даюць Вольгу Сьвятаславічу сваё народнае войска, зь якім ён ваюе ў Мурамскай зямлі ды разьбівае Манамахавага сына Зяслава[243].

У Пскове ад 1136 г. /першы год незалежнага быцьця Пскова/ да 1140 г. княжылі Ўсевалад і Сьвятаполк Імсьціславічы /Манамахавы ўнукі/, а па 1140 годзе ўвесь час былі князі з роду смаленскіх Расьціславічаў.

Як ужо было зазначана, Разанскае княства ўвесь час было ў варожых дачыненьнях із Ростаўска-Суздальскім княствам, але тымжа самым часам было ў прыязьні, а часта і ў хаўрусе, із княствам Смаленскім. "У 1155 г. разанскія князі робяць із смаленскім князем Расьціславам умову, паводля якое абяцаюць яму паслухмянасьць як бацьку[244].

Ды выяўлялася ня толькі салідарнасьць, але й імкненьне да ўсебеларускага гаспадарствавага задзіночаньня. У Палачан гэта проста кідаецца ў вочы, асабліва імкненьне да задзіночаньня гаспадарстваў /племенна/ крывіцкіх. Дзеля гэтага звыш сту год Полаччына вядзець частыя войны з Ноўгарадам, каб вывальніць ад яго пскоўскіх Крывічоў[245].

Беларускія гаспадарствы ані ў сваіх ваенных, ані ў іншых прадпрыёмствах не адзіночыліся з Ростаўска-Суздальскім княствам. Ёсьць адно два наступныя выняткі. У 1147 г., калі Зяслаў Імсьціславіч /Манамахаў унук/ заняў кіеўскі пасад, а чарнігаўскія Давідавічы з мэтаю завалодаць удзелам Вольгавічаў далучыліся да яго, Сьвятаслаў Вольгавіч, шукаючы хаўрусьнікаў супраць Зяслава, зьвярнуўся з пасуленьнем хаўрусу да Юр'і Даўгарукага Суздальскага. /У гэтай вайне Разанскае княства было супраць Суздаля/. Другі вынятак, калі Раман Расьціслaвіч Смаленскі за памогу Андрэя Багалюбскага ў ноўгарадзкіх справах Расьціславічаў[246] далучыўся да паходу суздальскага князя на Кіеў у 1169 г. Калі-ж Андрэй пачаў выказваць свае дэспатычныя імкненьні да Расьціславічаў, тыя выступілі супраць яго, і ён быў разьбіты.

У пагроме Кіева Андрэем Багалюбскім у 1169 г. Разанцы ня бралі ўдзелу.



Наадварот, беларускія гаспадарствы ваююць із Ростаўска-Суздальскім княствам. Гэтак, у 1147 г. робе паход у Ростаўска-Суздальскую зямлю Расьціслаў Смаленскі[247], у 1181 г. адбываецца паход на Суздаль Сьвятаслава Ўсеваладавіча Чарнігаўскага[248]. У 1207 г., у часе паходу Ўсевалада Суздальскага да Кіева супраць Усевалада Вольгавіча Чэрмнага, Разанцы выступаюць супраць суздальскага князя[249]. У 1216 г. Імсьціслаў Удалы на чале Смалян і Ноўгарадцаў чыста разьбівае Суздальцаў у сярэдзіне іхнага краю[250].

Прычыну незаваяваньня Беларусі Татарамі ў 1237-1242 гг. П'янкоў выясьняе тым, што "татарска-мангольскі наход галоўна ўдарыў на паўночна-ўсходнія й паўдзённыя землі Русі", якія й аслабілі татарскую сілу /55/. Пры гэтым, аўтар кажа:

> "Гэта мела сусьветна-гістарычнае значаньне. У Татара-Манголаў была адабраная магчымасьць спустошыць і паняволіць паўночна-заходнія землі Русі ды краі Заходняе Эўропы. Рускі народ, такім парадкам, уратаваў славянскія народы й краі Захаду ад татарска-мангольскага находу" /55/.

Гэткім парадкам, выходзе, што заслуга ня тых, што перамаглі Татараў і затрымалі іх на сваім адрэзку, але тых, што былі пераможаныя, пусьцілі Татараў далей, адлі самі ім памагалі. Пасьля таго, як Татары былі адбітыя Беларусамі перад Смаленскам, яны заваявалі Ўкраіну. З Украіны галоўныя іхныя сілы пайшлі да Вугоршчыны, аддзел-жа, што складаў каля пятае часткі татарскага войска, сьціраваўся на Польшчу[251]. Польшча тады перажывала кароткі пэрыяд свайго ўзмацненьня й ладнага задзіночаньня. Апрача малога княства Сандамерскага, дзе княжыў Баляслаў, ды Мазоўша з Куявамі, дзе князем быў Конрад Мазавецкі, усе асталыя польскія землі тварылі Вялікае Княства Польскае із сталіцаю ў Кракаве; на чале яго стаяў здольны гаспадар Гэнрык Пабожны. Татарскі аддзел спустошыў Сандамерскую зямлю, Малапольшчу і ўварваўся на Сьлёнзк, усюды перамагаючы Палякаў. Галоўная бітва адбылася ля Лігніцы. Тут было галоўнае польскае войска на чале з Гэнрыкам Пабожным і памога Палякам із замежжа, у тым ліку некаторая ад рыцарскіх ордэнаў. Татары й тут перамаглі, але, замiж ісьці далей, павярнулі на паўдня да свае галоўнае арміі ў Вугоршчыне. На Маравах ля Алямуца гэты татарскі аддзел быў разьбіты чэскім войскам, а галоўныя татарскія сілы перама-

 



глі Вугорцаў і занялі Вугоршчыну. З гэтага відаць, што ня толькі перад вайною зь Беларусамі, але й пасьля гэтага Татары ня надта былі аслабленыя. Відаць гэта і з таго, што татарскае ярмо прызнала Ноўгарадзкая рэспубліка, дарма што Татары зь ёю не ваявалі й яе не занялі; праўда, прызнаць гэтае ярмо памог Ноўгарадцам Аляксандра Неўскі, якога так выхваляе П'янкоў. Пад "аслабленымі" Татарамі Маскоўскае княства было 240 год, дарма, што яно, дзякуючы памозе Татараў, як свайму шчодраму даньніку, было шмат дужэйшае, чымся ў 1237-1242 гг., а Татары слабейшыя.

Гэткім парадкам, ня было такога старарускага гаспадарства, куды ўваходзіла-б Беларусь; аднак, было старарускае гаспадарства, складзенае з украінскіх этнаграфічных земляў. Да гэтага гаспадарства належыла Ростаўска-Суздальская зямля ў канцы XI і пачатку XII стг., зн. пакуль там із мясцовага фінскага жыхарства й ноўгарадзкіх калянiстых не ўтварыўся новы народ Суздальцы, цяпер званыя Расейцамі або Вялікарусамі. З палітычнага й грамадзкага гледзішча гісторыя беларускага народу ад X-XIII стг. была апрычонай і накшай, чымся гісторыя суседніх народаў, у гэтым ліку ўкраінскага й ноўгарадзкага /Ільменскіх Славен/, ды супрацьлежнай гісторыі Ростаўска-Суздальскае зямлі.

<u>Назоў "Русь", "Руская зямля"</u>.

Супраць таго, што чытаем у "Истории БССР", назоў "Русь" ня быў ані нацыянальным, ані палітычным назовам беларускага народу й ягонае бацькаўшчыны. У вузейшым сэньсе ў XI-XII стагодзьдзях Русяю звалася Палянская зямля - трыкутнік паміж Дняпром і ягонымі правымі прытокамі Ірпенем і Росяй[252]. Прыкл.: "...Он пошел к брату /Усеваладу Вольгавічу, вял. кн. кіеўскаму/ в Русь з Стародуба /северскага/"[253]. Зн. "Рускім імём розьняцца кіеўскія князі ад чарнігаўскіх: "И приидe ту вся земля половецькая и вси их князи, а из Киева князь Мстислав со всею силою, Володимер Рюрикович с Черниговци, и вси князи рустии и вси князи черниговски" /Траецкі летапіс, б. 217, пад 1223 г./[254]. "Изяслав /князь кіеўскі/ да /ў 1148 г./ дары Ростиславу /князю Смаленскаму/ что от Рускыи земле, а Ростислав да дары Изяславу, что от Верхних земль"[255]. Пасьлей назоў "Русь" пашырыўся ў вузейшым, зн. нацыянальным, значаньні на ўсю Украіну. Але ў найшырэйшым,



рэдка ўжываным сэньсе ўсе землі, дзе гаспадарствавалі нарманска-рускія князі, былі "Рускай зямлёю". У гэтым сэньсе й чыста фінскія землі зваліся "рускімі".

<u>Культура Беларусі</u>

Аўтары "Истории БССР" цьвердзяць, што да ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага Беларусы мелі культуру, супольную з Украінцамі й Суздальцамі /49/. Пагледзем, ці так было? Мы бачылі вышэй, што гэным часам у Беларусі яшчэ трывала да некаторае меры старая балцкая культура. Адначасна з каля VII стг., а праўдападобна й раней, пашырылася высокая зялезная культура, прынесеная Беларусамі з Захаду. Незалежна ад прыходу Беларусаў із Захаду, геаграфічнае палажэньне Беларусі спрыяла пашырэньню ў ёй заходняе культуры. Гісторык Ігнатоўскі высьвяе варожасьць паміж княствам Тураўскім і Украінаю ня толькі тым, што "ў часе Рагвалода /X стг./ Тураўская воласьць належала да Полацку", але й тым, што "заходнія ўплывы былі магчымы як у Тураве, так і ўва ўсёй Полаччыне, дзякуючы такім рэкам, як Дзьвіна, Нёман і Прыпяць /да гэтага трэ' дадаць: і Вялікая - Я.С./. Гэтыя заходнія ўплывы рабілі Тураў тыповай воласьцяй Полаччыны. Што да Кіеўшчыны, дык яна мела яўна выразны, чыста бізантыцкі ... кірунак"[256]. З усяго відаць, што Беларусь уваходзіла ў сфэру заходняе цывілізацыі.

Усё гэта, адылі, не перашкаджала таму, што, побач із заходняй культураю ад X-га стагодзьдзя, пашыраецца ў Беларусі вышэйшая за заходнюю культура Закаўказьзя. Была гэтая культура некаторымператварэньнем сырыйскай культуры ў Грузіі й Арменіі з даданьнем да яе ў архітэктуры антычнае арнамэнтацыі.

Разглядаючы археалягічную літаратуру з гледзішча значаньня яе для гісторыі беларускага мастацтва да XI стг., Шчакаціхіна кажа, што ў ёй паказаная "вялізная роля, якую адыгралі для старажечнай беларускай тэрыторыі ейныя гандлёвыя сувязі з Усходам /аўтар мае наўвазе Закаўказьзе й Малую Азію/, адзначана быцьцё ў беларускіх археалягічных знахадках сьцягу ўсходніх спакмянёў ды іхных мясцовыхператварэньняў, асьветленыя некаторыя іншыя крыніцы культурных /у тым ліку, ведама, і мастацкіх/ уплываў з боку скандынаўскіх і рымскіх старавечнасьцяў ды канчальна даве-

 

дзена блізу супоўнае нябыцьцё адпаведных уплываў з боку Бізанты"[257].

З пашырэньнем хрысьціянства ў беларускіх княствах Беларусы пераймаюць із Закаўказьзя таксама й стыль каменнай царкоўнай архітэктуры. Прамежным вязьмам было Тмутараканскае княства ля Керчанскае пратокі. Яно межавала з грузінскай епархіяй ля р.Кубані, а магчыма, што гэтая епархія абыймала й Тмутаракань.[258] Сувязі з Тмутараканяй былі гандлёвыя й дынастычныя. Імсьціслаў, першы земскі князь Северскага княства, куды ўваходзілі таксама Радзімічы й Вяцічы ўлучна з Разаняй, быў адначасна князем тмутараканскім. Таксама Алег Сьвятаславіч быў тмутараканскім князем.

Каменнае дойлідзтва Чарнігава, Смаленску, Разані, Віцебску, Полацку, Горадна генэтычна зьвязанае з каменным дойлідзтвам Грузіі й Арменіі[259].

У сувязі з гэтым Монгайт зазначае, што Кіеў прывыклі ўважаць за адзіны цэнтр пашырэньня хрысьціянства й прынесенай ім вышэйшай культуры сярод Славян Усходу Эўропы, адылі, Тмутаракань магла быць другім такім цэнтрам "да Кіева, або, у кажным выпадку, незалежна ад Кіева"[260].

Заходнія ўплывы прасякалі да некаторае меры й да каменнае архітэктуры беларускіх цэркваў[261].

Пераняты каўкаска-сырыйскі стыль каменнае царкоўнае архітэктуры ў Беларусі разьвіўся своеасабліва й дзеля таго ня толькі быў накшы ад стыляў кіеўскага, ноўгарадзкага й суздальскага, але й стаўся накшы ад свайго спачатнага ўзору. "Ужо пры найзьвярхнейшым аглядзе верху /полацкае Спасаўска-Еўфрасінеўскае/ царквы можна зацеміць зусім выразна, што ў дадзеным выпадку мы бачым перад сабою якіясь чыста іншыя спосабы, чымся тыя, што звычайна сустракаюцца ў сьцягу славянска-бізантыцкіх царкоўных будынкаў XI-XII стг."[262].

"Барысаглебская й Спасаўская цэрквы ў Полацку - гэта памяткі, што ў сваёй кампазыцыі выяўляюць рысы новага разуменьня канструкцыйных заданьняў, у сувязі з новай канцэпцыяй будаваньня. Быцьцё іх на аднэй тэрыторыі далёка ня выпадковае, і ўсе тыя фармальныя элемэнты, што ўзрушаюць іхную асноўную супольнасьць /прыкл. форма апрацаваньня лапатак/ сьветчаць толькі пра выдатную творскую ініцыятыву будаўнічых у працэсе мадыфікацыі"[263].







У іншым месцы гэты аўтар цьвердзе, што гэткае "глыбака арыгінальнаеператварэньне" пачалося ў Полацкай зямлі на самым пачатку ейнае гісторыі"[264].

Адцемлю, што беларускі стыль дойлідзтва, між іншага, адзначаўся: а/ панаваньнем арнамэнтызму ў фрэсках, тымчасам як у фрэсках Кіева й Ноўгараду "чыста арнамэнтальныя матывы мелі вельмі абмежаванае месца ў вагульнай схэме малярскіх аздобаў"[265] б/ геамэтрызмам аздобаў[266] і в/ нябыцьцём суровай панурасьці ў сьвятынях, характэрнай для бізантыцкай архітэктуры, а, наадварот, сьвятлінёй і жыцьцярадасьцяй[267].

Як наагул беларуская культура гэтаю парою, так і беларуская царкоўная архітэктура ў васобнасьці адзначаюцца вялікай суцэльнасьцяй, а ў некаторых выпадках сьвятыні нат далёкіх ад сябе мясцовасьцяў бываюць проста аднолькавыя[268].

Дык няпраўда "Истор. БССР", што "старавечная архітэктура Віцебску, Полацку, Горадна сьветча пра непарыўную сувязь яе із старавечна-рускай архітэктураю" /62/, як няпраўда й тое, што /беларускае/ "малярства, як і архітэктура, захавала кіеўскія традыцыі" /63/.

Некаторыя практыкі беларускага царкоўнага дойлідзтва былі пасьлей пераняты да Ноўгараду й там разьвіліся ў такі тып будынкаў, як цэрквы сьв. Хведара Страцілата, Перамяненьня Спаса ды сьв. Пётры й Паўлы[269]. У сярэдзіне XII стг. у Смаленску вырабіўся той тып царкоўнага будынку, што пасьлей, у канцы XII стг., стаўся ведамы ў Уладзімеры Суздальскім, дзе няведамыя стадыі архітэктурнага развою ў сэньсе апрацаваньня фасадаў, аналягічныя смаленскім. Зн. "Смаленская будаўніцтва XII стг. трэба ўважаць за папярэдніка ўладзімерска-суздальскай будаўніцкай традыцыі"[270], накш кажучы, уладзімерска-суздальскае будаўніцтва было перанятае із Смаленску.

Адзначу яшчэ колькі найважнейшых мамэнтаў зь гісторыі культурнага жыцьця беларускага народу разгляданаю парою. Як было зацемлена вышэй, Беларусы - дэмакраты й рэспубліканцы, прыміж таго ў Украінцаў пануе прынцып арыстакратычны, а Расейцы адзначаюцца дэспатычным характарам. З прычыны беларускага дэмакратызму, у Беларусі хрысьціянская вера пашыралася бяз прынукі да

й пасьля агульнага прыйма хрысьціянства ў канцы X стг.[271]. Дарма, што хрысьціянства пашыралася ў Разанскай зямлі ўжо ў X стг., нат у самай сталіцы княства Разані да XII стг. побач із хрысьціянскімі сьвятынямі была паганская[272]. Таксама Палачане ня прынукалі хрысьціцца належных да Полацкага гаспадарства Латышоў і Ліваў, але пашыралі сярод іх хрысьціянства пераканаиньнем, ды дасьпешна, пра што сьветчаць беларускія рэлігійныя тэрміны ў латыскай мове[273].

Дык-жа, побач із рэспубліканізмам і дэмакратызмам наагул, рэлігійная свабода - характарыстычная рыса беларускага народу. Прыміж таго, у Ростаўска-Суздальскай зямлі рэлігійнае талеранцыі ня было; усе Расейцы мусілі там хрысьціцца. Розьніцы былі і ў самой праваслаўнай царкве. У Беларусі біскупаў абіраў мітрапаліт разам із саборам біскупаў, а ў Суздальшчыне біскупаў абіраў князь[274].

Аўтары "Истории БССР" цьвердзяць - як заўсёды галаслоўна - што Беларусы разгляданаю парой мелі з Украінцамі, Ноўгарадцамі й Суздальцамі адно права /49/. "У сваёй судовай дзейнасьці князі й княская дружына карысталіся "Рускай Праўдай" /50/. Прыміж таго, С.Барысёнак абсалютна пераканальна давёў, што ў беларускіх землях заміж Рускае Праўды было сваё права, і яно было супольным правам беларускіх земляў[275].

Дык няпраўда П'янкова, што "гістарычны развой заходніх земляў /гэтак ён завець Беларусь - Я.С./ у XI стг. праходзіў у найцясьнейшай сувязі з развоем іншых частак Русі" /37/. У XI і наступных стагодзьдзях, як з палітычнага й грамадзкага гледзішча, так і з гледзішча культурнага развой Беларусі йшоў іншай ды накшай дарогаю, чымся развой іншых суседніх земляў, асабліва вялікая розьніца была ад зямлі Ростаўска-Суздальскай.

## Беларусы ў сваім задзіночаным гаспадарсьцьве /ад пал. XIII да канца XVIII стг./

"История БССР" - гэта ня гісторыя Беларусі ня толькі дзеля таго, што яна абыймае адно частку Беларусі - штучна выкраеную Беларускую ССР, але яшчэ болей дзеля таго, што яна становіць сабою перанос гісторыі Расеі на частку беларускае этнаграфічнае й гістарычнае тэрыторыі. Аўтары "Истории БССР" задаліся мэтаю не



паказаць гістарычны працэс беларускага народу, але схаваць яго, замяніць працэсам чужым, працэсам народу расейскага. Дзеля таго й далей, як і дагэтуль, я мушу высьняць, як запраўды было ў гісторыі Беларусі.

## Нацыянальны характар гаспадарствавасьці Вялікага Княства Літоўскага.

Аўтары "Истории БССР" пішуць, што Вялікае Княства Літоўскае было лятувіскае, а не беларускае гаспадарства /б. 55, 57 і інш./. Цяжка здагадацца, на чым яны абапіраюцца ў сваіх пагля-дах, бо ніякіх аргумэнтаў на гэта ня прыводзяць. Найпраўдападабней справа тут не ў аргумэнтах, а ў заданьні - паказаць, быццам адно ў Расеі, і асабліва ў СССР, беларускі народ стаўся свабодны.

Людзём, што недаволі знаюць гісторыю беларускага народу, можа, праўда, здавацца, што назоў Вял. Кн. Літоўскага й балцкія імі першых яго гаспадароў сьветчаць пра лятувіскасьць гэтага гаспадарства. Тым-жа часам, у першай палавіне XIII стг., калі толькі зараджалася Вял. Кн. Літоўскае, назоў "Літва" быў тэрытарыяльным назовам, ім зваўся трыкутнік, вяршыняю якога быў уток Вяльлі ў Нёман, бакамі - абедзьве гэтыя ракі, а асноваю - таксама Нёман. Жыхарства гэтае прасторы было ў бальшыні беларускае. З двух галоўных племяў - Жамойці й Аўкштоты, зь якіх складаецца цяперашняя Лятува, - адно чверць другога, што жыла ў названым трыкутніку ды межавала зь Беларусамі па лініі, якая праходзіць блізка мястэчка Мерач і р. Мерачанкі, звалася Літвою. Тры чверці засталай Аўкштоты Літвою ня зваліся[276], а Жамойць ня звалася Літвою траха да канца XIX стг. У пары Вял. Кн. Літоўскага і пасьлей, блізу да канца XIX стг., Беларусы зваліся Літвой, Ліцьвінамі. У некаторых мясцовасьцях Беларусы завуцца Літвою дагэтуль. А што да балцкіх імяў першых князёў, дык ці-ж так гэта няпрыродна ў народу балцка-славянскага паходжаньня, як Беларусы?

Пра беларускасьць В.Кн. Літоўскага ад самага пачатку яго можна прывесьці наступныя довады. Гэрб В.Кн. Літоўскага беларускага паходжаньня, ён здаўна мае беларускі назоў "Пагоня". Гаспадарствавай моваю В.Кн. Літоўскага была толькі мова бела-

руская. Таксама назовы адміністрацыйныя й фіскальныя ў ім былі беларускія, а гэта сьветча, што яшчэ ў працэсе свае арганізацыі гэтае гаспадарства было беларускае. Кодэкс Праваў В. Княства, Статут Літоўскі, зьмяшчае ў васнове й бальшыні правы беларускага паходжаньня, часткава звычаёвыя, а часткава пісьмова зафіксаваныя ўперад. Навука дагэтуль ня сьцьвердзіла ўплыву лятувіскага права на Статут Літоўскі[277]. Пра беларускасьць В.Кн.Літоўскага сьветча таксама тое, што Беларусы, стоячы культурна вышэй за Лятувісаў і будучы нацыянальна сьведамыя, увесь час уважалі яго за сваё нацыянальнае гаспадарства. Таксама й палітыка ўраду Вялікага Княства ўжыцьцяўляла нацыянальныя імкненьні беларускага народу[278].

Апрача паданых довадаў, беларускасьць гаспадарствавасьці В.Кн.Літоўскага відаць із таго, што беларускія землі складалі каля 4/5 "собскае Літвы", зн. асноўнага ядра В.Кн.Літоўскага[279]. Наймацнейшыя замкі, пастаўленыя ў XIII-XIУ стагодзьдзях дзеля абароны ад крыжакоў на шырокім беларускім узьмежжы з Аўкштотаю - у Троках, Вільні, Медніках, Крэве, Лідзе, Навагрудку, знач. там, дзе яны маглі бараніць толькі беларускае жыхарства - таксама сьветчаць пра беларускасьць гістарычнае Літвы.

П'янкоў цьвердзіць, што лятувіскія /"литовские"/ князі дзеля таго маглі заваяваць беларускія /"западно-русские"/ землі, што апошнія не маглі дастаць памогі ад заваяванай Татарамі Масхоўшчыны /57/. Адылі, і без маскоўскае памогі Беларусы здолелі абараніцца ад Татараў, што былі шмат дужэйшыя за Аўкштота-Жмудзіноў[280].

Задзіночаньне беларускіх земляў у вадным сваім гаспадарсьцьве - В.Кн.Літоўскім адбылося так, што беларускія землі самахоць далучаліся да гэнага ядра, собскае Літвы, адно дзе-ня-дзе супраціўляліся князі мясцовых дынастыяў[281]. Прычыны задзіночаньня былі ў усьведамленьні ўсімі беларускімі племямі свае агульнабеларускае супольнасьці й нацыянальнай салідарнасьці, што вынікае адгэтуль[282]. Другой прычынаю быў аднолькавы гаспадарствавы лад усіх беларускіх княстваў, наймя - народапраўства. Наапошку, у "XIII і XIУ стг. мноства акалічнасьцяў вымагала ад іх /беларускіх земляў/ палітычнага задзіночаньня, супольнага жыцьця, сумеснай дзейнасьці. З усіх бакоў напіраюць на беларускія землі







варагі. З паўдня йшло паняволеньне й пустошаньне ад Татараў; з паўночнага захаду напіралі нямецкія рыцары... у XIУ стг. пачало напіраць маладое Польскае каралеўства...; а з усходу пайшлі крыўды й пустошаньні ад Маскоўскага Княства, што ўсё мацнела"[283].

Зн., "літоўскія фэўдалы" не заваявалі Беларусі, дык і не маглі яны панаваць над Беларусамі, пра што пішуць аўтары "Истории БССР" /58-6I і інш./.

Супраць галаслоўных цьверджаньняў "Истории БССР" /II7/, Вялікае Княства Літоўскае ня страціла свае незалежнасьці й Крэўскай вуніяй I386 г., ані Люблінскай вуніяй I569 г.[284]. Дзеля таго няпраўда П'янкова, аўтара III-га разьдзелу "Истории БССР", што "Па Крэўскай вуніі ў Літоўскім гаспадарсьцьве пачалі быць гаспадарамі польскія фэўдалы" /60/. Гэтага ня было, пра гэта няма ніякіх гістарычных сьветчаньняў. Люблінскай вуніяй Палякі адабралі ад Беларусі ня ўсё Падляшша, як цьвердзе Абэцэдарскі, аўтар УI разьдзелу "Истории БССР" /II7/, бо Берасьцейскі павет і бальшыня Белападляскага засталіся ў беларускім гаспадарсьцьве[285].

Галоўны Соймік, што ўтварыўся ў Вял. Кн. Літоўскім па Люблінскай вуніі й што на яго зьяжджаліся паслы, абраныя на паветавых сойміках, замяніў ранейшы Вялікі Сойм. На Галоўным Сойміку прыймалі ўсе пастановы, што датычылі Вялікага Княства й што ад іх ягоныя паслы ня сьмелі адступаць на супольным сойме з Палякамі. Такім парадкам, Сойм Вялікага Княства Літоўскага фактычна ня быў зьліквідаваны[286], як гэта цьвердзе той-жа аўтар /тамсама/.

Таксама няпраўда, што "ўсе законы, якія закраналі ў тэй ці іншай меры інтарэсы польскіх паноў, адмяняліся", што "ўрадавыя асобы павінны былі прысягаць "кароне польскай", што "польскія фэўдалы" "дасталі права нажываць землі ў Княсьцьве Літоўскім", што караль раздаваў беларускія землі "польскім магнатам і шляхце" ды што ў Беларусі "пачалі быць гаспадарамі таксама й польскія паны" /усё на II7 б./. Нічагусенькі падобнага ня было. У Вял. Кн. Літоўскім дзеяла права, што забараняла чужніком, пад якімі разумеліся й Палякі, займаць сьвецкія й духоўныя ўрады ды нажываць зямлю[287]. Права гэтае строга датрымвалася, на што

ёсьць мноства сьветчаньняў. Калі з пачатку ХУІ стг. у Вял. Кн. Літоўскім утварылася прафэсіянальная адвакатура, дык Палякі, як і іншыя чужаземцы, ня мелі права быць у ім адвакатамі[288]. Як у сваім незалежным гаспадарсьцьве, Беларусы не патрабавалі выслужавацца Палякам. Гэтае цьверджаньне Абэцэдарскага /II7/ чыста разьмінаецца з праўдаю.

Але праўда, што прызначаньне на вышэйшыя ўрады й даваньне ў дзяржаньне земляў рабіліся ад імя вялікага князя /у Абэцэдарскага "караля", тамсама/. Таксама і ўсе законы, правы і ўсе пастановы, загады, што мелі гаспадарстваае значаньне, выдаваліся ад імя вялікага князя, "гаспадара", як гэта й цяпер робіцца ў Вялікабрытаніі /ад імя караля/, але "Гаспадар Вялікі Князь" ня быў дэспат, як маскоўскія князі й цары, а быў зьвязаны правам ды выконваў пастановы беларускіх соймаў і ўраду. "Гаспадар" толькі ўвасабляў гаспадарства.

П'янкоў, аўтар III разьдзелу "Истории БССР", кажа, што ў Грунвальдзкай біцьве "беларускія, украінскія й расейскія палкі былі ў цэнтры" /80/. На наступнай балоне ён і Беларусаў ды Украінцаў, паводля расейскага спосабу, абярнуў ужо ў Расейцаў, кажучы: "Грунвальдзкая бітва мела вялікае гістарычнае значаньне. Дзякуючы гэраізму й трываласьці расейскіх палкоў, далейшая агрэсія нямецкіх фэўдалаў на славянскія й літоўскія землі была запыненая". Прыміж таго, у Грунвальдзкай біцьве ня было ніякіх Расейцаў, як ня было ані лапіны расейскае тэрыторыі ў Вял. Кн. Літоўскім /гл. вышэй пад "Тэрыторыя Беларусі"/. Да гэтага можна яшчэ дадаць, што й наагул Расейцы ніколі не памагалі Беларусам у іхных войнах.

Той самы П'янкоў кажа: "Землі Ростаўска-Суздальская, Ноўгарадзкая й Смаленская засталі назоў Вялікай Русі ... а заходнія землі Русі /пачалі звацца/ - Белай Русяй" /6I/. Прыміж таго, ня толькі Смаленшчына ня звалася Вялікай Русяй, але й ня звалася ніякай Русяй /гл. вышэй пад "Назоў "Русь", "Руская зямля"/. Гэта прызнаюць і тыя расейскія гісторыкі, што шануюць навуку. Гэтак, прыкладам, Салаўёў піша: "... зробленая была змова, з памогай якое Жыгімонт Старадубскі напаў неўспадзеўкі на Сьвідрыгайлу ... але Русь /значыцца, Маларосія/, Смаленск і Віцебск засталіся верныя Сьвідрыгайлу"[289]. Парою асобных беларускіх гас-



падарстваў Смаленшчына звалася або Крывічамі, або Смаленскаю зямлёю, а за Вялікім Княствам Літоўскім і ладна пасьлей, часткава дагэтуль - Літвою, як і іншыя беларускія землі[290].

Аўтары "Истории БССР" кажуць: /у Ліцьве/ "усе гаспадарствавыя акты пісалі рускай моваю" /П'янкоў, 65/; "у пісьменсьцьве Княства Літоўскага ўжывалі т.зв. "русского языка", у якім лучыліся элемэнты ўсіх трох усходнеславянскіх моваў, што тады складаліся, пры ладнай перавазе беларускіх элемэнтаў" /Перцаў, 93/; /Скарына/ "з паходжаньня Беларус, ён "руский" зваў сваім "прыродженным" языком і сваю любасьць да Русі выводзіў "найболее с той причины, иже мя милостивый Бог з того языка /русского/ на свет пустил" /Перцаў, I02/[29I].

Такога эспэранта "з трох усходнеславянскіх моваў" ня было за Вял. Кн. Літоўскім. Гэта цяпер толькі зь дзьвюх моваў - беларускай і расейскай - ствараюць яго расейскія бальшавікі ў Беларусі. Беларуская мова йснуе прынамся ад УІ стг. /гл. вышэй/. Ад пачатку ХУ стг. была ўжо беларуская літаратурная мова. У першай палавіне пятнаццатага стагодзьдзя гэтай моваю пішуць мастацкія творы; ужо ў гэным стагодзьдзі ў ёй ёсьць багатая літаратура[292]. Гаспадарстваай моваю Вял. Кн. Літоўскага была звычайная беларуская літаратурная мова таго часу. У ёй ня было аніякіх уплываў мовы расейскае.

Хоць нацыянальным назовам беларускага народу быў назоў "Літва, Ліцьвіны", мову сваю даўнейшыя Беларусы звалі "рускай" /небеларусы звалі яе звычайна "літоўскай", маскоўцы заўсёды звалі "літоўскай" і адно пасьлей, але не раней за ХУІІ стг., пачалі зваць і беларускай/. Званьне беларускае мовы "рускай" сталася з тае прычыны, што агульнае прыймо хрысьціянства ў Беларусі адбылося пасярэдніцтвам Кіева, Русі. З гэтае прычыны хрысьціянства ўсходняга абраду /праваслаўныя й вуніяцкія цэрквы/ было ведамае ў Беларусі пад назовам "рускай" /радзей "грэцкай"/ веры, а хрысьціян усходняга абраду звалі Русяй, Русінамі /радзей Грэкамі/. Разам із "рускай верою" прыйшло "рускае пісьмо", "рускія кнігі"; дзеля таго й мову гэных кнігаў Беларусы пачалі зваць рускай, дарма, што яна была спачатку царкоўна-славянскай, а пасьлей і беларускай. З мовы кніжнае назоў "рускі" быў перанесены й на беларускую народную мову. Зн., у Беларусаў было так,

як у старавечным Рыме, дзе народ зваўся Рымляне, а мова ягоная лацінскай, як ёсьць у Гішпанцаў, што сябе завуць Гішпанцамі, а сваю мову кастыльскай, і як ёсьць у Амэрыканцаў ды некаторых іншых народаў. Так і Скарына і іншыя пад "Русяй" разумелі Беларусаў усходняга абраду, а пад "рускай" моваю - беларускую мову; пра Расейцаў і расейскую мову яны й ня думалі.

Нельга вінаваціць М.Грынблята, аўтара IX разьдзелу "Истории БССР", за тое, што ён ведамага друкара XVI стг., Івана Федаровіча /накш Фёдарава/ завець Расейцам /185-186/, бо да нядаўна яго й іншыя ўважалі за Расейца, але дзеля праўды трэба адцеміць, што, паходзячы з Гостуні Ліхвінскага пав. /ля р. Акі ў Арлоўшчыне/, Федаровіч быў Беларус Маскоўскага гаспадарства. Гэтым таксама выясьняюцца Федаровічавы ўцёкі да Беларусі ды не без памогі Гарабурды, беларускага пасла ў Маскве[293].

Гэтта адзначу адну драбную памылку таго-ж аўтара. Ён кажа, што ведамая друкарня беларускага віленскага праваслаўнага брацтва Сьв. Духа была ў Іўі /186/. Іўе - гэта мястэчка ў даўнейшым Ашмянскім павеце /паміж апошніх дзьвюх войнаў яно належала да Лідзкага пав./, а названая друкарня была ў Еўі, беларускім мястэчку Троцкага пав. /40-45 км. на паўночны захад ад Вільні, паміж дзьвюх апошніх войнаў Еўе належала да Лятувіскага гаспадарства/.

П'янкоў кажа: "Моўную й культурную супольнасьць усіх усходнеславянскіх земляў пераканальна пацьвярджаюць геаграфічныя назовы. Шмат якія із старавечных геаграфічных назоваў на тэрыторыі Беларусі таесамыя із старавечнымі геаграфічнымі назовамі ў іншых землях Русі /Наваградак, Тураў, Гарадок, Княжыцы, Сула, Узьмень, Лукомль і шмат якія іншыя"/ /23/. Гэтая прапаганда супольнасьці "ўсіх усходнеславянскіх земляў" разьлічаная на людзёў, што не разьбіраюцца ў мовах. Беларускія геаграфічныя назовы ня ў большай меры аднолькавыя або падобныя да геаграфічных назоваў расейскіх і ўкраінскіх, чымся да геаграфічных назоваў іншых народаў славянскае мовы. Выясьняецца гэта сваяцтвам славянскіх моваў, як такая-ж зьява, прыкладам, у сьвеце германскім - сваяцтвам моваў германскіх. У Беларусі няма такіх геаграфічных назоваў фінскага паходжаньня, як Масква, Кастрама, Суздаль, Ільмень ды шмат іншых падобных, але, заміж іх, ёсьць назовы балцкага паходжаньня, як Полата, Полацак, Пліса, Вуша, Клева, Шчара, Вудра, Арэса, Мітва, Сяргут, Жыздра й моства іншых. Няма на расейскай і ўкраінскай прасторы такіх назоваў, як Крывічы, Крэва, Крыўск. Немагчымыя ў Расейцаў і Украінцаў такія геаграфічныя назовы, як беларускія на -шыцы, -чыцы, -жыцы - Докшыцы, Хаценчыцы, Лельчыцы, Акінчыцы, Княжыцы і шмат іншых /"Княжыцы" П'янкоў не ўсьцярогся й прывёў у ліку сямёх назоваў/. Немагчымыя ў Расейцаў такія назовы, як беларускія "Заслаўе", "Амсьціслаў" заміж "Изяславль", "Мстиславль". Немагчымыя там і такія, як беларускія "Усьвят", "Ушчыж" і пад. Няма й немагчымыя ў Расеі такія назовы, як беларускія на -няты - Маркняняты, Сеньканяты, Сычаняты, Піліпяняты й пад. Няма там і пашыранасьці назоваў на -ічы, як беларускія Баранавічы, Радашкавічы, Алёхнавічы, Міцькавічы, Клімавічы й інш.



Характар беларускага народу застаецца ў гэтым пэрыядзе той самы, што быў датуль. Таксама й гістарычны ўсебаковы развой ягоны цяперака становіць сабою буйны працяг развою папярэдняга. Псыхалягічны тып Беларусі і ў гэтым пэрыядзе вельмі розьніцца ад тыпу ноўгарадзкага, а яшчэ болей ад тыпу суздальска-маскоўскага[294]. Прычыну гэтага мусім бачыць у розьніцы паходжаньня - балцка-славянскага ў Беларусаў, фінска-славянскага ў Ноўгарадцаў і ледзь ня чыста фінскага ў Суздаль-Маскоўцаў або Расейцаў /бо мусім згадзіцца з тым, што Суздальцы - гэта аславянізаваныя фінска-славянскімі Ноўгарадцамі Фіны з малым прыдаткам славяншчыны ад тых-жа Ноўгарадцаў/. Адлі прычынаю розьніцы ў тыпе мусіў быць дагэнулешні розны культурны працэс у трох названых народаў, рознае навакольле ды ў некаторай меры рознасьць прыроды. Розьніца ў характары беларускага жыхарства ад расейскага выяўляецца ў стылі летапісаў[295], у стылі казаняў духоўных асобаў,[296] у характары тэстамэнтаў сучасьнікаў[297] ды інш. Характар жыхарства выяўляўся і на вайне: Суздала-Маскоўцы не адзначаліся ваенным духам, у чыстым полі біліся слаба, але быццам моцна бараніліся з-за сьценаў гарадоў, прыміж таго Беларусы /у гэтым ліку й Разанцы/ былі імклівыя ў нападах[298].

Задзіночанае беларускае гаспадарства, якім было Вялікае Кн. Літоўскае, пераняло з пары асобных беларускіх гаспадарстваў жыхарства із старымі вялікімі й культурнымі мескімі асяродкамі,

із здаўна выробленым сваім грамадзка-палітычным вечавым ладам. Вонкавую палітыку ў вадных землях таксама кіраваў сам народ праз веча, у другіх у вонкавых дачыненьнях веча мела станаўкі голас. З такім народам мусілі лічыцца дый лічыліся князі.

Вялікае Княства Літоўскае – гэта

"гаспадарства станавое, эўрапейскага тыпу таго часу, ведама, з мадыфікацыямі, абумоўленымі гістарычнымі асаблівасьцямі ягонага развою. Яно ўладжанае "прыкладам а спосабам вольных гаспадарстваў хрысьціянскіх". На чале яго стаіць манарх, вялікі князь, што дастае сваю ўладу адно з прызнаньня народу Вялікага Княства Літоўскага. "Усіх князёў а паноў-рад, як духоўных, так і сьвецкіх, і ўсіх ураднікаў, земскіх а дворных, паноў харугоўных, шляхту і ўсіх людзей пасталітых у Вялікім Княсьцьве Літоўскім і ў усіх землях таго гаспадарства вялікі князь абавязаны захаваць пры свабодах а вольнасьцях хрысьціянскіх, у каторых яны, як людзі вольныя, вольна абіраючы із старадаўна, зь вечных сваіх продкаў, сабе паноў, а гаспадароў вялікіх князёў Літоўскіх, жылі а справавалі прыкладам а спосабам вольных гаспадарстваў хрысьціянскіх".299

Зусім ня тое было ў Суздальшчыне. Тут толькі адно места Растаў мела некаторыя традыцыі народапраўства, прынесеныя з Ноўгараду. Іншыя месты закладалі й насялялі князі ды ўважалі іх за сваю прыватную собскасьць. Жыхарства іхнае безь гістарычнае традыцыі й собскае грамадзкае арганізацыі не магло, дый ня думала, даваць князю які-колечы адпор[300].

"Калі ўнікнем у сьветчаньне летапісу пра розьніцы старых і новых местаў, пра перамогу апошніх над адзіным першым на поўначы, калі ўнікнем у тую супрацьлежнасьць і варожасьць, што выявілася пасьлей паміж местамі паўночна-ўсходняй ды местамі заходняй Русі, калі ўнікнем у быт заходня-рускіх /зн. беларускіх – Я.С./ местаў парою літоўскага панаваньня, быт, што яўна меў сьляды старавечнасьці й быў непадобны да быту местаў паўночна-ўсходніх: дык, ведама, ня будзем сумлявацца прызнаць гэтай розьніцы важны ўплыў на быт паўночна-ўсходняй, а потым на быт Расеі наагул".301

Дык няпраўда Перцава, што была цяга беларускіх местаў "да эканамічнага й палітычнага збліжэньня з расейскім народам" /I02/. Як бачым, гэтага не магло быць і ня было.

Дзеля гэткіх абставінаў у Суздальшчыне, пасьлей у Маскве, пачынаючы ад Андрэя Багалюбскага, узгадаваліся гаспадары /князі, цары, імпэратары/ – дэспаты, што ўважалі гаспадарства за



сваю прыватную собскасьць[302]. Некаторыя зь іх, як Іван Грозны, Пётра I, Мікола I, даводзілі дэспатызм і тэрор да пункту, здавалася-б немагчымага.

Вось якія былі дачыненьні паміж суздальскіх князёў і народу. Што да жыхарства "мескага й селавога, дык месты паўночна-ўсходняй Русі ў вапісваным часе /ад I228 г. да I462 г./ выглядаюць із накшым значаньнем, чымся якое мы бачылі ў местаў старавечнае паўдзённа-заходняй Русі. Усобіцы паміж князёў бываюць і далей, але месты не бяруць у іх удзелу як уперад, іхнага голасу ня чуваць; ніводзін князь ня зьбірае веча дзеля паведамленьня мескага люду пра вайну або пра якую іншую важную справу, ніводзін князь не ўмаўляецца ні пра што зь месьцічамі. За Уладзімір ваююць князі – Пераяслаўскі, Гарадзецкі, Маскоўскі й Цьверскі, але прыхільнасьць Уладзімірцаў да таго або другога супарата ніколі не кладзецца на вагу дзеля разьвязаньня супярэчкі, як некалі прыхільнасьць Кіяўлян; цэнячы важнасьць Уладзіміра й ягонае зямлі, ходаючыся за іх, князі, адылі, перастаюць жыць у сталічным месьце бацькоў, застаюцца ў сваіх апрычнінах; гэтая акалічнасьць павінна была-б даць Уладзімірцам большую незалежнасьць пры выяве сваё прыхільнасьці на карысьць таго або іншага супарата, але нічагусенькі падобнага ня бачым. Пачынаецца ўсобіца ў Маскоўскім княсьцьве паміж дзядзьвам і братанічам; адзін выганяе другога з Масквы, як калісь ізь Кіева, але пра голас Масквічоў ані слова, ані слова пра тое, каб князі-супараты прыслухаліся да гэтых галасоў, пыталіся ў яго; гавораць пра змову шмат каго з Масквічоў, баяраў, госьцяў і манахаў на карысьць Шамякі, але ані слова пра веча, пра публічнае выказаньне народнага пагляду, пра нязгоду бакоў паміж грамадзян, як гэтае мы бачылі даўней на паўдні; двойчы Масква застаецца без князёў, пакіненая сабе самой: у часе Тахтамышавага находу й пасьля Суздальскае бітвы, і ані ў тым, ані ў другім выпадку ані слова пра веча ... Але ў старых местах, Смаленску, Мураме, Бранску, жыхары мяшаюцца да княскіх усобіцаў: Смальняне не хацелі мець за свайго князя Сьвятаслава Імсьціславіча... Бранцы зыходзяцца вечам на князя свайго Глеба Сьвятаславіча"[303].

"Жыхары Берасьця не хацелі прызнаць Імсьціслава за свайго князя, не хацелі выконваць тэстамэнту Валадзімера /брацельніка

Імсьціслававага/; на поўначы ня бачым нічога падобнага, ня сустракаем таксама ведамкаў пра ўмовы грамадзян із князьмі, ня сустракаем ведамкаў, каб князі склікалі веча"[304].

"Разанскі князь Алег Іванавіч у вадным сваім дароўным лісьце кажа: "Параіўшыся з бацькам сваім, Уладыкам Васілём ды із сваймі баярамі /ідуць імі іх/, даў я" і інш., але мы павінны зацеміць, што ў лістох маскоўскіх князёў мы гэтага выразу не знаходзім"[305].

Суздальска-маскоўскае духавенства спрыяла й памагала дэспатызму ў сваім гаспадарсьцьве[306].

Р.Гайдэнштайн у сваіх "Запісках пра Лівонскую вайну" /I578-I582/ сьветча, што маскоўскае жыхарства спакойна цярпела тэрор Івана Грознага ды нат любіла яго[307].

Як маскоўскія князі й цары абыходзіліся із сваім народам, так яны, калі мелі сілу, абыходзіліся і з суседнімі гаспадарствамі ды іхнымі гаспадарамі[308].

Права. П'янкоў кажа: "У судовай практыцы літоўскія князі выкарысталі "Рускую праўду", што пасьлей, у ХУ-ХУІ стагодзьдзях, зрабіла ладны ўплыў на выпрацаваньне літоўскага фэўдальнага правадаўства" /65/ і /вялікі князь літоўскі/ "Казімер разам із сваёй Радаю ў I468 г. уклаў "Судебнік", што зьмяшчае цэлы сьцяг праўных нормаў, пераняпых із "Рускае Праўды" /84/. Вось і ўсё, што знаходзім пра слаўнае права беларускага задзіночанага гаспадарства! Найперш трэба зацеміць, што як у васобных беларускіх гаспадарствах, так і ў беларускім задзіночаным гаспадарсьцьве не карысталіся "Рускай Праўдаю", і яна ня мела ніякага ўплыву ані на Судовы Ліст /гэтак ён звaўся, а "судзебнікам" яго пачалі зваць адно Расейцы ў XIX стг./ Казімераў I468 г., ані на Статут Літоўскі[309]. У Вялікім Княсьцьве Літоўскім спачатку ўжывалася мясцовае звычаёвае права - на этнаграфічна-беларускіх землях беларускае - і канстытуцыі аўтаномных беларускіх земляў /Полацкае, Віцебскае, Смаленскае/[310]. У I468 г. вялікі князь Казімер выдаў Судовы Ліст, што "становіць кадыфікацыю мясцовага звычаёвага права, што дзеяла ў межах собскага "гаспадарства літоўскага"[311]. /Собская Літва ў 4/5 складалася зь беларускіх земляў/. А што да Статуту Літоўскага I529 г., дык гэта было права "этнаграфічных элементаў собскае Літвы", зн. права літоўска-беларускае, што ўвабрала ў сябе й ладную частку чужаземнага права"[312]. "Звычаёвае права Статуту Літоўскага I529 г. - гэта літоўска-беларускае права, а дзеля таго, што гэтае жарало пераважае, дык і ўвесь Статут Літоўскі можна назваць памяткаю права літоўска-беларускага /перавага беларускага/"[313]. Маючы наўвеце, што беларускія землі складалі каля 4/5 собскае Літвы, ня будзе памылкаю ўважаць Статут Літоўскі I529 г. за блізу вылучна беларускую памятку.



У Вялікім Княсьцьве Літоўскім усе ягоныя падданікі "ўсіх станоў, так багатага, як і ўбогага, пачоншы ад княжат, паноўрад духоўных і сьвецкіх, паноў харугоўных і шляхты, аж да ніжшага стану" павінны быць суджаныя у ўсіх "рэчах ня накшым правам, але тым Статутам". Гэтым-жа правам павінны судзіцца "такжа й чужаземцы й загранічнікі Вялікага Княства прыежджыя й якімкольвек абычаем прыбылыя людзі"[314].

Вось як І.Лаппа, расейскі патрыёт і непрыяцель Беларусаў, ацэньвае Статут Літоўскі I566 г.: "Статут Літоўскі I566 г. паставіў права Літвы на вялікае ўзвышша дасканаласьці, прыступное эпосе ягонага ўлажэньня. Складаньнікі Другога Статуту ўзумелі паставіць ягоныя правы на ўзровень вымаганьняў тагачаснай праўнай думкі Эўропы ды правадаўства наагул. У крытычнай рэцэпцыі чужаземнага права яны знаходзілі дарогу да дасканальненьня правадаўства Літвы, што выростала з патрэбаў ейнага жыцьця й гістарычнага развою... Другі Статут Літоўскі прадстаўляе сабою кодэкс нацыянальнага права Вялікага Княства Літоўскага. Але гэтае права дастала сваё асьвятленьне на аснове праўных ідэяў, супольных Заходняй і Цэнтральнай Эўропе таго часу"[315]. Рэдакцыя Статуту Літоўскага I588 г. была паўнейшая ды яшчэ вышэйшае якасьці. Ёю завяршылася кадыфікацыя Вялікага Княства Літоўскага. Пісанае права Вялікага Княства Літоўскага, як і папярэднія яму правы-канстытуцыі асобных беларускіх земляў забесьпячалі незачэпнасьць асобы, ніхто ня мог быць арыштаваны, ані наагул караны бяз суду, устанаўляла індывідуальную адказнасьць за злачынствы, дазваляла вольны выезд замежы, ніхто ня мог быць караны на завочнае абвінавачаньне, несправядлівы вінавачнік сам тым быў караны, у чым вінаваціў іншага[316]. Канстытуцыя ды ўсе правы Вялікага Княства Літоўскага абавязвалі й гаспадара вялікага князя,

і ён прысягаў датрымваць іх[317].

Права Маскоўшчыны ня толькі было шмат ніжэйшае якасьці за права беларускае, але й мела зусім накшы характар[318]. Маскоўскія гаспадары не прысягалі выконваць права, сваю волю, часта самавольства, яны ўважалі за найвышэйшае права[319]. Самавольствам часта кіравалася й адміністрацыя[320]. Дый само маскоўскае права ня было права справядлівае й не ўважалася за такое грамадзтвам. Маскоўскі летапіс выясьняе, што "где закон, там и обид много"[321]. У Беларусі была пашана да чалавека, а ў Маскоўшчыне нат вайводаў каралі біцьцём бізуном[322].

З гледзішча на свае права Беларусь - гэта супрацьлежнасьць Расеі.

Рэлігія. Прыпргшы, паводля прыкладу царскае Расеі, расейскую праваслаўную царкву /іншае праваслаўнае царквы ў СССР цяпер няма/, бязбожны Крэмль із сваймі слугамі прыкідаецца абароньнікам праваслаўя ды яшчэ балей за праваслаўную перасьледуе іншыя хрысьціянскія цэркви ў СССР, асабліва-ж царкву рымска-каталіцкую й вуніяцкую, як досыць пашыраныя, першая ў Беларусі, другая ў Галіччыне. Таксама й аўтары "Истории БССР" сыстэматычна цьвердзяць, што "ад канца XIУ стагодзьдзя ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім было перасьледаваньне праваслаўных"[323].

"Ад другое палавіны ХУ стг., - кажа Перцаў, - у Літоўскім гаспадарсьцьве пачала пашырацца панска-каталіцкая агрэсія, што асабліва ўзмоцнілася ў шаснаццатым стагодзьдзі. У сувязі з гэтым праваслаўнае беларускае жыхарства абмежвалі ў правах удзелу ў мескім самаўрадзе, а ў некаторых выпадках зусім адбіралі гэтыя правы" /99/. Прыміж таго, у гэтым беларускім гаспадарсьцьве да канца ХУІ стг. была паўнюсенькая свабода ўсім верам. Абмежаньне ў правах праваслаўных магнатаў Горадзельскім актам I4I3 г. датычыла толькі да займаньня імі найвышэйшых урадаў, дачынялася толькі да собскае Літвы, каротка трывала й мела характар тэарэтычны[324].

У Статуце Літоўскім чытаем, што "права й суды духоўныя касьцёлаў Божых Рымскага й Грэцкага закону" захоўваюцца "ў цэласьці"[325]. Акт Варшаўскае канфэдэрацыі I573 г., прыняты Польшчаю й Вялікім Княствам Літоўскім пад уражаньнем рэлігійных войнаў у гаспадарствах Эўропы ... прагалашае: "А, іж у Рэчы Пасталітай



ёсьць рознасьць немалая із стараны веры хрысьціянскае, забягаючы таму, абы ся з тае прычыны міжы людзьмі стацьцё якое шкоднае не ўшчалося, каторае па іншых каралеўствах ясна відзім, абяцуем то сабе слоўна, за нас і за патомкі нашы, на вечныя часы пад абавязкам прысягі, пад вераю, сьцю й сумленьнем нашым, іж каторыя ясьмо розьні ў веры, пакой межы сабою захаваці, а для рознае веры й накшасьці ў касьцёлах крыві не праліваць, ані ся караці адсуджэньнем маемасьці, пасьцівасьцю, вязеньнем і выгнаньнем з гаспадарства ..."[326].

Права Статуту аднолькава бароне праваслаўных і каталікоў: "... есьлі-бы хто, прыйшоўшы гвалтоўне на касьцёл, або на цьвінтары, у школе або ў капланскім, папоўскім дому каго забіў або раніў", і вызначае кары за такія ўчынкі[327]. Згодна з правам, праваслаўныя ў царкоўных справах належалі да прысуду праваслаўнага мітрапаліта[328]. У часе вайны ладзілі паходныя цэркви праваслаўным[329].

Хведар Еўлашэўскі сьветча ў сваіх мэмуарах, што ў ХУІ стг. у Беларусі была ўзаемная талеранцыя й пашана паміж вернікаў розных вераў[330].

У беларускім гаспадарсьцьве каталіцкія гаспадары /вялікія князі/ ставілі праваслаўныя цэркви й давалі фонды на закладзіны праваслаўных манастыроў. Тое самае рабілі магнаты. Леў Сапега, канцлер Вялікага Княства, будучы каталіком, даець у I6I7 г. кошты на выданьне праваслаўных царкоўных кнігаў[331]. Праваслаўны Рыгор Хадкевіч, вялікі гэтман Вялікага Княства Літоўскага, працiўнік палітычнае вуніі з Польшчаю, "быў тыповы сын свайго часу. Талерантны што да рэлігійных пераканаькяў - ён аднолькава падтрымваў асьветныя й дабрадзейныя ўстановы як каталікоў, так і праваслаўных. У I563 г. Хадкевіч ставе праваслаўную царкву й пры ёй закладае шпіталь для бедных людзёў, і ў фундушным запісе зазначае, што ў шпіталь маюць аднолькава прыймаць як праваслаўных, так і каталікоў. Утрыманьне з Хадкевічавага двара аднолькава йшло як на царкву, так і на касьцёл, што паставіў той самы Хадкевіч. Пры царкве была праваслаўная школа, пры касьцёле - каталіцкая"[332].

У "Истории БССР" найболей нападкаў на беларускую вуніяцкую царкву. Мэтаю вуніі мела быць "разарваць сувязь беларускага на-

роду зь вялікім расейскім народам", "адарваць беларускі народ ад расейскага народу" /I26-I27/. Але-ж і да вуніі ніякае сувязі ў Беларусаў із Расейцамі ня было, дык ня было чаго "разрываць". Пры памозе вуніі, - цьвердзяць аўтары "Истории БССР", - мела быць палегчанае паняволеньне й апалячаньне беларускага народу /тамсама, б. I28 ды інш./. Але ніякімі фактамі не даводзяць яны сваіх цьверджаньняў. Палякі, наколькі маглі, ня гэтулькі памаглі, колькі запынялі пашырэньне ў Беларусі вуніі, як апрычонай беларускай царкоўнай арганізацыі, чужой Польшчы. Калі гаспадар выдаваў якую пастанову на карысьць вуніяцкае царквы, дык ён рабіў гэта, як вялікі князь Літвы, зн. як гаспадар беларускі. А цьверджаньне, што беларуская вуніяцкая царква была сяродкам лягчэйшага паняволеньня простага народу, мае такую-ж цану, як і вінавачаньне ў гэтым усяго хрысьціянства, што, праўда, на іншым месцы /б. 24/ і робе "Ист. БССР" /дарэчы, аўтары "Истории БССР" абярняся займаюцца бязбожніцкай прапагандаю: П'янкоў, прыкл., кажа, што фэўдалам хрысьціянства патрэбнае было дзеля панаваньня над народам і што быццам дзеля таго яно й было прынятае ў Беларусі - б. 24, 34-35/.

Усе разумовыя рухі Заходняе Эўропы, як гуманізм, рэфармацыя, каталіцкая рэакцыя й інш. вельмі пашыраліся ў Беларусі. З гэтым згаджаюцца й расейскія аўтары[333]. Прычына гэтага тая, што Беларусь належа да сьвету заходняе цывілізацыі. Пры належаньні да Захаду, калі беларуская моладзь масава вучылася на заходня-эўрапейскіх унівэрсытэтах дый у іншых школах, калі школы заходня-эўрапейскага ўзору, у тым ліку калегіі й унівэрсытэт, былі закладаныя і ў Беларусі, дык пры ўсёй заходняй атмасфэры ў Беларусі было зусім нармальна й немінуча, што ўсякія разумовыя рухі Заходняе Эўропы абыймалі й яе. Дзеля таго з пашыраньнем на Захадзе рэфармацыі пашыралася яна ў Беларусі й Лятуве, захапляючы вялізарную бальшыню дагэтуль праваслаўнае й каталіцкае шляхты ды частку мяшчанства. Калі-ж настала каталіцкая рэакцыя, дык мусіла й каталіцтва пашырыцца ў Беларусі, спачатку ў ягонай лацінскай форме, а пасьлей у форме вуніі, зн. із захаваньнем грэцкага абраду, што было прытарнаваньнем да мясцовых абставінаў[334].

Што вуніяцкая царква адказвала жыцьцёвым патрэбам народу, што была карыснай царкоўнай арганізацыяй, сьветча тое, што яна



ўзгадавала сьцяг выдатных царкоўных і культурна-асьветных дзеячоў, як Пётра Аркудзь, Леў Крэўза, Анастас Сялява, Рафал Карсак, Ільля Марахоўскі, Ярэма Пачапоўскі, Пахом Вайна-Аранскі й інш. ды найвыдатнейшы зь іх геніяльны арганізатар мітрапаліт Язэп Вельямін Руцкі[335]. Пра тое-ж сьветча, што беларуская вуніяцкая царква добра арганізавала асьвету духавенства й народу ды на вусокую ступень паставіла маральнасьць. Пра суровую маральнасьць сярод беларускіх вуніятаў сьветчаць нат пасьлейшыя /XIX стг./ этнографы. Вуніяцкая царква з гледзішча культурнага была стаўшыся нацыянальнай беларускай царквою, цяжкімі пэрыядамі гісторыі Беларусі Беларусы-вуніяты выказалі найбольшую нацыянальную жывучасьць і адпорнасьць.

Ведама, калі на груньце старога паўстаець штось новае, дык звычайна, калі не заўсёды, бывае ходаньне новага із старым, але гэта ня знача, што добрае новае ня мае паўставаць. Дзеля таго было ходаньне й Беларусаў-вуніятаў зь Беларусамі, што заставаліся ў праваслаўнай царкве. Вунія пашыралася ў XVII і XVIII стг. Гэным часам здараліся эксцэсы на рэлігійным груньце, але яны мелі прыватны, а не гаспадарстваны характар. Хіба ў гаспадарствах із дэмакратычным ладам болей бывае эксцэсаў, зьдзеяных прыватнымі людзьмі, чымся ў гаспадарствах дэспатычных і таталітарных, але ў вапошніх тысяча разоў болей бывае эксцэсаў з боку ўраду й адміністрацыі. Другое, эксцэсы бывалі ўзаемныя, як з боку вуніятаў, рымскіх каталікоў, так і з боку праваслаўных[336].

Калі гэткія эксцэсы зыбраць з аднаго толькі вуніяцкага й рымска-каталіцкага боку з двух стагодзьдзяў разам, як гэта рабіла расейска-царская палітыка й цяпер робе палітыка камуністых, дык яны могуць рабіць уражаньне, запраўды-ж так страшна ня было: эксцэсы належалі да выняткаў. Радзей, як папярэднімі пэрыядамі, але й гэтымі вякамі панавала ў Беларусі пашана паміж вернікаў розных вераў. Пра гэта сьветчаць такія нерадкія выпадкі, як вось гэты: /даючы аброкі/ "на касьцёлы й каталіцкія манастыры, Леў Сапега таксама падтрымваў ня толькі вуніяцкія, але й праваслаўныя сьвятыні ды ў сваім тэстамэньце не забыўся на іх. Наадварот, вельмі горача кажа: "Рускія цэрквы, пастаўленыя мною ў маіх маемасьцях, разам із усімі фундацыямі, менаванымі ў гэтым тэстамэньце, а таксама ўсімі іншымі, якія-б яшчэ за жыцьцём мог пас-

тавіць і надзяліць на чэсьць і на славу Госпаду Богу Ўсемагутнаму, у Тройцы Сьвятой адзінаму, няхай назаўсёды застаюцца пад уладаю прасьвяшчэных біскупаў грэцкіх, у маіх фундацыях азначаных ..."[337].

У часе гаспадарстваваньня вялікага князя Ўладыслава /I632-I648/ ня было ў Беларусі рэлігійнага ходаньня[338]. А было гэта ў часе трыццацігоднай вайны ў Эўропе.

У ХУII і ХУIII стг. былі некаторыя абмежаньні для некаталікоў, але ніводная вера ня была забароненая. Ніхто зь Беларусі з рэлігійных прычынаў не перабраўся да Маскоўшчыны. Наадварот, з Маскоўскага гаспадарства з прычыны рэлігійнага перасьледаваньня ўцякалі да Беларусі, як асобныя людзі, так і цэлыя масы /стараверы/.

Зусім накш было ў Маскоўскім гаспадарсьцьве. Там із хрысьціянскіх цэркваў дазволеная была толькі расейская праваслаўная царква.

Калі ў першай чверці ХУII стг. Маскоўцы мусілі згадзіцца прыняць за свайго цара каталіка, князевіча Ўладыслава, дык як адзін з пунктаў умовы зь ім, маскоўскія баяры выставілі дамаганьне: "Если кто-нибудь из людей московского государства захочет, по своему малоумию, отступить от греческой веры, таких казнить смертью, а имение их записать в казну"[339].

У перамовах францускага пасольства Людзьвіка ХIII з царом Міхаілам Фёдаравічам у I629 г. апошні дазваляў францускім купцом мець сваіх каталіцкіх сьвятароў у Маскоўшчыне, але бяз права публічнае багаслужбы й будоўлі каталіцкіх сьвятыняў[340].

У часе трыццацігоднае вайны, калі Маскоўшчына спадзявалася мець Швэдыю й Ангельшчыну сваймі хаўрусьнікамі ў вайне зь Беларусяй, заходня-эўрапейскія эміграньты-пратэстанты паставілі ў Маскве колькі пратэстанцкіх цэркваў; у I643 г. маскоўскі цар загадаў гэныя цэрквы зруйнаваць, а ў I652 г. загадаў высяліць усіх чужаземцаў з цэнтру Масквы на новазакладзенае перадмесьце на правым беразе ракі Яўзы[34I].

Да праваслаўных нерасейцаў, нат Грэкаў, у Маскве ставіліся няпрыхільна й падазрона. Гэтак, прыкл.: "... сулілі-ж пасьлей патрыярху Ярэме быць маскоўскім мітрапалітам, але жыць не ў Маскве, а ў Уладзіміры з прычыны ягонай чужанацыянальнасьці"[342]



З усяго гэтага відаць, што й з рэлігійнага гледзішча Беларусь была супрацьлежная Маскоўшчыне.

Калі-б мы ўзялі беларускую асьвету, мастацтва й інш., дык пабачылі-б і там супрацьлежнасьць да Маскоўшчыны. З усяго відаць, што задзіночанае беларускае гаспадарства было гаспадарствам заходня-эўрапейскага тыпу, а Маскоўшчына, калі ня была варыянтам азіяцкага гаспадарства, дык была гаспадарствам, набліжаным да гаспадарстваў азіяцкага тыпу.

<u>Дачыненьні Вялікага Княства Літоўскага да Маскоўшчыны</u>.

Не прызнаючы Вялікага Княства Літоўскага за беларускае гаспадарства, аўтары "Истории БССР" цьвердзяць, што літоўскія, а пасьлей і польскія фэўдалы ўвесь час уціскалі Беларусаў, а гэтыя апошнія, бязупынку імкнуліся задзіночыцца "з Расеяй", "з расейскім народам"[343]. Калі-б запраўды так было, дык палітычная й культурная апрычонасьць беларускага народу не патрывала-б і сто год. Тым-жа часам беларускі народ жыў вольным і незалежным жыцьцём у сваім задзіночаным гаспадарсьцьве пяць з пал. стагодзьдзяў. Навет аднэй з галоўных прычынаў задзіночаньня беларускіх земляў у вадным гэтым гаспадарсьцьве быў націск з боку Маскоўскага княства /гл. вышэй/.

Беларускае гаспадарства вяло ледзь не бязупынныя войны з гаспадарствам Маскоўскім[344]. Беларусь блізу адна вынесла цяжар вайны з Маскоўшчынай /і аднячасна із Швэдамі й Татарамі/, што трывала зь перапынамі ад I558 г. да I582 г.[345]. Гэтай вайною Масква загнала Беларусь да вуніі з Польшчаю, бо ў Беларусаў ня было магчымасьці ваяваць на два фронты[346]. Вось-жа з двух варагоў Маскоўшчыну ўважалі за большага.

У "Истории БССР" кажацца, што Масква гэтаю вайною вызваляла Беларусь ад літоўскіх фэўдалаў і што Беларусы ўсюдых віталі маскоўскае войска /87/. Калі так, дык чаму, па ўзяцьці Полацку, Маскоўцамі былі "ужытыя захады да таго, каб зь ягоных межаў былі высяленыя няпэўныя элементы"[347]. Відавочна, гэтых няпэўных элемэнтаў было надта шмат, калі за I6 год дзяржаньня Полацку Масквою ў мястэчках і сёлах полацкіх аколіцаў лес парос.

У вайну Беларусі з Маскоўшчынаю I654-I667 гг. "князь Трубяцкой, што камандаваў /маскоўскім войскам/ пад Амсьціславам, зьні-

шчыў блізу ўсіх жыхароў, так што доўга пасьля таго засталых жывымі жыхароў Амсьціслава звалі недасекамі"[348]. Хіба-ж не за імкненьне задзіночыцца з Масквою гэтак зрабіў Трубяцкой?! У часе гэтае вайны партызанская супроцьмаскоўская вайна ўсяго беларускага жыхарства, асабліва сялян, ахапіла ўсю Беларусь, акупаваную маскоўскім войскам[349]. Маўчыць "История БССР" пра гэта й пра тое, што ў I655 г. беларускі "гэтман Міхал Пац стрэўся з /маскоўскім вайводам/ Чаркаскім у Магілеве. Была заўзятая бітва, што трывала цэлы дзень; перамога хінулася на бок Чаркаскага, што меў большыя сілы, але назаўтрае нараньні выступілі на валы жыхары Магілеву зь мескімі гарматамі, забілі самаго Чаркаскага й прагналі ягонае войска"[350]. Таксама, у I662 г. I лютага званеньне было знакам на агульнае паўстаньне /жыхароў Магілеву/, і ўвесь маскоўскі гарнізон быў выразаны"[35I].

Усякую нязгоду ў беларускім гаспадарсьцьве аўтары "Истории БССР" стараюцца высьніць, як імкненьні Беларусаў да Масквы. Гэтак, прыкладам, П'янкоў кажа: "Выростаў рух беларускіх народных масаў за задзіночаньне з расейскім гаспадарствам. Першымі выступілі чорныя людзі Смаленску. Паўстаньне тут было 30-3I сакавіка I440 г. ... Ладная частка рускіх земляў, захопленых літоўскімі князямі, аддзялілася ад Літоўскага гаспадарства" /82-83/. Вось-жа, нат паводля аўтаравых словаў, аддзялілася ад Літоўскага, але не далучылася да Маскоўскага. Дык дзе-ж тут "рух" да задзіночаньня з Масквою? Гэта была нутраная нязгода, міжусобіца. Частка беларускіх земляў /Полацак, Віцебск, Смаленск/ спачатку ня прызнала Казімера Ягайлавіча за вялікага князя, Кіеўская зямля прызнала за вялікага князя Міхайлушку Жыгімонтавіча /супарата Казімеравага - Я.С./, "Валынская зямля паддалася Польшчы", "Жмудзь выгнала прадстаўнікоў літоўскае ўлады"[352]. Як бачым, была вялікая нязгода, і нат частка тэрыторыі беларускага гаспадарства паддалася Польшчы, але ніводная не паддалася Маскоўшчыне. Неўзабаве, адылі, усе землі Вялікага Княства Літоўскага прызналі за вялікага князя Казімера Ягайлавіча.

Палажэньне сялян.

Бальшавікі, загнаўшы сялян у найгоршую няволю, якую калі-колечы бачыў сьвет, не пакідаюць прыкідацца абаронцамі ся-



лянства. Дзеля таго "История БССР" стараецца паказаць найстрашнейшы прыгон у задзіночаным беларускім гаспадарсьцьве[353].

Як у цэлай Эўропе, так і ў Беларусі, прыгон быў. Прычыны ўзьніку яго ляжалі ў тагачасным спосабе гаспадаркі. Кажны згодзіцца, што прыгон быў зьяваю несправядлівай. Дзеля таго зразумела, што некаторыя прыгонныя сяляне і ў Беларусі ўцякалі ад сваіх паноў, звычайна да местаў, а калі на чужыну, дык на "ніз", на Украіну, на Запарожжа. Было-б дзіўна, і блага сьветчыла-б пра характар Беларуса, калі-б такіх уцёкаў ня было. Дзеля тагож, як і на захадзе Эўропы, былі ў Беларусі ў сямнаццатым стагодзьдзі паўстаньні сялян. Сялянскія паўстаньні ў Беларусі мелі вылучна сацыяльны характар, бо, наўсуперак цьверджаньням "Истории БССР" /I92/, у Беларусі ня было нацыянальнага ані рэлігійнага ўціску. Грынблят, жадаючы, згодна з агульным кірункам "Истории БССР", паказаць, што Беларусы быццам ня мелі свайго гаспадарства, але жылі ў няволі ў "чужаземных захопнікаў - польскіх паноў" ды што адначасна было імкненьне "беларускага народу да задзіночаньня з Масквою, да задзіночаньня зь вялікім расейскім народам" /I92-I93/, прыводзе /тамсама/ "народныя песьні", што маюць пра гэта сьветчыць. Вось яны:

Із-за Слуцка, із-за Клецка
Едзе дружба маладзецка ...
Места Пінска ваяваці,
Ад Ляхоў абараняці ...

і

Добра-б нам было,
Шчасна-б нам было,
Калі-б Русь уся,
Трымаючыся
Аднэй сілаю,
Заадно была ...

Адылі, песьні гэтыя й некаторыя іншыя падобныя - "Гэта нясkладныя, часамі навет бяз сэнсу вершаваныя памфлеты, якіх ня толькі народ не зладжыў, але якія й не пайшлі ў народ[354]. Аўтарамі іх былі расейскія агітатары супраць паўстанцаў I83I г.

Палажэньне ў часе голаду I602 г. ў Беларусі, апісанае ў Баркулабаўскім летапісе, Абэцэдарскі прадстаўляе так, як-бы гэтак было заўсёды /I2I/.

Прыгон, адылі, у Беларусі быў лягчэйшы, чымся ў іншых гаспадарствах, і шмат лягчэйшы, чымся ў Расеі. "На вялікакняскіх

 



/зн. скарбовых, гаспадарствавых - Я.С./ землях прымацаваньне сялян да зямлі ня было бязумоўным. Селянін, прадаўшы або аддаўшы другому сваю бацькаўшчыну з дазволу гаспадарскага ўраду, ставаўся вольным чалавекам. Калі ў сялянскай сям'і з прычыны павялічэньня яе заставаліся лішнія рукі, урад не рабіў перашкоды дзеля выхаду іх, і яны ставаліся вольныя"[355]. "Характэрная адзнака належнасьці да шляхоцкага стану /даўней у Беларусі - Я.С./ вайсковая служба. Дзякуючы гэтаму, пераход із сялянскага стану ў шляхоцкі й наадварот ня толькі стаецца магчымы, але й звычайны"[356]

Статут Літоўскі вуча, што чалавек простага стану - гэта "Божае стварэньне" і, апрача галаўшчыны, вызначае шляхціцу кару сьмерці за забойства селяніна[357]. Трэйці Статут пастанаўляе: "Нявольнікі ўперад ня маюць быць зь іншых прычын, адно палонені"[358]. Дзякуючы валочнай рэформе Жыгімонта Аўгуста ў пачатку 2-е пал. XVI стг., нявольная "група жыхарства пакінула йснаваць. Нявольная чэлядзь дастала надзелы зямлі - нармальна па 9 маргоў на душу, як мужчынам, так і жанкам, ды адпаведна да надзелу была зраўняная ў павіннасьцях із цяглымі людзьмі[359]. Такія дачыненьні былі з тае прычыны, што ў Беларусі хрысьціянскія прынцыпы ня толькі прызнавалі тэарэтычна, але й да некаторае меры тарнавалі да практыкі[360].

Дзеля гэткіх дачыненьняў сялянскіх паўстаньняў у беларускім гаспадарсьцьве было ня шмат, і ня мелі яны характару расейскіх, як Пугачоўшчына.[361].

У Расеі былі шмат горшыя, чымся ў Беларусі, дачыненьні да людзёў "простых", прыгон там быў надта цяжкі, а сялянскія паўстаньні шмат большыя[362]. У Беларусі нат найгоршым часам па 10-ёх гадох пан ня меў права спаганяць уцёклага прыгоннага, а ў Расеі "Саборнае ўлажэньне" 1649 г. устанавіла права бястэрміновага спагону ўцёклых сялян[363]. А што да большай душэўнай запрыгоненасьці расейскага селяніна, дык пра гэта маем навет сьветчаньні з дачыненьняў сялян да сваіх паноў у XIX стг., калі Расея навалілася на Беларусь усім сваім цяжарам. Раўнуючы дачыненьні беларускіх і расейскіх сялян да сваіх паноў, Жарнаў адзначае: "Вялікарускія сяляне, навет будучы больш абцяжараныя павіннасьцямі, чымся беларускія, лепш, аднак, за апошніх ставяцца да сваіх паноў"[364].

Аўтары "Истории БССР" цьвердзяць, што зь Беларусі ўцякалі



да Масквы, і быццам асабліва часта сяляне выходзілі да Расейскага гаспадарства" /71/, а "ў 1649-51 гг. гэтыя ўцёкі набылі масавы характар" /155/. І гэтыя цьверджаньні галаслоўныя й неправдзівыя. Уцёклых із Беларусі да Масквы можна палічыць на пальцах, дый гэткія блізу ўсе ня цешыліся з такога свайго ўчынку. Князь М. Глінскі, якога называюць аўтары "Истории БССР", збунтаваўся супраць досыць недалужнага Жыгімонта Старога, бо хацеў сам стацца вялікім князем. Пераможаны, ён зьвярнуўся памогі да Масквы. Зразумеўшы пасьлей сваю памылку, варочаўся назад, дарма, што мог спадзявацца кары сьмерці, але быў злоўлены Маскоўцамі, асьлеплены й памёр у маскоўскай турме. Запраўды-ж не Беларусы ўцякалі да Маскоўшчыны, але, наадварот, з Маскоўскага гаспадарства людзі ўцякалі да гаспадарства беларускага, - праўда, у вялізарнай бальшыні ўцякалі адтуль Беларусы; тут і арыстакратыя - апошні князь цьверскі, апошні князь разанскі, князі Пронскія, князь Андрэй Курбскі й друкар Іван Федаровіч, і сэктанты - манах Арцём і Ф.Косой ды інш., ды, як было сказана, стараверы. Уцякала шмат і праваслаўных простых людзёў з сумежных із беларускім гаспадарствам этнаграфічна-беларускіх земляў Маскоўскага гаспадарства[365]. І сярод уцекачоў-старавераў было шмат Беларусаў. Агульнай зьявою ў Маскоўскім гаспадарсьцьве XVII й XVIII стг. было тое, што з цэнтру "сяляне масава ўцякалі на ўскраіны гаспадарства",[366] стараючыся ўцячы замежы. Беларускія сяляне, бяссумлеву, гэта ведалі й не маглі ўцякаць туды, скуль уцякалі сяляне расейскія. З уцёклых спад маскоўскага ладу Вяцічаў ды Севяран паўстала ў бальшыні Донскае казацтва.

У другой палавіне XVII стг. у Маскве была беларуская інтэлігенцкая эміграцыя. Як пасьлей нямецкая, гэта была эміграцыя культуртрэгерска-заработкавая, бо асталая Масква, пачуўшы патрэбу асьветы, добра плаціла чужаземным культуртрэгерам.

Ня толькі Беларусы свайго гаспадарства ня ймкнуліся да Маскоўшчыны, але, наадварот, Беларусы Маскоўскага гаспадарства ймкнуліся адлучыцца ад яго ды задзіночыцца зь беларускім незалежным гаспадарствам - Вялікім Княствам Літоўскім. Я прывяду адно колькі фактаў пра гэта з расейскіх жарэлаў. Ужо за Лівонскай вайною /1558-1582/ выявіўся рух Беларусаў Маскоўскага гаспадарства да задзіночаньня зь незалежнай Беларусяй. На беларускі бок

 

 



перайшоў у I564 г. князь Андрэй Курбскі, што камандаваў расейскім войскам у Лівоніі. Потым ён стаяў начале беларускага войска ды зрабіў паход пад Вялікія Лукі[367]. Хацелі здаць Беларусам Старадуб[368]. Было вялікае ўзрушэньне супраць Маскоўшчыны ў Пскове. Але гэнаю вайною такі рух ня мог набраць вялікае сілы, бо адно пад канец вайны Беларусы пачалі перамагаць дый перамаглі Маскоўцаў, а датуль вялікая частка Беларусі была акупаваная маскоўскім войскам.

Але зь вялікай сілаю выбух сэпаратыстычны рух Беларусаў Маскоўскага гаспадарства ў пачатку ХУІІ стг., найперш за дзяржавы Гадунова. Я прывяду некаторыя факты: "Борзда прыйшлі ведамкі пра хісткасьць жыхароў Смаленску". Цар загадаў смаленскаму вайводзе даваць і духоўных на мукі ды пры гэтым "і агнём паліць!"[369] "Баярскі сын, сотнік Істома Пашкоў збунтаваў Тулу, Венеў і Кашыру; тым-жа самым часам паўстала супраць Шуйскага й старавечнае княства Разанскае; тут начале паўстаньня былі вайводы Рыгор Сунбулоў і дваранін Пракоп Ляпуноў"[370].

"Апрача Разані, дваццаць местаў у цяперашніх губэрнях Арлоўскай, Калускай і Смаленскай паўсталі за Ілжазьмітру /другога/. На Северскім узьмежку паўсталі халопы й сяляне ... Балотнікаў, злучыўшыся з Пашковам і Разанцамі, перайшоў за Аку, узяў ды разграбіў Каломну ..."[37I]. "Балотнікаў засеў у Калузе, жыхары якой абвесьцілі, што могуць утрымаць год ягонае войска ..."[372].

"... зьбраліса таго-ж уперадзьгінулага Северскага ўзьмежку Сяўрукі /Севяране - Я.С./ ды іншых Разанскіх і ўзьмежных местаў стральцы й казакі, разбойнікі, злачынцы /"воры"/, уцёклыя халопы, ашукалі ўперад ашалелы Северскі ўзьмежак..." /зь лісту маскоўскага патрыярха Гермагена/.[373]

"Старадубцы пачалі даваць свайму гаспадару /самазванцу - Я.С./ грошы й рассылаць па іншых местах лісты, каб пасылалі да іх сваіх людзёў на памогу цару"[374]. "Праз Казельск, Калугу, Мажайск, Зьвінігарад ішоў самазванец да Масквы, не сустракаючы нідзе супраціву"[375].

"Калі Шуйскі разаслаў па местах, у тым ліку да Ноўгараду й Пскова, палоненікаў, узятых у самазванца, дык Ноўгарадцы тапілі гэтых няшчасных у Волхаве, а Псковічы карміл іх, паілі, адзявалі й плакалі, на іх гледзячы"[376].



Названыя мясцовасьці - этнаграфічна беларускія /Разаншчына тады таксама была этнаграфічна беларуская/. Яны першыя паўсталі й адлучыліся ад Маскоўскага гаспадарства. Прыміж таго таксама накшы ад Маскоўцаў этнічна, але аднолькавай зь імі мовы Ноўгарад адлучыўся апошні, а татарская Казань зусім не адлучылася[377].

А.Галубцоў, што адумысьля дасьледаваў пачаткі паўстаньняў /"Смуты"/ у Маскоўскім гаспадарсьцьве на пачатку сямнаццатага стагодзьдзя, піша гэтак: "Чуецца нейкая сувязь паміж настроямі Смальнян на працягу цэлага дзесятка год. У I598 г. у Смаленску, хоць і ведаюць, што царэвіч памёр, або нат забіты, але ўжо чуюць і пераказваюць адзін аднаму, быццам ён жывець; купцы Смальняне пераказваюць весткі Андрэю Сапегу /да Вялікага Княства Літоўскага/; у I599 г. манастырскую ўладу Траецкага манастыра вінавацяць у здрадным кантакце з Мамонічамі; ... яшчэ раней, у I602 г. ёсьць Смальняне, што бягуць на Северскі ўзьмежак і зьбіраюцца каля самазванца ... наапошку, у I608 г., Смальняне Хрыпуны нападаюць на Смаленскі ўзьмежак, а іншыя Смальняне неўзабаве ў мносьцьве пачнуць уцякаць да /вялікага князя Літоўскага/ із сьценаў абложанай /смаленскай/ цьвердзі"[378].

З тае-ж працы Галубцова відаць, што не адны Смальняне рыхтаваліся да паўстаньня супраць Маскоўскага гаспадарства, але таксама Севяране /нат першыя/, Разанскія й Вярхоўскія Вяцічы /асабліва Сярпяне/ і Псковічы [379]. Выглядае, што Беларусы Маскоўскага гаспадарства ўзрыхтавалі ведамы ягоны расклад /"смуту"/. Сам першы самазванец, Грышка Атрэп'еў, і ягоны таварыш, манах Варлаам паходзілі з Каломенскага павету, зн. таксама з Разаншчыны, але часткі яе, найраней далучанае да Маскоўшчыны, відавочна, ужо тады этнаграфічна зрусыфікаванае[380].

Па сьмерці Тушынскага самазванца "Арол, Волхаў, Белеў, Карачэў, Алексін" /Вярхоўскія землі/ "прысягалі каралевічу /Уладыславу/"[38I].

## Беларусь пад Расеяй.

Далучэньне Беларусі да Расеі ў канцы ХУІІІ і пачатку ХІХстг. "История БССР" разглядае як вельмі карыснае беларускаму народу здарэньне, бо яно, кажуць яны, ужыцьцяўляла спрадвечныя ймкненьні Беларусаў задзіночыцца зь вялікім расейскім народам /205/.

 

Запраўды-ж далучэньне да Расеі было найбольшай трагэдыяй беларускага народу. Дасьледаваньнікі сьцьвярджаюць, што найцяжэйшай парою ў гісторыі беларускага народу было XIX стг.[382]

Узнаўленьне беларускага гаспадарства ў I8I2 г. у часе паходу Напалеона на Маскву адбілася ў "Истории БССР" адно ў словах, што "Напалеон утварыў у Вільні "часовае кіраўніцтва Вялікага Княства Літоўскага", улада якога абыймала Віленскую, Горадзенскую, Менскую губэрні й Беластоцкую акругу" /220/. Паводля "Истории БССР" гэта зь Беларусяй ня мела нічога супольнага, тым-жа часам ужо адна тэрыторыя паказвае, што ход тут пра Беларусь. Што да Віцебшчыны й Магілеўшчыны, дык тамсама чытаем: "У губэрнях-жа Віцебскай і Магілеўскай было ўстаноўленае "польскае кіраўніцтва". Запраўды-ж было так, што ў I8I2 г. былі арґанізаваныя два беларускія гаспадарствы - адно пад старым назовам "Літва", другое пад новым, накіданым Расейцамі назовам "Беларусь"; у гэтае другое ўваходзілі Віцебшчына й Магілеўшчына, а што да далейшых беларускіх тэрыторыяў, як Смаленшчына й інш., дык пытаньне засталося адчыненым. Утварэньне двух гаспадарстваў таго самога народу выясьняецца тым, што, на выпадак кампрамісу з Расеяй, Напалеон думаў другое зь іх адступіць Расеі, а першае засталося-б незалежным. Назоў "Беларусь" другому гаспадарству быў узяты ад Расеі, што была назваўшы "Беларускай губэрняй" беларускія землі, забраныя пры першым падзеле.

Жыхарства названых пяцёх губэрняў і Беласточчыны было станоўка за незалежнасьць Беларусі й супраць Расеі[383]. У меншай меры падобныя настроі былі ў Смаленшчыне[384], што ад I667 г. належала да Расеі ды, ведама, падпала пад некаторы расейскі ўплыў.

Пад уплывам францускіх жаўнераў, беларускія сяляне некаторых мясцовасьцяў зразумелі ў I8I2 г., што надыйшла пара вызваліцца ад прыгону й дзейна выступалі супраць сваіх паноў, рэдчас разам із францускімі жаўнерамі разьбіралі панскую маемасьць[385]. Што запраўды так было, знаходзім навет некаторае пацьверджаньне ў "Истории БССР" - у ёй зазначана, што па вайне з Напалеонам I8I2 г. адзін пан у Віцебшчыне караў сваіх сялян, прымаўляючы: "Вось вам Французы, вось вам вольнасьць" /230/. Як ведама, Расея ня была за волю сялян. "История БССР", адылі, выясьняе гэныя выступленьні сялян, як помсту іх паном за тое, што яны "зраджалі Расею" /22I,222/.



Не адзначае "История БССР" і беларускага характару паўстаньня I83I г. у Беларусі. Але паўстаньне I863 г. яшчэ захавалася да некаторае меры ў народнай памяці ды яно выясьненае й спапулярызаванае, як беларускае, у беларускай літаратуры. Гэта прынучыла аўтараў "Истории БССР" прызнаць за ім у Беларусі беларускі нацыянальны характар; але разам із гэтым яны ігнаруюць ягоны палітычна-незалежніцкі характар, імкненьне вызваліцца ад Расеі, пакідаючы яму толькі характар антыпанскі /276/.

Кастуся Каліноўскага, кіраўніка беларускага паўстаньня I863г., аўтары "Истории БССР" зрабілі русафілам. У іх чытаем: "Ён /Каліноўскі/ быў пагляду, што вызваленая /ад царызму/ Расея здолее даць беларускаму народу магчымасьць ужыцьцёвіць гэтае права /"на самастойнае разьвязаньне ягонае долі"/. Пагляды Каліноўскага ў гэтым пытаньні адказвалі даўнейшым запаветным імкненьням беларускага народу задзіночыцца зь вялікім расейскім народам у вадзінай брацкай сям'і" /283/. Такім парадкам, у "Истории БССР" Каліноўскі выйшаў "непрадрашэнцам". Гэта той Каліноўскі, што перад сьмерцяй у сваім лісьце з турмы да беларускага народу пісаў:

> "Беларусы, браты мае родныя! С-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас, і можа ў астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную й цябе, дарагі мой народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль зьгінуць за тваю праўду. Прыймі, народзе, па шчырасьці маё слова перадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Няма-ж, браткі, больш шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку ... Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзівая ня йдзе разам зь няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця й ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу. Ваюй, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе с-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе. Яська-гаспадар с-пад Вільні.[386]

Як пра дадатную зьяву, у "Истории БССР" пішуць, што "ад часу задзіночаньня Беларусі з Расеяй ... была створаная школа ў блізкой і зразумелай Беларусам расейскай мове" /252/ і "...з другое палавіны XIX стг. навука ў усіх пачатных школах была пераведзеная на расейскую мову. Гэта мела для Беларусі вялікае

прагрэсыўнае значаньне, бо памагала пашырэньню асьветы ў блізкой беларускаму народу мове й далучала вучняў да расейскае культуры" /253/. Гэта чыстая мана, што Беларусам расейская мова зразумелая й што яна бліжэйшая за іншыя славянскія мовы; наадварот, яна далейшая за некаторыя іншыя славянскія мовы. Не прагрэсам, але рэгрэсам было ўвядзеньне сілаю расейскае мовы ў школах, замiж роднае беларускае.

Паглядзем, як ставіліся самі Беларусы да расейскае школы, расейскае мовы й да ўсяе русыфікацыі. Адданы Маскве Язэп Сямашка пісаў расейскаму ўраду ў 1827 г.: "Моладзь у публічных школах /у Беларусі/ адзываецца пра Расею з пагардаю - ня знаючы Расейцаў, яна ўважае іх за народ барбарскі, і слова маскаль засталося звычайным выўленьнем пагарды"[387]. Сярод звычайных, непакалечаных Беларусаў Расея не знаходзіла ніякага апірышча; дзеля таго Сынод зрабіў наступную пастанову, зацьверджаную царом 5 сакавіка 1832 г.: "Замяшчаць сьвятарскія месцы адукаванымі асобамі з Расеі; замяшчаць кіраўніцкія й настаўніцкія месцы ў заходніх епархіях асобамі расейскае адукацыі; пасылаць із заходніх сэмінарыяў лепшых гадунцоў да Пецярбурскае й Пскоўскае акадэміі з тым, каб іх потым прызначаць на службу да расейскіх губэрняў на чатыры гады, адлі пасылаць у прыродныя епархіі; мець архірэяў чыста расейскага паходжаньня й расейскае адукацыі; тое самае рабіць, прызначаючы рэктараў, інспэктараў і прафэсараў у сэмінарыях гэтых епархіяў"[388].

Да 1864 г. мала было расейскіх школаў у Беларусі. Масава пачаў уводзіць расейскія пачатныя школы Мураўёў пасьля паўстаньня 1863 г. Але беларускае жыхарства не хацела пасылаць свае дзеці да расейскіх школаў. Расейскі школьны дзеяч Золатаў пісаў у 1864 г., што беларускія сяляне, якія ўперад, імкнучыся да асьветы, часта ўтрымвалі школы на свой кошт, "самі наймалі дамы й настаўнікаў, якім плацілі грашыма або хлебам, раптам не ўпадабалі новае расейскае школы"[389].

Дзеля таго, што ў Беларусі ня было настаўнікаў, каб знали расейскую мову, Мураўёў і школьны куратар Карнілаў зьвярнуліся із заклікам да настаўнікаў і не настаўнікаў Расеі, каб яны ехалі да Беларусі за настаўнікаў у расейскіх школах. Золатаў пісаў пра іх: "Цыркулярнае пазваньне сэмінарыстых, што скончылі



й ня скончылі курс, ды разам валасных пісароў, за настаўнікаў уважаю за зусім непрактычнае ..., навет добра ўзрыхтаваны за настаўніка чалавек, але незнаёмы зь мясцоваю гаворкаю, сялянскай моваю, стрэне перашкоду пры вучэньні; якое-ж будзе палажэньне чалавека, яшчэ без дазнаньня ў жыцьці, адарванага ад роднага месца й закіненага на адзіноту да краю, зусім яму новага... да людзёў, зь якімі яму спачатку цяжка будзе навет паразумецца. На такое добраахвотнае выгнаньне можа прымусіць або галіта, або надзея на абы, або шчыра місіянерскае захапленьне справаю; на чалавека, што прыехаў Бог ведае скуль, будуць узірацца зь некаторым нат варожым недаверам"[390].

Сам школьны куратар Карнілаў, выясьняючы прычыну безахвоцьця Расейцаў ехаць на ўрады да Беларусі, пісаў: "... служба ў Заходнім краі вымагае ад Расейца большае працы, энэргіі й такту, чымся ў цэнтральных губэрнях. Самае жыцьцё ў паветавым месьце або ў бедным мястэчку, воддаль ад усяго роднага, сярод людзёў, чужых верою й пераканаиньнямі, а вельмі часта проста варожых, - малая пацеха. Вонках службы жыцьцё расейскага ўрадаўца поўнае трывогі й няпрыемнасьцяў, абмежваецца вельмі вузкімі рамкамі сямейнага або таварыскага гуртка"[391].

Каб прыцягнуць Расейцаў да Беларусі, пачалі даваць ім большыя пэнсіі й частыя ўзнагароды, ордэны. Тады паплыў да Беларусі з Расеі найгоршы элемэнт. "Наплыўшы з глыбіні Расеі адно каб напхаць сабе кішэні й ня маючы абсалютна нічога сутрымальнага, уся гэтая ганьня ўрадаўцаў, палічнікаў, пасярэднікаў, настаўнікаў, ато й проста ахвіцэраў тае безьлічы жандарскіх і казацкіх пастояў, што хмараю ўскрывалі пасьля паўстаньня "заміраную" Беларусь, - унесла ў край надзвычайны маральны расклад, зьбэсьціла й спрастытуявала грамадзкае жыцьцё ў самых асновах"[392].

Таксама й Яз. Сямашка ў лістох сваіх да сыноду жаліўся, што некаторыя з прыбылых да "Заходняга краю" ўрадаўцаў із пагардаю ставяцца да мясцовага праваслаўнага духавенства ... і нат мяшаюцца ў царкоўныя справы[393].

У 1887 г. расейскі ідэялёг русыфікацыі Беларусі, В. Салаўёў, пісаў: "... Школаў гэтых /пачатных/ у заходніх губэрнях больш, чымся ў расейскіх. Апрача таго, ёсьць ладны лік настаўніцкіх сэмінарыяў. Здавалася-б дзеля гэтага, што школьная спра-

ва магла-б памагаць дасьпехам абрусеньня, але тут мы далёкія ад выстаўленае мэты ... Але шмат ячшэ ня позна паправіць". І тут-жа ён суле гэткую праграму абрусеньня Беларусі: "Пажадана, каб асновы абрусеньня былі праведзеныя бяз жадных адхінаў. Трэба, каб і сярэднія ўрады замяшчаліся асобамі чыста расейскага паходжаньня праваслаўнае веры ... Пажадана, каб прыяжджомыя расейскія ўрадаўцы не зрасталіся зь мясцовасьцяй, не абарачаліся ў паноў, працятых вылучна мясцовымі інтарэсамі. Служба кажнага Расейца ў заходніх губэрнях павінна быць абмежаная сяма, васьма, найбольш дзесяцьма гадамі. Сьвятары, дзякі, настаўнікі гімназіяў ды іншых установаў павінны быць прызначаныя з урадзімцаў нутраных губэрняў, чыста расейскага паходжаньня. Стыль цэркваў павінен быць расейскі"[394].

"Урадавы Пецярбург зусім згаджаўся із салаўёўскай пастановаю справы: мясцовым урадзімцам было забаронена займаць пасады /найперш у васьвеце/ вышэй за 5-ую клясу, а па службе праваслаўнае веры, - вышэй за сьвятара. Было прынята за правіла - усіх, хто канчаў духоўныя сэмінарыі ў Беларусі, пасылаць на прыходы да цэнтральных расейскіх губэрняў. Стары Каяловіч /ідэялёг абрусеньня Беларусі/ расказваў у "Епархіяльных ведамасьцях" пра гэта цікавыя рэчы: "Цяпер, - пісаў ён /I88I-I882 гг./, - у Заходняй Расеі ўсе архіпастыры з нутраных губэрняў. Прызначэньне ў Заходнюю Расею кажнага з гэтых архірэяў выклікае просьбы пра службу з боку іхных сваякоў. Быту няма ад гэтых просьбаў. Некаторыя выклікаюць сюды сваіх сваякоў паводле прынцыпу, каб больш дасьпешна русыфікаваць гэты край. Добрыя людзі сярод іх здараюцца адзінкамі. Бальшыня - "шукальнікі шчасьця". Наадварот, "западно-руссы", што канчаюць духоўныя акадэміі, бадзяюцца па ўсёй Расеі"[395].

"История БССР" ставіцца пазытыўна да зачыненьня расейскім урадам усіх вышэйшых школаў у Беларусі. Хочучы паслабіць уражаньне ад гэтага зачыненьня, аўтары яе выказваюцца гэтак: "Каб паслабіць польскі ўплыў у Беларусі, царскі ўрад зачыніў вышэйшыя школы, дзе вучыліся польскія шляхтуны" /244/. Прыміж таго, у вышэйшых школах у Беларусі вучылася ня толькі шляхта, але й мяшчане ды вольныя сяляне, дый усе сяляне маглі-б вучыцца па вызваленьні ад прыгону. Другое, дробная /засьцянковая/ шляхта ў



Беларусі ня была ані польская, ані спалячаная, такая-ж беларуская, як і сялянства. Што да панства, дык яно было, залежна ад часу, болей або меней, ато й блізу зусім спалячанае, але паны мелі ўсе магчымасьці пасылаць свае дзеці ў далёкія расейскія ўнівэрсытэты; такое магчымасьці мяшчане ані сяляне ня мелі. Калі-б ход быў толькі пра "польскіх шляхтуноў", дык у Беларусі мусіла-б быць хоць праваслаўная духоўная акадэмія, бо ў ёй "польскія шляхтуны", як каталікі, ня вучыліся-б, але й яе Расея пабаялася адчыніць у Беларусі.

З прычыны гэткае палітыкі расейскага ўраду "Беларусь, застаўшыся бяз вышэйшае школы, прадстаўляла із сябе заняпалы край, як у культурных дачыненьнях, так і ў эканамічных. Беларуская вучнёўская моладзь мусіла ехаць вучыцца за межы Беларусі - да Пецярбургу й Масквы. Такое адарваньне ад роднага краю рабіла тое, што культурныя сілы, якія выходзілі зь Беларусі, прымушаныя былі працаваць не ў Беларусі. З прычыны гэтага Беларусь не магла мець ані свае собскае інтэлігенцыі, ані свае навукі, ані свайго мастацтва. Нябыцьцё ў краі вышэйшае агранамічнае ўстановы да некаторае меры затрымвала разьвіцьцё вытворскіх сілаў Беларусі. Усё жыцьцё краю было аканаванае на русыфікатарскія тэндэнцыі расейскае палітыкі ў Беларусі.

Ненармальнасьць такога палажэньня, калі вялізарны край, з асаблівамі прыроднымі абставінамі й старой культураю, застаўся бяз вышэйшае школы, была зырка ўсьведамленая кіраўнічымі грамадзкімі коламі"[396].

Аўтары "Истории БССР" не адзначаюць таго, што беларускія месты й губэрнскія арганізацыі ледзь не бязупынна ў XIX і XX стагодзьдзях, да рэвалюцыі I9I7 г., прасілі ў расейскага ўраду дазволу адчыніць унівэрсытэт або іншую вышэйшую школу на свой кошт, але такога дазволу ніколі не дасталі[397].

Як бачым, Беларусы ня хінуліся да расейскае "культуры". Упіхалі яе Расейцы прынукаю, уціскам, дэмаралізацыяй. Гэная "культура" была надта нізкая, бо вышэйшых школаў ня было ў Беларусі, сярэднія былі рэдка дзе, а ў пачатных надта-ж мала давалася веданьня. Даючы малыя тэхнічныя веданьні, а ў гуманістычнай сваёй частцы прыносячы, заміж асьветы, цямноту, прыношаная да Беларусі расейская культура адначасна была й надта да-

рагая - за навучэньне ў пачатнай школе чытаць парасейску, таксяк пісаць ды крыху лічыць вымагалася ад беларускага дзяцяці адрачэньня ад свае бацькаўшчыны й зьняважлівасьці да сваіх бацькоў, што ня былі лізнуўшы гэнае "культуры". Такую плату расейская адміністрацыя ўсяляк старалася спаганяць.

Гвалтам зьліквідаваўшы праваслаўную й вуніяцкую беларускія цэрквы, замiж іх таксама гвалтам увёўшы расейскую царкву, а рымска-каталіцкую аддаўшы Палякам, каб мець іх сваймі хаўрусьнікамі ў змаганьні зь Беларусамі; зачыніўшы ўсе вышэйшыя школы, забараніўшы ўсё чыста беларускае; фізнчна зьнішчыўшы пасьля аднаго й другога паўстаньня прагрэсыўную частку беларускага панства ды інтэлігенцыю, - Расея дамаглася таго, што нацыянальна сьведамымі сярод беларускіх паноў засталіся толькі адзінкі, рэшта панства была або апалячаная, або зрусыфікаваная, або насланая з Расеі. Ад такога панства нельга было спадзявацца пашаны да "простага" беларускага чалавека.

Баранава, аўтарка Х разьдзелу "Истории БССР", піша: "Задзіночаньне Беларусі з Расеяй стварыла абставіны дзеля магутнага ўплыву на Беларусь расейскай эканомікі й культуры, адчыняла магчымасьці сталага кантакту беларускага народу зь вялікім расейскім народам" /205/. У іншым месцы "Истории БССР" кажацца, што "У Беларусі /па далучэньні да Расеі - Я.С./ крыху зьменшыліся падаткі зь сялянскага жыхарства" /207/. Тая-ж Баранава піша: /па далучэньні Беларусі да Расеі/ "некаторыя дасьпехі зрабіла ў сваім развоі селавая гаспадарка ... Гэтак, калі наконадні задзіночаньня ў Магілеўскай губэрні сеялі 82 880 чверцяў жыта, дык у I795 г. - 465 550 чверцяў, зн. пяць разоў болей" /I99/. Гэткая ведамка ня гэтулькі чудосная, колькі дзівосная. Ведама, жарала такое статыстыкі, што пацьвярджала-б яе, аўтарка не падаець ...

Пра кантакт ізь "вялікім расейскім народам" і ягонаю культуру была ўжо мова. Цяпер крыху ведамкаў пра эканоміку й сацыяльныя дачыненьні.

Як ведама, у Расеі і ў далучанай да яе Беларусі сяляне былі звальняныя ад прыгону паміж I86I і I870 гадамі. Прыміж таго, апошнімі дзесяткамі год беларускага гаспадарства ладная прагрэсыўная частка беларускіх паноў была за безадкладнае звальненьне сялян ад прыгону. Некаторыя зь іх зусім або часткава ўжыцьцёвілі гэта ў сябе /Берастоўскі ў Мерачы, Масальскі ў Ігумене, Храптовіч у Шчорсах і Вішневе ды інш./[398]. Высылаючы, па другім падзеле Беларусі, дэлегацыю на чале з Касьцюшкам да перамоваў із францускім рэвалюцыйным урадам, беларускія паны выдалі ад сябе забавязаньне безадкладнага вызваленьня сялян ад прыгону па ўзнаўленьні незалежнасьці Беларусі[399]. У паданай беларускай дэлегацыяй цару Аляксандру I у пачатку I8I2 г. праекце канстытуцыі беларускага гаспадарства, што мелася быць узноўленае, быў таксама - не зважаючы на супраціўны пагляд расейскага ўраду - пункт пра вывальненьне сялян ад прыгону на працягу I0-ёх год /I8I2-I82I/, вывальняючы штогод I0-ую частку[400].

Разглядаючы палажэньне Беларусі па далучэньні яе да Расеі, гісторык піша: "Загадам /расейскага ўраду/, выданым да ведама ўсяго жыхарства, было абвешчана, што ўсе жыхары Беларусі карыстаюцца /у сацыяльных дачыненьнях/ тымі самымі правамі, як і жыхары самое Расеі. Шляхце /дакладна: паном/ пераход пад уладу Расеі быў выгодным. У Расеі якраз тады быў самы росквіт паншчыны... Палажэньне сялянства шмат пагоршылася. Гаспадарствавыя падаткі павялічыліся 6 разоў, раўнуючы да тых, што плаціліся да скарбу Рэчыпаспалітай. Злажыўшыся гістарычна, прыгон у Беларусі меў характар прымацаваньня да зямлі, а не да пана. Зь пераходам пад уладу Расеі селянін стаецца прадметам гандлю бяз сувязі зь зямлёй. Дарма, што былі пратэсты мясцовай адміністрацыі ў васобе ген. губ. Чарнышова, які даводзіў у сваіх лістох цэнтральнаму ўраду нябыцьцё такога звычаю ў Беларусі, Сэнат зацьвердзіў гэтае права за панамі й на тэрыторыі Беларусі, каб не рабіць розьніцы зь іншымі часткамі Расеі ў правох паноў. Асоба селяніна была адданая пад поўны загад пана, які дастаў законам I773 г. права караць мужыка ўва ўсіх выпадках паводля свайго пагляду. На пана мужык ня мае права падаваць навет жальбы ўраду пад страхам кары бізуном і высланьня да Сібіру".

"Палажэньне мяшчан таксама пагоршылася. У Беларусі быў ладны лік местаў і мястэчак. Вялікая частка іх карысталася Магдэбурскім правам. Загадам ураду Кацярыны II гэтае права было зацьверджанае за местамі, але нябыцьцё гэтага права ў расейскіх местах пазбавіла яго й беларускія месты... У вайсковай павінна-

